## ПРАДМОВА



Гэты твор падзяліў лёс сваіх герояў Дафніса і Хлоі, ён, як і яны,— падкідыш-знайда. Мы ведаем толькі прозвішча яго аўтара-бацькі: Лонг. Але не ўпэўненыя, сапраўднае яно ці псеўданім.

Ёсць сцверджанне і больш катэгарычнае: ніякае гэта не імя. Проста перапісчык, падаючы першыя радкі твора: «Гісторыі пастушынай пра Дафніса і Хлою ўступ» замест слова «гісторыі (твора)» (у родным склоне па-грэцку «логі») памылкова падвоіў «г», а тады першае слова чытаецца «лонгі» і можа разумецца як родны склон ад імя Лонга (Лонгаса) у значэнні «Лонгавага (твора)... уступ». Але большасць вучоных лічыць, што ніякай памылкі не было: на востраве Лесбасе імя Лонга неаднакроць пацвярджаецца дакументамі, на Эгейскіх астравах, як сведчаць даследчыкі, яно было нярэдкае.

Як можна меркаваць, імя гэтае грэцкае: міжволі звязваецца з лацінскім словам Лонгус — доўгі. Такія імёны сустракаліся ў часы рымскіх цэзараў. Можна прыгадаць і імёны сафістаў — Цэлер (Хуткі) або Нігер (Чорны). І хай не насцярожвае лацінскае імя ў аўтара твора, напісанага па-грэцку. Нямала грэкаў насілі рымскія імёны, дый вольнаадпушчанікам розных нацыянальнасцяў давалі тады лацінскія імёны. У тыя часы (першыя стагоддзі нашай эры) многія рымляне добра ведалі грэцкую мову і нават пісалі на ёй.

Невядома, адкуль паходзіць пісьменнік. Магчыма, з Лесбаса — месца, дзе разгортваецца дзеянне яго славутага рамана? Асобныя вучоныя, спасылаючыся на апісанне марознай зімы ў творы — з'явы надзвычай рэдкай на гэтым востраве, і яшчэ сякія-такія як бы таксама недакладнасці, нават сумняюцца, што аўтар хоць калі бываў на Лесбасе.

Аднак гэта не бянтэжыць большасць даследчыкаў. Яны ўпэўненыя, што звесткі пра Лесбас пачэрпнуты аўтарам усё ж не з кніг.

На жаль, візантыйскія вучоныя, якія не абышлі ўвагаю і зусім мізэрных пісьменнікаў, ні радком не абмовіліся, адкуль быў Лонг. Мы не ведаем дакладна, калі ён жыў, калі стварыў раман, нават мераючы стагоддзямі: прыкладна II—V стст. нашай эры. Усё ж, пільна ўглядаючыся, гэтыя рамкі можна звузіць. Калі зважаць на згадку аднае мясціны рамана ў прамове імператара Юліяна «Непрыяцель барады», то «Дафніс і Хлоя» напісаны не пазней 362 года — вядомай даты самое прамовы. Ніжэйшая верагодная мяжа з'яўлення твора вызначаецца на стагоддзе пазней — сярэдзінаю трэцяга стагоддзя; вучоныя тут бралі пад увагу, здаецца, усё: і велічыню платы, якую Дафніс дае прыёмнаму бацьку Хлоі, гэтыя тры тысячы драхмаў, і стылістыку твора, якая вызначаецца сіметрыяй і гладкасцю, і нават такі матыў, як мужчынскае каханне парасіта Гнатана да хлопца.

Аднак найбольш пэўнае, што можна сказаць пра аўтара,— гэта бясспрэчная ўлюбёнасць яго ў старажытную Грэцыю, яе краявіды, мову, літаратуру.

У творы адкінуты далёкія блуканні і вандроўкі закаханых герояў па многіх краінах і морах, не чуваць і нудных дэкламацый і маналогаў, такіх абавязковых ва ўсіх ранейшых грэцкіх раманах, што, паводле аднаго досціпу, прачытаўшы з іх два, будзеш ведаць усе.

Умоўная раманная чужаземшчына адступілася,і вачам адкрыўся свой, грэцкі Лесбас, дзе на фоне аддаленай ад горада вёсачкі, гор ды мора, залацістых вінаграднікаў, авечых і казіных пашаў працякае жыццё галоўных герояў твора — маладых пастушкоў Дафніса і Хлоі. Адсланіўся ў нечым знаёмы свет буколікі, ідыліі, толькі ўзноўлены ўжо не вершаванаю моваю, як у Феакрыта, а празаічнаю. Феакрыт успомніўся нездарма, не толькі як стваральнік ідылій: у Лонга і імя пастуха, як у Феакрыта,— Дафніс, ёсць і іншыя наследаванні — апісанне лета ў рамане амаль дакладны пераклад на прозу канца VII Феакрытавай ідыліі.

...Іх немаўлятамі — хлопчыка і з разбежкаю ў два гады дзяўчынку — знаходзяць падкінутымі ў блізкіх, памежных месцах пастухі. Па знойдзеных пры іх памятных прыкметах было відаць, што гэта дзеці з багатых сем'яў. І, беручы на ўтрыманне, кожны пастух, відаць, марыў употай, што ўдасца пасля адшукаць іх бацькоў. А гэта абяцала шчаслівыя змены ў лёсе. Раб пастух мог атрымаць свабоду, а вольны — багацце.

Падкідышы, пэўна б, адразу загінулі, калі б імі не заапекаваліся сельскія багі — Пан ды німфы, якія паслалі хлопчыку казу, а дзяўчынцы авечку, якія і кармілі іх, пакуль не адшукалі пастухі малечаў, высочваючы, куды гэта адлучаецца іхняя жывёлка.

Пасля такога ўступу апавядальнік адразу перакідвае знайдаў у іх падлеткавы час. Дзеці падраслі ўжо, яму 15 гадоў, ёй — 13, разам пасвяць чароды і закахаліся адно ў аднаго. Яны яшчэ

нічога не ведаюць пра каханне, пра ўсемагутнага Эраса, а ўжо ахоплены яго пачуццём.

Лонг тонка паказвае зараджэнне кахання, як усё вакол каханай і каханага пачынае бачыцца інакш. І яе хваёвы вянок, і яго адзенне, і сірынга з цяплом яе губ. Непакой, надзея, радасць — усё міла і непаўторна, бо ўсё гэта ад яе і ад яго. Ёсць бясконцае задавальненне ў гэтых драбніцах. Твор поўніцца адчуваннем красы, радасці гэтых драбніц, кожная з якіх сама сведчанне кахання. Разлеглае рэха далёкай песні маракоў, як і смех вясновых патокаў, летняя спёка, зімовая сцюжа — усё гэта гучыць і спявае для Дафніса і Хлоі песняю кахання. Ды нават каб вакол іх нічога не здаралася, іх сэрцы перапоўнены ёю.

Гэты твор — магутны хваласпеў каханню. Ён праходзіць ці не праз усе маналогі герояў, пачынаючы ад таго першага, Хлоінага, калі яна знемагае, адчуўшы ўсямоц гэтага пачуцця:

«Хворая я цяпер, але што за хвароба, не ведаю: мне баліць, а няма на мне раны; сумую я, хоць ніводная з маіх авечак не прапала; я ўся палаю, хоць сяджу ў такім цяні...»

Ім, гэтым каханнем, ахоплены Дафніс, спазнаўшы Хлоін пацалунак:

«Што ж гэта зрабіў са мною Хлоін пацалунак?

Губы яе мякчэйшыя за ружы, і вусны саладзейшыя за мёд, пацалунак вастрэйшы, чым пчалінае джала. Часта цалаваў я казлянят, часта — маленькіх ягнят і тое цялятка, што падарыў Доркан; але гэты пацалунак нешта новае. Дыханне мяне пакідае, сэрца хоча выскачыць, душа замірае, а я ўсё ж зноў хацеў бы цалаваць».

Яму, Эрасу, богу кахання, прысвячае ўсё сваё красамоўства стары Філет:

«Эрас, дзеткі, бог маладосці, прыгожы, крылаты; таму яго цешыць маладосць, таму за красою ганяецца і душы ўскрыляе. А сіла яго такая, якой і Дзеўс не мае. Ён пануе над стыхіямі, пануе над зоркамі, пануе над такімі, як сам, багамі; такой улады вы не маеце над сваімі козамі і авечкамі. Усе кветкі — работа Эраса, гэтыя расліны — яго стварэнне. З яго волі рэкі цякуць, вятры дзьмуць».

І хоць для Дафніса і Хлоі першы пацалунак — як агонь, але надалей і яго не хапае: яны мучаюцца, пакутуюць, бо адчуваюць, што павінна яшчэ быць нешта, што дало б палёгку. Неспатольная смага палае ў сэрцы. І яны ніяк не могуць суняць яе, і не таму, што нешта перашкаджае ім, а са звычайнай несвядомасці. Бо яны ўпершыню для сябе адкрываюць пацалункі, абдымкі, ляжанне побач. Яны шукаюць розныя спосабы, каб заспакоіць незаспакоенае пачуццё. Перад імі ходзяць авечкі, козы, час ад часу ўзбуджаюцца, злучаюцца і спакойна пасля пасуцца. А яны — Дафніс і Хлоя — усё ніяк не могуць знайсці такога супакаення. Дафніс нават горыцца: няўжо ён горшы за барана ці казла? Найвялікшая цнатлівасць, нявінная гульня ідуць у творы на мяжы звабнай спакусы. Малюючы чысціню кахання, Лонг, аднак, не абміне згадаць і Гнатана, аматара да хлапечага кахання, і Лікэніён, даючы

ёй вымоўнае імя — па-грэцку «маладая ваўчыца»,— якім у старажытным Рыме называлі жанчын вельмі пэўнага занятку.

Спрактыкаваная Лікэніён пакажа Дафнісу, што такое фізічнае каханне. Але і навучаны Дафніс не наблізіцца да Хлоі, бо ён па-чалавечы, умеючы стрымаць сябе, паважаючы, кахае Хлою і не хоча спрычыніць ёй страху і болю.

Не, не так, як жывёла, кахае чалавек. І будзе ў іх той найвышэйшы, адзіны час, будзе шлюб, і боль каханай нібы растворыцца ў вясельных спевах і скоках шматлікіх сведкаў іх сямейнага шчасця.

Пра гэтую цнатлівасць аж да самага шлюбу ў творы пахвальна адгукнецца Гётэ.

Дафніс і Хлоя ў замарачэнні кахання, здаецца нават, не сапраўдныя пастухі. Нейкія кволыя, пасіўныя істоты. Яны не ўмеюць змагацца, не могуць пастаяць за сябе, больш плачуць і жаляцца. Асабліва Дафніс, які ў рамане часам выглядае бязвольнейшым, чым дзяўчына Хлоя. Тая яшчэ няўрымсна дзейнічае, калі разбойнікі хапаюць Дафніса. І які бездапаможны ён, адседжваецца ў дупле, калі метымнейцы хапаюць Хлою...

Увогуле героі як бы цалкам пакладаюцца на боскую волю. І ён сапраўды ратуе іх — Эрас, гэты ў рамане бог над багамі, бог кахання.

Праз такую пакорнасць герояў, праз адыход ад алімпійскага шматбожжа твор Лонга як бы засведчыў новы зрух у грамадстве, яго выспяванне ўспрыняць рэлігійнае і філасофскае аднабожжа. Твор Лонга з яго апяваннем маладога кахання як бы пярэдадзень тае ўсеахопнае любові да бліжняга, якую прагалосіць сваім дабравесцем той, хто дасць імем сваім назву новай, нашай эры.

Паказваючы пачуццё кахання ў самых розных праявах: у яго ўзлётах і ўпадках, радасцях і засмучэннях — аўтар разгортваў багацце чалавечай душы і тым самым спрыяў выхаванню ў чытачоў чалавечнасці.

Чытаючы раман, бачыш, як аўтар заўсёды рупіцца падкрэсліць у сваіх герояў добрае, годнае падтрымкі, ухвалы.

Калі канчаецца варажнеча між Мітыленаю і Метымнаю, аўтар усцешна зазначыць, што мітыленцы, маючы на выбар вайну і мір, знайшлі зручнейшым для сябе мір.

Ламан, убачыўшы падкінутае дзіця з дарагімі прыкметнымі знакамі, спярша думае забраць гэтыя знакі, а дзіця кінуць, але тут жа стрымлівае, глушыць у сабе пачуццё і сам дакарае сябе — а ў творы гэта ж заўсёды перад чытачом і яму навука! — асуджае сваю прагнасць, бо нават каза, якая бескарысліва корміць малога, зазначае ён, выглядае больш спагадліваю, чалавечнай, чым ён, чалавек.

У старажытнасці і ў Грэцыі, і ў Рыме быў нярэдкі звычай выкідаць дзяцей. На людным месцы — ці гэта была вуліца, тэатр або капліца — раптам знаходзілі ў кашы ці вялікім гліняным гаршку, у якім звычайна прыносілі багам ахвярныя пачаткі новага ўраджаю,— немаўля. Розная доля чакала такога ці такую знайду.

Былі і такія людзі, пра гэта радком згадваецца і ў творы, што радаваліся свайму мажліваму бацькоўству. Аднак нярэдка бралі на ўзгадаванне і з карыслівай мэтаю: каб зарабіць на прыёмышы, прадаўшы пасля ў рабства.

І таму, што ў рамане адразу два падкідышы — Дафніс і Хлоя,— тут добра праглядваецца і такая добрая аўтарская думка, звернутая да свайго сучасніка: няма лішніх дзяцей, каб можна было кідаць іх, адракацца. Усё ў гэтым свеце праходзіць — бяда, няшчасце, нават беднасць. Бывае ў жыцці і такое: падупалы зноў багацее, як гэта засведчыць у творы сваёю доляю Мегакл. І дзіця, якое сталася лішнім ротам у маладыя гады бацькоў, зможа стаць такою патрэбнаю апораю ім у старасці.

А сярод многіх дзяцей — аказацца ці не адзіным. Дафнісавы бацькі, меўшы чацвёра малых, былі ўпэўненыя, што апошняе дзіця не такое і патрэбнае, а кошт, каб падняць яго на ногі, ва ўсе часы дарагі, і немаўля адкінута. Але неспадзявана хвароба адначас забірае дваіх. І ў доме чуваць ужо толькі адзін галасок.

Лёс непрадбачаны, і чалавек не можа замахвацца на жыццё другога, бо замахваецца тады на сябе...

Лонг пазбягае падаваць у творы сцэны жорсткасці, якімі, бясспрэчна, было багатае тагачаснае грамадства. У змалёванай ідыліі, здаецца, і не вельмі адчуваецца рабства.

Але варта вясковаму ліхадзею патаптаць кветкі ў панскім садзе, і мы ўбачым, што пагражае рабу-слузе, які не ўпільнаваў іх,— пятля, у лепшым разе — суровая лупцоўка. У рамане — падкрэслім — усё складваецца як найлепш: добры панскі сынок, да таго ж загоджаны багатымі падарункамі, ускладае віну за здратаваныя кветкі на сваіх коней, якія нібыта сарваліся з прывязі. Але як лёгка ён згаджаецца на распусную просьбу Гнатана падарыць яму Дафніса — таго толькі і ўратавала неспадзявана выкрытае паходжанне: ён з Астылам — браты!..

Мы ведаем з гісторыі пра тыя няспынныя войны, якімі адзначаны канец антычнасці, пра тыя страшныя эпідэміі, якія касілі людзей. І зразумелая тая казка, у якой нібы ратаваўся Лонг, зразумелае тое замілаванне, з якім апісвае ў рамане аўтар сельскае жыццё, лагоднасць звычаяў, мяккасць характараў. Толькі яно, паводле Лонга, вартае ўхвалы. Усяго на нейкі час уварвуцца сюды гарадскія лотры, а колькі мітусні, непатрэбшчыны і нават зачэпку для ваеннае свары ўнясуць яны ў гэтае размеранае, справядлівае жыццё!

У аўтары ўгадваецца туга гарадскога чалавека па мілых воку сельскіх мясцінах, дзе адпачывае душа ў прасторы палёў і пашаў, дзе ёсць месца рэху, дзе цешыць вуха бляянне авечак і мэканне коз, дзе празрыстае паветра, здаровая яда — даспелы вінаград, свежы далікатны сыр...

Вечная кніга! З вечна жывою тугою па прыродзе, ад якой яшчэ і сёння адлучае чалавека горад, і з вечнаю мараю быць з ёю заадно — не часова, не выпадкова, не наездам... Нездарма і Дафніс і Хлоя ў канцы рамана, ужо адшукаўшы сваіх бацькоў, не застаюц-

ца ў горадзе, а вяртаюцца ў вёску, каб жыць здаровым жыццём, праўдзіваю, а не прыдуманаю працаю і кахаць... Ці не гэтаму раману будзе пасля праз цэлыя тысячагоддзі адгукацца тугою гарадскіх пакаленняў еўрапейская літаратура, а чытач шукаць і ніколі ўжо не знаходзіць такога кахання?! Дафніс і Хлоя зробяцца імёнамі закаханых на ўсе часы.

У творы бачыцца ўраўнаважанасць кампазіцыі, стройнасць разгортвання сюжэта: кожная з'ява ў жыцці аднаго героя мае сваю адпаведнасць у становішчы другога, і гэтыя раўналежныя пасля зліваюцца ў новым сінтэзе. Гэта вытрымана з самых першых старонак. Вось Ламан знаходзіць хлопчыка, якога карміла каза, і бярэ да сябе. Праз два гады Дрыяс гэтак жа знаходзіць дзяўчынку, якую карміла авечка, і бярэ сабе на ўтрыманне; пазней мы бачым, як, падросшы, гэтыя пастушкі разам пасуць чароды...

Пэўна, як і большасць літаратараў напрыканцы антычнасці, Лонг быў вучоны — рытар ці граматык. У аўтара твора відаць майстэрскае валоданне прыёмамі антычнай рыторыкі. Твор разгортвае перад чытачом ці не ўсю тагачасную класіфікацыю апісанняў: малюнкаў, краявідаў, мясцін, садоў, пораў года, асоб. Тут сустракаеш прамовы самых розных відаў, у тым ліку і судовыя, дыялогі, маналогі, скаргі.

Кожны эпізод у рамане добра абдуманы, узважаны. Дафніс, напрыклад, знойдзе на беразе мора каля мёртвага дэльфіна немалыя грошы, вынесеныя марскою хваляю і якія акурат патрэбныя яму, каб загадзіць Хлоінага бацьку. Для Дафніса гэты скарб — цуд. Для чытача зусім верагодны выпадак, добра абгрунтаваны ўсімі ранейшымі падзеямі яшчэ ў першай кнізе: напужаныя сабакамі козы ўцякаюць на бераг мора і, не знайшоўшы спажытку, аб'ядаюць лазу, якою гарадскія нядбайнікі наспех прывязваюць свой карабель з вялікім багаццем на ім, і яго пасля ветрам адносіць у мора...

Выразна выступае ў творы паралелізм падачы матэрыялу, вытрыманая сіметрыя ў будове сказаў. Фраза звычайна распадаецца на тры асобныя сказы, так званы трыколан. Празаічная плынь часам нібы пераходзіць у верш, месцамі нават узнікае рыфмоўка.

З тонкім разуменнем чытацкага ўспрымання раздзельчыкі часта канчаюцца важнаю фразаю для эмацыянальнага замацавання ўсяе сцэнкі ці развагі «пад заслону»: сказ закончыўся, а тэкст усё яшчэ ў табе гучыць...

Аўтар паказвае добрую дасведчанасць у грэцкай літаратуры. Пэўна, старажытныя папірусы і пергаменты, над якімі схіляўся ён, робячы каментарыі, пакідалі ў яго памяці незабыўны след. А можа, ён і спецыяльна выпісваў на васковыя таблічкі ўпадабаныя апісанні, сказы, выразы з гэтых пісьменнікаў (а знаўца антычнасці лёгка называе іх — Феакрыт, Сафо, Мосх, Біён, Алкіфран), і яны пасля клаліся трывалымі камянямі ў мур рамана.

Лёс ашчадзіў выдатны твор антычнасці — ён у ліку шасці

раманаў цалкам дайшоў да нас, захаваўшыся ў некалькіх спісках, што зберагаюцца ў бібліятэках Фларэнцыі і Рыма.

Праўда, сярэднявечча пра яго забылася, твор як бы сышоў у няпамяць. Але эпоха Адраджэння нанова адшукала яго, хоць тэкст быў няпоўны. Раман у выдатным французскім перакладзе Жака Аміё атрымаў шырокі розгалас. Ім зачытваліся, у еўрапейскіх літаратурах узніклі многія пастаралі-наследаванні.

У 1809 годзе ў Фларэнцыі ў бібліятэцы Св. Лаўрэнція афіцэр напалеонаўскай арміі Поль Луі Кур'е знайшоў поўны рукапіс «Дафніса і Хлоі» і ўзнавіў каля сямі старонак, якіх бракавала ў перакладзе Аміё (зараджэнне кахання Дафніса і Хлоі).

Вялікі Гётэ, для якога Лонг быў адным з улюбёных антычных пісьменнікаў, яшчэ раз перачытаў раман і пакінуў красамоўнае сведчанне свайго ўзрушэння: «Увесь гэты твор сведчыць пра найвышэйшае мастацтва і культуру... Трэба напісаць цэлую кнігу, каб поўнасцю ацаніць па годнасці ўсе перавагі яго. Яго карысна чытаць штогод, каб вучыцца ў яго і кожны раз нанова адчуваць яго красу».

*Анатоль Клышка*



# ПАСТУШЫНАЯ ГІСТОРЫЯ ПРА ДАФНІСА І ХЛОЮ



## УСТУП

На Лесбасе, палюючы, я ўбачыў у гаі, прысвечаным німфам, найпрыгажэйшае відовішча, якое калі-небудзь бачыў: маляўнічую выяву, гісторыю аднаго кахання. Прыгожы быў і сам гай — шмат дрэў, поўна кветак, удосталь вады: адна крыніца ўсё жывіла, і кветкі, і дрэвы; але прывабнейшы быў абраз — тут і адменнае майстэрства, і праўда кахання; так што і шмат чужаземцаў, прачуўшы пра яго славу, ішло сюды, німфам маліліся, абразам дзівіліся. А на ім жанчыны — адны нараджаюць, другія — немаўлят у пялёнкі завінаюць; дзеці пакінутыя і авечкі ды козы, што кормяць іх, пастухі, што дзяцей да сябе прымаюць, маладыя, што ў шлюб уступаюць, напад разбойнікаў, уварванне захопнікаў. Шмат іншага, але ўсё пра каханне бачыў я і здзівіўся, і прага мяне агарнула паспрачацца ў выяве з тым абразом. І, знайшоўшы таго, хто мне змог вытлумачыць абраз, вышчыраваў я чатыры кнігі ў ахвяру Эрасу, німфам і Пану, у дарунак усім людзям на ўцеху: хворага вылечыць, зажуранага суцешыць, таму, хто ўжо кахаў, згадкі абудзіць, таго, хто яшчэ не кахаў, навучыць.

Бо ўвогуле ніхто ж ад кахання не ўцёк і не ўцячэ, пакуль ёсць краса і вочы бачаць. Нам жа хай дасць бог у ясным розуме каханне іншых людзей апісаць.



# КНІГА ПЕРШАЯ

1

Горад на Лесбасе ёсць — Мітылена, вялікі, прыгожы; яго разразаюць каналы, яго аздабляюць масты з часанага белага каменю. Можна падумаць, што бачыш не горад, а востраў. Ад гэтага горада Мітылена прыблізна за стадыяў дзвесце быў маёнтак аднага багацея. Цудоўнае ўладанне: дзічына ў гарах, пшаніца ў палях, вінаградная лаза на пагорках, чароды авечак, коз на пашах, і мора набягае на мяккі пясок разлеглага ўзбярэжжа.

2

У гэтым маёнтку казапас, на імя Ламан, пасвячы, знайшоў дзіця, якое карміла адна з яго коз. Быў там лес і гушчар з цярніны, якую абвіваў плюшч, ды мяккая трава, на ёй і ляжала дзіця. Сюды ўпотай усё бегала каза, знікаючы і пакідаючы сваё казлянятка, абы пабыць з немаўлём. Згледзеў Ламан, што яна бегае туды і назад, шкада ж яму было пакінутага казлянятка; і аднаго разу ў самы поўдзень падаўся ён услед за ёю назіркам і бачыць, як каза асцярожна пераступае цераз дзіця, каб не пашкодзіць яго капытцамі, і як малое, нібы з матчынай цыцы, ссе струменістае малако. Поўны здзіўлення, ён, вядома, падыходзіць бліжэй і знаходзіць хлопчыка, моцнага і прыгожага, і пры ім рэчы, зараскошныя як на долю падкідыша: было там коўдзерка пурпуровае, за́шпілька залатая і ножык з тронкам са слановай косці.

3

Спярша ён намерыўся забраць толькі прыкметныя знакі, не турбуючыся пра малога; але пасля засаромеўшыся, што з казою і то не зраўняўся ў спагадлівасці, і дачакаўшыся ночы, прыносіць усё да свае жонкі Мірталы — і прыкметныя знакі, і дзіця, і самую казу. Жонка здзівілася, што козы прыводзяць на свет і хлапчукоў, але ён усё расказаў, як знайшоў падкінутага, як бачыў, што дзіця ссала казу, як сорамна стала кінуць яго на пэўную смерць. Яна з ім згадзілася, яны хаваюць усё, што ляжала пры ім пакінутае, а дзіця прызнаюць сваім і аддаюць казе карміць яго. І каб імя дзіцяці здавалася пастушыным, вырашылі назваць яго Дафнісам.

4

Ужо два гады мінула, і вось пастух на імя Дрыяс, што пасвіў на памежных лугах, натыкаецца на такую ж праяву і знайду.

Была тут пячора німфаў — вялікая скала, усярэдзіне пустая, а зверху акруглая. Статуі ж саміх німфаў былі зроблены з каменю: ногі босыя, рукі да плячэй голыя, валасы распушчаныя на шыю, павязка на паясніцы, усмешка ў вачах; а ўсе разам нібы танцуюць у карагодзе. Уваход у пячору быў якраз пасярод вялікай скалы. Вада, што выбівалася з крыніцы, утварала ручаіну, так што перад пячораю рассцілаўся дужа прывабны луг, густую і мяккую траву яго і паіла гэтая вільгаць. Тут віселі даёнкі, флейты-папярочкі, сірынгі, дудачкі-чарацянкі — ахвярныя дары даўнейшых пастухоў.

5

У гэтую пячору німфаў часта забягала авечка, якая нядаўна акацілася, так што не раз нават думалі, быццам яна загінула. Каб пакараць яе і вярнуць да парадку, пастух скруціў вітку з зялёнай галінкі на ўзор пятлі і падаўся да скалы, каб злавіць авечку. Але, падышоўшы, ён убачыў тое, што найменш спадзяваўся ўбачыць, авечку, якая зусім у чалавечы спосаб дае дзіцяці ссаць вымя, поўнае малака, а немаўля без плачу прагна шукае то аднаго, то другога

саска сваім роцікам, чыстым і свежым, бо авечка аблізвала языком твар немаўляці, як толькі яно напівалася. Гэта была дзяўчынка, і пры ёй ляжалі пялёнкі і прыкметныя знакі: залататканая павязка на галаву, гафтаваныя золатам чаравічкі і залатыя бранзалеты на ногі.

6

Прызнаўшы ў гэтай знаходцы боскую волю і ўзяўшы прыклад ад авечкі спагадаць малечы і любіць яе, пастух бярэ немаўля на рукі, кладзе яго прыкметныя знакі ў торбу і моліцца німфам, каб яму пашчасціла выгадаваць іх апякунку ў дабры і шчасці. А калі ўжо быў час дахаты гнаць чараду, вяртаецца ён у двор, жонцы, што бачыў, расказвае ды, што знайшоў, паказвае і ўгаворвае яе прызнаць дзіця за дачку і ўпотай гадаваць, як сваю. Напэ — так звалі жанчыну — тут жа стала дзіцяці за маці і любіла яго, нібы баялася, што авечка пераўзыдзе яе ў злагадзе, і дае дзяўчынцы для пэўнасці таксама пастушынае імя — Хлоя.

7

Гэтыя дзеці вельмі хутка выраслі і красою выдаліся прыгажэйшымі за вясковых. Ужо было хлопцу пятнаццаць гадоў ад нараджэння, а дзяўчаці — на два гады меней, калі аднае начы Дрыяс і Ламан бачаць такі сон. Здаецца, прыйшлі тыя німфы з пячоры, дзе была крыніца і дзе Дрыяс знайшоў дзяўчынку, і перадалі Дафніса і Хлою вельмі вясёламу і прыгожаму хлопчыку, які меў крылы за плячыма і нёс кароткія стрэлы і маленькі лук; гэты хлопчык, крануўшыся адною стралою абаіх, прызначыў пасвіць надалей яму коз, а ёй авечак.

8

Сасніўшы гэты сон, абодва зажурыліся, што гэтыя дзеці павінны былі коз і авечак пасвіць, хоць пялёнкі шчаслівейшую долю ім прадракалі, таму яны іх і далікатнейшаю ядою кармілі, і літарам іх вучылі і ўсяму, што ў сельскім жыцці за годнае ўважалася. І ўсё ж падумалі яны, што павінны ў гэтым слухацца багоў, бо і ўратавала дзяцей найвышэйшая

боская воля. І калі яны адзін аднаму свой сон расказалі і прынеслі ў пячору німфаў ахвяру крылатаму хлопчыку — яго імя было ім невядомае,— паслалі яны дзяцей пастухамі і чародамі, навучыўшы перад тым іх усяму: як трэба да полудня пасвіць, як трэба пасвіць, калі спёка ападае; калі гнаць на вадапой, калі гнаць назад у загон, на якую худобу пастухоўскага кія ўжыць, на якую — аднаго голасу. Дзеці з вялікай радасцю ўзяліся за работу, як бы ім высокую ўладу даручылі, і любілі коз і авечак больш, чым гэта звычайна водзіцца ў пастухоў, яна была ўдзячная авечцы за тое, што яе ўратавала, ён жа не забыўся, як яго, падкінутага, каза карміла.

## 9

Вясна была ў самым пачатку, і ўсе кветкі цвілі — у лясах, на лугах, і колькі іх было ў гарах; і ўсюды ўжо пчаліны гуд, птушыны шчэбет, гульні малечы з новага прыплоду; ягняты скачуць па пагорках, гудуць у лугах пчолкі, у гушчары спяваюць птушкі. І як гожая пара года поўніла ўсё весялосцю, то і яны абое — маладыя, прывабныя — пераймалі ўсё, што чулі і бачылі. Чулі спеў птушак — і самі спявалі, бачылі скокі ягнятак — і самі лёгка скакалі, і, пчол наследуючы, збіралі яны кветкі, аднымі з іх убіралі сабе грудзі, з другіх плялі вяночкі і прыносілі ў дарунак німфам.

## 10

І ўсё яны рабілі разам, пасвячы блізка адно каля аднаго чароды. І часта Дафніс займаў авечак, якія разбягаліся, часта і Хлоя зганяла ўніз са скал вельмі адважных коз. А то адно з іх глядзела абедзве чарады, калі другое занадта захаплялася гульнёю. Гульні ж іхнія былі пастушыныя, дзіцячыя. Яна, назбіраўшы дзе-небудзь там бадылінак, пляла з іх пастку на цвыркуноў і за работаю спускала з вока авечак; а ён, нарэзаўшы тонкіх чароцін, пракруціўшы дзірачкі ў каленцах, зляпліваў трубачкі адну з адною мяккім воскам і аж да ночы вучыўся іграць на сірынзе. Калі-нікалі яны дзяліліся між сабою малаком і віном і спажывалі разам полудзень, што бралі з сабою з дому. І хутчэй можна было бачыць асобна авечак і коз, чым Хлою і Дафніса.

## 11

Тым часам, калі яны бавіліся, Эрас учыніў ім такую сур'ёзную штуку. Ваўчыца, якая нядаўна вывела ваўчанят, часта цягала авечак з навакольных сёл, бо ёй, каб пракарміць сваіх малых, трэба было шмат яды. І вось сяляне, сышоўшыся ўночы, выкапалі яму — сажань у шырыню, чатыры ў глыбіню. Большую частку выбранай зямлі, аднёсшы далёка, раскідалі, а на яму наслалі сухіх доўгіх жэрдачак і прысыпалі рэштай зямлі, каб усё тут выглядала, як было дагэтуль; але калі б нават заяц прабег тут, то праламаў бы латы, якія былі слабейшыя за саломінкі, і тады можна было б убачыць, што гэта не зямля, а падабенства зямлі. І хоць яны выкапалі шмат такіх ям па гарах і раўнінах, не пашчасціла ім злавіць ваўчыцу: яна ўчула, што зямля тут падманная; затое шмат коз і авечак зламалі сабе каркі, ды бязмала і Дафніс, а выйшла яно так:

## 12

Два казлы, раз'ятрыўшыся адзін на аднаго, схапіліся ў рожкі. У гэтай гвалтоўнай сутычцы адзін з іх зламаў сабе рог і, падскочыўшы ад болю, кінуўся ўцякаць; але другі, перамогшы, бег за ім следам, не даючы ўцекачу супачынку. Дафніс, перажываючы за зламаны рог і зазлаваўшыся на нахабнага казла, ухапіў палку ды свой пастуховы кій і кінуўся даганяць даганяльшчыка. Але таму, што ні той, што ўцякаў, ні другі, разгневаны, што яго даганяў, не глядзелі, што ў іх было пад нагамі, то абодва падаюць у яму, перш казёл, а Дафніс за ім. Гэта і ўратавала Дафніса, бо, як падаў, апорай яму быў казёл. Плачучы, чакаў ён, ці не прыйдзе хто, каб яго выцягнуць; а Хлоя, убачыўшы гэта, спяшаючыся, пабегла да ямы; і, пераканаўшыся, што Дафніс жывы, кліча валапаса з суседняга поля на дапамогу. Прыйшоўшы, ён пачаў шукаць доўгай вяроўкі, трымаючыся за якую Дафніс мог бы вылезці наверх. Але вяроўкі не было, і Хлоя, развязаўшы сваю павязку, дала яе апусціць валапасу; так яны, стоячы на беразе ямы, абое цягнулі, а ён, ухапіўшыся рукамі за павязку, выбраўся наверх. Выцягнулі яны і няшчаснага казла, які страціў абодва рагі; такая вось кара спасцігла за пераможанага казла. Яны аддалі яго валапасу з удзячнасцю за паратунак, каб той яго прынёс у ахвяру, а дома збіраліся зманіць, што напалі ваўкі, калі б

хто заўважыў нястачу; самі ж, вярнуўшыся назад, агледзелі сваіх авечак і коз; і ўбачыўшы, што козы і авечкі ў добрым ладзе пасуцца, уселіся яны на дубовай калодзе і пачалі разглядаць, ці не параніў Дафніс, падаючы, чаго сабе да крыві. Але не было ані раны, ані крыві, толькі ў зямлі і гразі былі валасы ды ўсё цела. І ён намерыўся памыцца, пакуль Ламан і Міртала не даведаліся, што з ім здарылася.

## 13

І, увайшоўшы разам з Хлояй у пячору німфаў, ён аддаў пільнаваць ёй свой кароткі хітон і пастуховую торбу, а сам, стаўшы над крыніцаю, узяўся мыць сабе валасы і ўсё цела. А валасы яго былі чорныя і густыя, цела — загарэлае ад сонца: можна было падумаць, што гэта ад ценю валасоў такое смуглае. Калі Хлоя ўбачыла так яго, здаўся ёй Дафніс прыгожым, і таму, што падаўся прыгожым упершыню, падумала яна, што прычынаю красы тут купанне. І калі яна змывала яму спіну, адчула, якое мяккае цела, так што яна не раз украдкам дакраналася да сябе, каб пераканацца, ці яе цела далікатнейшае. А пазней яны — сонца ж было на захадзе — пагналі чароды дахаты. Хлоя ж з таго часу нічога больш не хацела, абы толькі зноў бачыць, як Дафніс купаецца.

Назаўтра, калі яны зноў прыйшлі на пашу, Дафніс, седзячы, як звычайна, пад дубам, іграў на сірынзе і заадно сачыў за козамі, якія ляжалі і нібы прыслухоўваліся да яго ігры, а Хлоя, седзячы побач з ім, хоць і сачыла за чарадою авечак, але яшчэ часцей пазіглядала на Дафніса; і зноў ён, калі іграў на сірынзе, здаўся ёй прыгожым, і зноў яна палічыла музыку за прычыну яго красы, а таму яна пасля яго ўхапіла сірынгу, каб паспрабаваць, ці не зробіцца таксама прыгожаю. Яна ўгаварыла яго зноў скупацца, і глядзела на яго, калі ён купаўся, і, бачачы яго, дакранулася, і зноў адышла з подзівам, а гэты подзіў быў пачаткам кахання.

Што здарылася з ёю, гэтага не ведала маладое дзяўчо, якое вырасла ў вёсцы і яшчэ ні разу не чула імя Эрас. Смутак сціснуў ёй сэрца, вочы няўважна блукалі, і яна часта вымаўляла: Дафніс! Яда ёй была не ў памяці, начамі не спала, забывалася пра сваіх авечак, яна то смяялася, то плакала; то засынала, то зрывалася са сну; твар яе то быў бледны, то раптам зноў успыхваў чырванню. Нават кароўка, якую ўджаліць авадзень, не мучыцца так. Аднаго разу, калі яна была адна, прыйшлі ёй на розум вось такія словы:

## 14

«Хворая я цяпер, але што за хвароба, не ведаю: мне баліць, а няма на мне раны; сумую я, хоць ніводная з маіх авечак не прапала; я ўся палаю, хоць сяджу ў такім цяні. Колькі разоў ні абдзіралі мяне калючкі, я не плакала; колькі пчол ні джалілі мяне, я не адмаўлялася ад яды; але тое, што цяпер раніць сэрца, яшчэ вастрэйшае. Дафніс прыгожы, але ж і кветкі прыгожыя; прыгожа гучыць яго сірынга, але прыгожа спяваюць і салаўі; ды я пра іх ані не думаю. О, калі б я была яго сірынгаю і ўбірала яго дыханне, ці калі б я была козачкаю і каб ён пасвіў мяне! О ліхая вада, толькі Дафніса ты зрабіла прыгожым, а я ж дарэмна купалася. Гіну я, любыя німфы, і нават вы не ратуеце дзяўчыны, што вырасла пры вас. Хто ж вас вянкамі прыбіраць будзе пасля мяне? Хто бедных ягнятак карміць будзе? Хто дагледзіць майго стракатлівага цвыркуна, якога я з вялікаю цяжкасцю злавіла, каб ён перад пячораю сваім цвырканнем спяваў мне на сон; але я цяпер праз Дафніса страціла сон, і дарэмна стракоча мой цвыркун».

## 15

Так пакутавала, так казала яна, намагаючыся знайсці назву кахання. Але Доркан, той валапас, што Дафніса выцягнуў і казла з ямы, дзяцюк з першым пушком на барадзе, які ведаў каханне ў слове і яве, з таго самага дня адразу закахаўся ў Хлою, і чым далей беглі дні, тым больш распалялася душа, і, на Дафніса як на хлапчука не зважаючы, наважыўся падарункамі або сілаю дамагчыся свайго. Спярша ён прынёс ім падарункі: яму валапасаву сірынгу на дзевяць дудачак, якія былі меддзю замест воску змацаваныя, а ёй — шкуру лані, якую носяць вакханкі,— плямістую, нібы яе фарбамі размалявалі. З гэтага часу ён, лічачыся за сябра, штораз меней зважаў на Дафніса, а Хлоі штодня прыносіў ці мяккага сыру, ці вянок з кветак, ці спелы яблык; аднаго разу прынёс цялятка-сысунка, пазалочаны драўляны кубак, маладзенькіх горных птушак. А яна, недасведчаная ў хітрыках кахання, прымаючы гасцінцы, цешылася, а яшчэ больш з таго, што яна цяпер мела чым абдорваць Дафніса.

І аднаго разу, бо ўжо і Дафніс павінен быў спазнаць мукі кахання, усчалася ў яго з Дорканам спрэчка, хто з іх

прыгажэйшы, а суддзёю мела быць Хлоя, а за ўзнагароду таму, хто пераможа, было прызначана пацалаваць Хлою. Першы Доркан вось што сказаў:

## 16

«Я, дзяўчына, большы за Дафніса, дый я валапас, а ён казапас; і я нагэтулькі лепшы за яго, наколькі каровы лепшыя за козы; і белы я, як малако, валасы залацістыя, як даспелае поле перад жнівом, і выкарміла мяне маці, а не якая жывёла. Ён жа малы і безбароды, як жанчына, і чорны, як воўк. Ён пасе казлоў і пахне пагана, а такі бедны, што і сабакі не пракорміць. Калі яго, як кажуць, паіла сваім малаком каза, то нічым ён ад казляняці і не розніцца».

Гэтак і падобна да гэтага казаў Доркан, а пасля яго — Дафніс: «Мяне выкарміла каза, як Дзеўса. Я пасу коз, і яны большыя, чым Дорканавы каровы; я ані не пахну ад іх, як і Пан, хоць той больш як на палавіну сам казёл. У мяне ўдосталь сыру, і хлеба, спечанага на ражне, і белага віна, а гэта — дастатак заможных сялян. Безбароды я, але такі і Дыяніс; цёмны я, але такі і гіяцынт; Дыяніс жа пераўзыходзіць сатыраў, а гіяцынт — лілеі. Ён жа руды, як ліс, і барадаты, як казёл, а белы, як гарадская жанчына. І калі табе давядзецца пацалаваць каго, то мяне пацалуеш у вусны, а яго — у шчэць на барадзе. І ўспомніш тады, дзяўчына, што цябе выкарміла авечка, а ты такая прыгожая».

## 17

Далей Хлоя не вытрымала, а ўзрадаваўшыся гэтай пахвале і ўжо даўно маючы ахвоту пацалаваць Дафніса, ускочыла і пацалавала яго, хоць і прастадушна і няўмела, але так, што змагла душу распаліць. Доркан, засмучаны, пайшоў, шукаючы іншай дарогі да кахання; а Дафніс, бы яго не пацалавалі, а ўкусілі, тут жа спахмурнеў і часта ўздрыгваў, не могучы суцішыць сэрца, яму не цярпелася паглядзець на Хлою, а як глянуў — абліўся румянцам. Тады ён першы раз са здзіўленнем заўважыў, што валасы яе залацістыя і вочы ў яе вялікія, як у цялушкі, і твар яе сапраўды бялейшы за казінае малако,— быццам ён толькі што вочы займеў, а ўвесь час дагэтуль быў без іх. Цяпер ён да яды ледзь дакранаўся, а піць калі хто прымушаў, ледзь абмочваў губы. Маў-

клівы зрабіўся, а раней стракатаў больш за цвыркуноў, вялы зрабіўся, а некалі быў жвавейшы за коз; ён перастаў сачыць за чарадою, кінуў сірынгу; яго твар быў бляднейшы, чым трава ў сухмень. Толькі перад Хлояй быў гаваркі. І калі часам заставаўся без яе, вось так размаўляў сам з сабою:

18

«Што ж гэта зрабіў са мною Хлоін пацалунак?

Губы яе мякчэйшыя за ружы і вусны саладзейшыя за мёд, пацалунак вастрэйшы, чым пчалінае джала. Часта цалаваў я казлянят, часта — маленькіх ягнят і тое цялятка, што падарыў Доркан; але гэты пацалунак нешта новае. Дыханне мяне пакідае, сэрца хоча выскачыць, душа заміраe, а я ўсё ж зноў бы хацеў цалаваць. Ах, благая перамога: дзіўная хвароба, імя якой я і назваць не ўмею. Можа, Хлоя атруты паспрабавала, перш чым мяне пацалавала? А як жа тады яна не памерла? Як спяваюць салаўі, а мая сірынга маўчыць; як скачуць казляняткі, а я нерухома сяджу; як цвітуць кветкі, а я вянкоў не пляту! Расцвітаюць лілеі і гіяцынты, а Дафніс вяне. Няўжо Доркан неўзабаве будзе выглядаць прыгажэйшым, чым я?»

19

Так пакутаваў і казаў наймілейшы Дафніс, першы раз спазнаючы ў слове і яве каханне.

А Доркан, валапас, закаханы ў Хлою, прыпільнаваўшы, калі Дрыяс паблізу саджаў атожылкі вінаграднай лазы, падышоў з некалькімі адборнымі сырамі і даў іх у падарунак яму як старому прыяцелю з тых часоў, калі Дрыяс яшчэ сам пасвіў; пачаўшы з гэтага, перавёў ён гаворку на жаніцьбу з Хлояй. Калі б яму аддалі яе ў жонкі, ён абяцаў як валапас шмат каштоўных дароў: пару валоў пад плуг, чатыры раі пчол, пяцьдзесят ушчэпаў яблынь, валовую шкуру на падэшвы і штогод цяля, ужо адлучанае ад каровы; так што Дрыяс, спакусіўшыся гэткімі падарункамі, амаль згадзіўся на шлюб. Але калі разважыў, што дзяўчына вартая лепшай долі, і збаяўся, што трапіць у непапраўную бяду, калі ўсё выйдзе наверх, у шлюбе яму адмовіў, перапрасіў яго і названых дароў не прыняў.

## 20

Доркан, другі раз ашукаўшыся ў сваёй надзеі і намарна страціўшы добрыя сыры, надумаўся ўзяць Хлою гвалтам, калі яна будзе адна. І падгледзеўшы, што яны на перамену гоняць на вадапой свае статкі — аднаго дня Дафніс, другога — дзяўчына, прыдумаў ён акурат пастухоўскую хітрасць.

Ён узяў шкуру вялікага воўка, якога некалі бык, абараняючы сваіх кароў, закалоў рагамі, захінуўся ў яе з галавы да ног, пярэднія лапы нацягнуў на свае рукі, заднія — на ногі ад сцёгнаў да пят, а раскрытая пашча прыкрыла яму галаву, як шлем цяжкаўзброенага ваякі. Прыкінуўшыся як мага найлепш дзікім зверам, ідзе ён да ручаіны, з якой пасля пашы пілі козы і авечкі. У вельмі глыбокай упадзіне была ручаіна, усё месца навокал глушылася цярнінаю, ажынаю, нізенькім ялаўцом і бадзякамі; лёгка мог бы там і сапраўдны воўк ляжаць у засадзе. Схаваўшыся тут, Доркан чакаў, калі надыдзе час вадапою, і меў вялікую надзею, што ён перапалохае сваім выглядам Хлою і яна апынецца ў ягоных руках.

## 21

Прамінула няшмат часу, і Хлоя пагнала статкі да ручаіны, пакінуўшы Дафніса зразаць зялёныя парасткі на корм казлянятам пасля пашы. Але сабакі, якія беглі тут жа, сцерагучы авечак і коз, і па сабачай звычцы прынюхваліся, учулі Доркана, як ён падпаўзаў, каб напасці на дзяўчыну, голасна загаўкалі і кінуліся на яго, як на сапраўднага воўка; і перш чым ён з перапалоху ўскочыў на ногі, аблажылі яго і пачалі рваць шкуру. Нейкі час ён яшчэ ціха ляжаў у гушчары пад накінутаю шкураю, баючыся адкрыцца; але калі Хлоя, перапалохаўшыся пры першым поглядзе на яго, пачала клікаць Дафніса на дапамогу, а сабакі, сарваўшы воўчую шкуру, упіліся ў яго цела, ён залямантаваў і пачаў прасіць дапамогі ў дзяўчыны і Дафніса, які ўжо прыбег сюды. Тыя зычным воклікам хутка супакоілі сабак, а Доркана, у якога былі пакусаны сцёгны і плечы, павялі да ручаіны, прамылі яму раны ад сабачых зубоў і прыклалі да іх зялёнай вязавай кары, пажаваўшы яе; яны палічылі апрананне ў шкуру за пастухоўскі жарт, і, зусім не гневаючыся, суцешылі яго, і, правёўшы яшчэ трохі пад рукі, адпусцілі дахаты.

## 22

Доркан, выбавіўшыся з бяды і ўратаваўшыся, хоць і не з воўчай пашчы, як гэта кажуць, а з сабачай, пайшоў загойваць свае раны; а Дафніс і Хлоя мелі шмат клопату, аж да ночы збіраючы коз і авечак: бо спуджаныя воўчаю шкураю і ўзбуджаныя сабачым брэхам адны з іх на скалы ўзбеглі, а другія аж да мора дабеглі. Хоць і былі яны прывучаныя слухацца голасу і на сірынгу супакойвацца, а калі пляснуць у далоні — збірацца, але на той раз страх прымусіў на ўсё забыцца. З цяжкасцю, як зайцоў па слядах, расшуквалі іх Дафніс і Хлоя і загналі ў аборы. Толькі тае начы заснулі яны глыбокім сном і знайшлі ў стоме лекі ад мук кахання.

Але калі зноў прыйшоў дзень, зноў яны цярпелі ў той жа спосаб. Радаваліся, убачыўшыся, журыліся, расстаючыся, нечага прагнулі, але не ведалі, чаго прагнуць. Адно толькі ведалі яны, што яго загубіў пацалунак, а яе — купанне.

## 23

Распальвала іх і сама пара года. Вясна ўжо канчалася, лета пачыналася, усё было ў росквіце, дрэвы ў пладах, палі ў каласах; усцяж мілае цыкад стракатанне, садавіны салодкае пахкае дыханне ды радаснае авечак бляянне. Можна было б падумаць, што рачулкі, спакойна воды коцячы, спявалі, што вятры сваім подзьмухам па соснах на сірынзе ігралі, што яблыкі ў знямозе кахання долу спадалі, што сонца, закаханае ў красу, усіх раздзявала.

Дафніс, распалены ўсім гэтым, кідаўся ў раку, то плёскаўся ў вадзе, то ганяўся за разгулянаю рыбаю; а часта і піў, як бы хацеў патушыць агонь усярэдзіне. Хлоя ж, падаіўшы авечак і многіх коз, доўга яшчэ ўпраўлялася, каб сквасіць малако; а мухі моцна даймалі і кусалі, калі яна іх праганяла. Пасля яна, умыўшы твар, прыбіралася вянком з хваёвых галінак і, ахінуўшы паясніцу шкурай аляняці, напаўняла посуд віном і малаком, каб разам з Дафнісам выпіць гэтага пітва.

## 24

Калі ж надышоў поўдзень, вочы іх адразу трапілі ў палон чараў. Бо яна, убачыўшы голага Дафніса, уражаная яго дасканалай красою, знемагала, не знаходзячы ў яго ніякай

заганы; ён жа, гледзячы на яе, апаясаную шкураю аляняці, у хваёвым вянку, калі яна яму падавала кубак, думаў, што бачыць німфу з пячоры. Пасля ён хапаў у яе з галавы хваёвы вянок і надзяваў яго на сябе, спачатку пацалаваўшы гэты вянок; яна таксама, калі ён раздзяваўся і купаўся, захіналася ў яго вопратку, спачатку яе пацалаваўшы. Часамі яны кідалі адно ў аднаго яблыкі або прыбіралі адно аднаму галаву, расчэсваючы валасы на прабор. І Хлоя параўноўвала яго валасы з міртам, бо яны былі чорныя, ён жа яе твар параўноўваў з яблыкам, бо ён быў белы і румяны. Ён вучыў яе іграць на сірынзе; але калі яна пачынала дзьмуць, ён выхопліваў у яе і сам губамі перабіраў чароціны; і ўдаючы, што папраўляе яе памылкі, прыдумаўшы прыстойную прычыну, праз сірынгу цалаваў Хлою.

25

Аднаго разу апоўдні, калі ён іграў на сірынзе, а чароды ляжалі ў цяні, Хлоя непрыкметна задрамала. Заўважыўшы гэта, Дафніс адклаў сірынгу, прагна агледзеў яе ўсю — цяпер жа ён ані не саромеўся — і патаемна і разам з тым ціха прашаптаў: «Як гэтыя вочы спяць! Як вусны салодка дыхаюць! Так не пахнуць ні яблыкі, ні кусты. Але я баюся цалаваць: пацалунак раніць сэрца і, як малады мёд, прыводзіць у шаленства. І я баюся пацалункам разбудзіць яе. О гаварлівыя цыкады! Яны не дадуць спаць ёй сваім моцным стракатаннем. Яшчэ і казлы, б'ючыся, ляскаюць рагамі. О ваўкі, баязлівейшыя за лісоў, чаму ж вы іх не схапілі?!»

26

Калі ён так казаў, цыкада, уцякаючы ад ластаўкі, якая хацела яе злавіць, упала Хлоі на грудзі; ластаўка — за цыкадаю, і хоць не змагла яе злавіць, але, гонячыся за ёю, праляцела так блізка, што кранулася сваім крыллем Хлоінай шчакі. Не ведаючы, што з ёю здарылася, Хлоя моцна ўскрыкнула і прахапілася са сну, але, убачыўшы над сабою ластаўку і Дафніса, што смяяўся з яе спалоху, яна супакоілася і працерла ўсё яшчэ сонныя вочы. Цыкада, што схавалася ў Хлоі на грудзях, адазвалася, нібы той, хто шукаў прытулку, дзякаваў за свой ратунак. Зноў Хлоя галосна ўскрыкнула, а Дафніс засмяяўся. І, карыстаючыся

нагодаю, прасунуў руку між грудзей і выняў добрую цыкаду, якая і ў яго руцэ не маўчала. Хлоя ўзрадавалася, убачыўшы яе, узяла, і пацалавала, і зноў пасадзіла стракатліўку сабе на грудзі.

## 27

Усцешыла іх раз туркаўка, прабуркаваўшы з лесу сваю пастушыную песеньку. І калі Хлоя захацела даведацца, што яна такое гаворыць, а Дафніс ёй растлумачыў, расказаўшы вядомую казку: «Была, дзяўчо, адна дзяўчынка, такая прыгожая, як ты, і пасвіла яна ў лесе шмат жывёлы. А была яна пяюха, і кароўкі радаваліся яе спевам, пасвячы іх, яна не мела патрэбы ні біць іх пастуховым кіем, ні пароць ражном; а садзілася пад хвойкаю, прыбіралася ў хваёвы вянок, спявала пра Пана і Пітыс, і каровы, зачараваныя спевам, не адыходзіліся ад яе. Адзін хлопец, што непадалёк пасвіў кароў і ўмеў спяваць гэтак жа, як дзяўчына, заспрачаўшыся з ёю, што лепш спявае, узвысіў свой голас, моцны, як у мужчыны, і мілы, як у дзіцяці, завабіў у свой статак восем яе найлепшых кароў і пагнаў іх. Дзяўчына, засмучоная стратаю жывёлы і няўдачаю ў спевах, моліць багоў, каб далі ёй лепей у птушку абярнуцца, чым дахаты вярнуцца. Багі слухаюцца і ператвараюць яе ў гэтую птушку, якая жыве, як тая дзяўчына, у гарах і гэтак жа прыгожа спявае, як яна. І сёння яшчэ, спяваючы, расказвае яна пра сваё няшчасце, спадзеючыся знайсці сваіх заблуканых кароў».

## 28

Такія ўцехі даравала ім лета. Але калі была восень у самым росквіце і саспеў вінаград, прысталі ў тыя мясціны тырыйскія піраты на лёгкім карыйскім судне (каб іх за варвараў не палічылі), высадзіліся, узброеныя мячамі і ў паўпанцырах, пачалі рабаваць усё, што траплялася пад рукі: духмянае віно, шмат збожжа, скрылі мёду; пагналі яны і некалькі кароў з Дорканавага статка. Схапілі яны і Дафніса, які блукаў па беразе мора; Хлоя ж як дзяўчына выганяла Дрыясавых авечак пазней, таму што баялася свавольных пастухоў. Убачыўшы прыгожага, дужага дзецюка, які здаўся ім больш вартаю здабычаю, чым нарабаванае на палях, разбойнікі не сталі траціць больш намаганняў

ні на коз, ні на іншае дабро ў ваколіцы, а пагналі яго на свой карабель, ён жа ўсё плакаў у роспачы і моцна клікаў Хлою. Яны хутка адвязалі канат і, хапіўшы ў рукі вёслы, адплылі ў адкрытае мора; Хлоя якраз тады выгнала сваю чараду, несучы новую сірынгу ў падарунак Дафнісу. Але бачачы коз, якія ў бязладдзі разбегліся, і чуючы, як Дафніс мацней і мацней гукае яе, яна, не думаючы больш пра коз і авечак, кінула сірынгу і памчала бегма да Доркана прасіць дапамогі.

29

Але той ляжаў цяжка збіты разбойнікамі, ледзь дыхаючы, сыходзячы крывёю. Убачыўшы Хлою, ён адчуў у сабе іскру даўнейшага кахання і прамовіў: «Хлоя, я зараз памру; бязбожныя піраты, калі я змагаўся за сваіх валоў, мяне самога забілі, як вала. Але ты павінна ўратаваць для сябе Дафніса, папомсціцца за мяне, знішчыць іх. Я прывучыў сваіх кароў слухацца гукаў сірынгі і збягацца на яе поклік, нават калі б далёка яны дзе пасвіліся. Дык ідзі ж і, узяўшы гэтую сірынгу, зайграй на ёй тую песню, якой я некалі навучыў Дафніса, а Дафніс цябе; пра ўсё астатняе паруплецца мая сірынга і мае каровы, што апынуліся там. Я дару табе гэтую сірынгу, з якою ў змаганні, хто лепшы, шмат валапасаў і аўчароў перамог. А ты за гэта пацалуй мяне, пакуль яшчэ жывы, і аплач мяне, калі памру. А калі ўбачыш другога пастуха, што будзе пасвіць гэтыя кароўкі, успомні пра мяне».

30

Сказаўшы гэта, пацалаваў яе апошні раз,і разам з гэтым пацалункам і гэтымі словамі адляцела яго душа.

А Хлоя, узяўшы сірынгу і прыклаўшы да губ, зайграла наймацней, як толькі магла; і каровы чуюць песню, пазнаюць і, равучы, кідаюцца ў адным парыве ў мора. Ад раптоўнага скачка карабель нахіляецца на адзін бок, і пад цяжарам кароў марская бездань завірыла, карабель пераварочваецца і тоне, хвалі сышліся над ім. Тыя, што былі там, выскокваюць у ваду, але не ўсе з аднолькаваю надзеяй на ратунак. У піратаў на поясе былі мячы, на грудзях лускаватыя паўпанцыры, а ногі аж да паловы прыкрывалі накаленнікі, а Дафніс, які толькі што пасвіў на лузе коз, быў босы і

напаўапрануты, бо гэтай парою было яшчэ горача. Нейкі час піраты яшчэ плылі, але цяжкае ўзбраенне пацягнула іх у бездань; Дафніс жа сваё адзенне лёгка скінуў, але, плывучы, зазнаў мукі, бо раней плаваў толькі ў рэчках. Аднак пасля бяда навучыла, што яму рабіць; ён ірвануўся ў сярэдзіну кароў і, ухапіўшы аберуч дзвюх іх за рогі, рухаўся так без клопату і турбот, нібы кіруючы павозкаю.

Гавяда ж плавае так, як ніводзін чалавек, толькі ўступае вадзяным птушкам і самім рыбам. Ніводная карова пры плаванні не гіне, хіба толькі рог у яе на капытах размокне і адваліцца. Пра гэта сведчаць аж да сёння многія мясціны на моры, якія маюць назву «валовага броду».

31

Такім чынам Дафніс, насуперак усякаму спадзяванню, уратаваўся ад дваякай небяспекі: і ад разбойнікаў адрабіўся, і ў моры не ўтапіўся. Выбраўшыся на сушу і знайшоўшы там Хлою, якая адначасна смяялася і плакала, кінуўся ёй на грудзі і спытаўся, чаму яна на сірынзе іграла; і яна яму ўсё расказала, як яна прыбегла да Доркана, і як яго каровы навучаныя былі, як ён загадаў ёй зайграць, і што Доркан памёр, толькі, засаромеўшыся, пра пацалунак не сказала. Пастанавілі яны свайму дабрадзею апошнюю пашану аддаць, разам з Доркенавымі родзічамі пахавалі няшчаснага. Яны шмат зямлі нанасілі на яго магілу, абсадзілі яе многімі садовымі дрэвамі і павесілі ў гонар яго пачаткі свае працы; потым і малака ўзлілі, расціснулі вінаградных гронак, паламалі шмат сірынгаў. Чуваць было і жаласлівае рыканне кароў, і відаць было ім пры гэтым, як трывожна кідаліся яны туды і сюды, і, як разважылі аўчары і казапасы, гэта была пахавальная песня гавяды па сваім мёртвым валапасе.

32

Пасля пахавання Доркана Хлоя купае Дафніса, да німфаў яго адвёўшы. Тады першы раз у яго на вачах вымыла яна сваё цела, белае, чыстае ў сваёй красе, якому не трэба і купанне было, каб быць прыгожым; а пасля,назбіраўшы кветак, якіх толькі можна было знайсці тою парою, прыбралі ў вянкі статуі, а Дорканаву сірынгу ў ахвяру прывесілі да скалы. Пасля гэтага яны пайшлі паглядзець сваіх коз і

авечак. Але тыя ўсе ляжалі, ні травы не бралі, ні голасу не падавалі, а, як я думаю, яны, не бачачы Дафніса і Хлоі, па іх сумавалі. Калі ж жывёла зноў убачыла іх, пачула, як заўсёды, іх воклік і гукі сірынгі, авечкі падняліся і пачалі пасвіцца, а гарэзлівыя козы скакаць наўкол, нібы цешыліся ратунку свайго звыклага пастуха. Але ў душы ў Дафніса не было радасці, калі ён пабачыў Хлою голую, красу, дагэтуль прыкрытую,— адкрытаю. Сэрца яго балела, нібы яго нейкая атрута грызла, ён то парывіста дыхаў, нібы нехта за ім гнаўся, то задыхаўся, нібы занямогся ад гэтай пагоні. Яму купанне ў ручаіне здалося страшнейшым за нядаўняе ў моры. Думаў, што душа ў яго ўсё яшчэ астаецца ў разбойнікаў, бо быў малады, з вёскі і не ведаў яшчэ аб Эрасавым разбоі.

# КНІГА ДРУГАЯ

## 1

Восень была ўжо ў самай красе, надыходзіў збор вінаграду, і ў палях усё было ў рабоце; хто рыхтаваў націсі, хто чысціў бочкі, хто кашы плёў. Той рупіўся аб маленькіх сярпах, каб зразаць вінаградныя гронкі, а той — пра камень, каб выціскаць з гронак сок, а яшчэ іншы — пра сухія галінкі, ачышчаныя ад кары, каб уночы запаліць іх і пры святле несці дадому вінаграднае сусла.

Не зважаючы на сваіх коз і авечак, Дафніс і Хлоя памагалі пры рабоце. Ён прыносіў гронкі ў кашах і, ссыпаючы ў націсі, таптаў і разліваў віно ў бочкі, а яна гатавала ўсім яду, налівала ім піць леташняга віна, зрэзвала з невысокіх лоз гронкі. Бо на Лесбасе ўвесь вінаград невысокі, не цягнецца ўгару, не лезе на дрэва, лозы сцелюцца і паўзуць, як плюшч; нават дзіця, якое толькі што з пялёнак выбавіла рукі, магло б дацягнуцца да гронак.

## 2

Як водзіцца на святце Дыяніса і нараджэння віна, жанчыны, што былі запрошаны з навакольных вёсак дапамагчы сабраць вінаград, кідалі вокам на Дафніса і хвалілі яго,

кажучы, што красою ён падобны да Дыяніса. А адна адважнейшая нават так пацалавала, што ён успыхнуў, і Хлою гэта засмуціла. Мужчыны, што рабілі пры націсях, кідалі Хлоі не адно жартоўнае слоўца, і скакалі, звар'яцеўшы, нібы сатыры перад вакханкаю, і запэўнівалі, што хацелі б зрабіцца авечкамі, абы толькі іх пасвіла такая пастушка; і на гэты раз яна радавалася, а ён сумаваў. І абаім хацелася, каб як мага хучэй скончыўся збор вінаграду і яны змаглі зноў вярнуцца ў свае звычайныя мясціны і замест буйных выкрыкаў пачуць сірынгу ды бляянне авечак. І калі праз некалькі дзён вінаград быў сабраны, і сусла было ў бочках, і не было патрэбы ў мностве рук, яны зноў пагналі ў поле свае чароды; поўныя радасці, яны пакланіліся німфам, прынёсшы ім у ахвяру гронкі на лозах,— з зажынак. Яны і раней ніколі не праходзілі безуважна паўз іх , а заўсёды, выганяючы на пашу, ушаноўвалі іх, і, з пашы вяртаючыся, пакланяліся ім, і заўсёды што-небудзь прыносілі: ці кветку, ці плод, ці зялёную галінку, ці вылівалі ў ахвяру малака. Затое пазней багіні адплочвалі ім; тады ж абое, як кажуць, нібы спушчаныя з прывязі сабачкі, скакалі, гралі на сірынзе, спявалі, барукаліся з казламі, баранамі.

3

Калі яны так весяліліся, да іх падышоў стары, апрануты ў казліную шкуру, абуты ў хадакі, на ім вісела пастушыная торба, ды і тая старая. Ён прысеў да іх і так сказаў: «Я, дзеткі, стары Філет, шмат спяваў тут німфам, шмат разоў Пану там іграў на сірынзе і толькі ігрою пасвіў вялікі статак. А прыйшоў да вас, каб тое, што бачыў я, расказаць, тое, што чуў я, перадаць вам. Я садок сваімі рукамі заклаў, даглядаю і цяпер, калі ўжо з-за старасці перастаў пасвіць; што кожная пара года прыносіць, тое я і маю там: увесну ружы і лілеі, гіяцынты і фіялкі дваякага роду; улетку мак і дзікія грушы і яблыкі ўсялякіх гатункаў; цяпер вінаград і фігі, гранаты і зялёныя мірты. Уранку ў гэтым садку збіраюцца чароды птушак — адны яды пашукаць, другія — каб паспяваць; густы, цяністы ён, тры крыніцы яго арашаюць; калі б хто агароджу прыняў, то мог бы падумаць, што бачыць гай.

## 4

Калі я сёння апоўдні зайшоў, убачыў пад гранатавымі і міртавымі кустамі хлопчыка з міртавымі ягадамі і гранатамі ў руках, белага, як малако, русявага, як агонь, бліскучага, як бы ён толькі што выкупаўся. Быў ён голы, адзін і гарэзаваў, зрываючы, што яму спадабалася, як быццам гэта быў яго сад. Я і кінуўся да яго злавіць, баючыся, каб ён, сваволячы, не паламаў міртаў і гранатаў; але ён спрытна і лёгка выслізнуў ад мяне, то ўцякаючы ў кусты ружаў, то хаваючыся ў макі, як маладзенькая курапатка. Я не раз зазнаваў клопату, даганяючы казлянят-сысункоў, не раз знемагаў, ганяючыся за маладымі цяляткамі; але гэтае стварэнне было надзвычай выкрутлівае і няўлоўнае. Стаміўся я, бо ўжо стары, абапёрся на кій, заадно сочачы, каб ён не ўцёк, і спытаўся ў яго, ад якіх ён суседзяў і як ён надумаўся пустошыць чужы сад. Але ён мне нічога не адказаў, а, падышоўшы бліжэй, усміхнуўся вельмі пяшчотна і пачаў кідаць у мяне міртавымі ягадамі, і, сам не ведаю як, заваражыў ён мяне, што больш я не мог гневацца. Тады я папрасіў яго, каб даўся мне ў рукі і больш не баяўся, і пакляўся я міртамі, што зноў дазволю яму заўсёды і садавіну браць, і кветкі рваць, калі ад яго хоць адзін пацалунак мне прыпадзе.

## 5

Тады ён вельмі звонка рассмяяўся, і голас яго быў такі, якога не мае ні ластаўка, ні салоўка, ні лебедзь, калі ён такі стары, як я ... «Мне, Філет, не цяжка цябе пацалаваць, бо я больш хачу цалавацца, чым ты зрабіцца маладым. Але паглядзі, ці пад твой узрост такі падарунак. Твая ж старасць не стрымае цябе, каб не гнацца за мною пасля аднаго пацалунка. Але не злавіць мяне ні ястрабу, ні арлу, ні якой іншай шпарчэйшай за іх птушцы. Я не хлопчык, нават калі і здаюся хлопчыкам, я старэйшы, чым Кронас і чым увесь час. Я ведаў цябе, калі ты яшчэ дзецюком пасвіў там на паплавах шырока расцягнуты статак, і я быў пры табе, як ты каля тых дубоў іграў на сірынзе, калі быў закаханы ў Амарыліс. Але ты не бачыў мяне, хоць я стаяў вельмі блізка ля дзяўчыны. Гэта я яе табе даў, і ты ўжо маеш сыноў — добрых валапасаў і земляробаў. Цяпер я пасу Дафніса і Хлою,і калі я з самага ранку звяду іх, тады іду ў твой сад, і радуюся кветкам і кустам, і мыюся вось у гэтых

крыніцах. Таму такія прыгожыя кветкі і кусты, бо іх пояць воды, у якіх я купаюся. Паглядзі ж, ці хоць адзін куст у цябе зламаны, ці які плод сарваны, ці корань кветкі якой растаптаны, ці якая крыніца закаламучаная. І цешся, што сярод людзей ты адзіны ў старасці ўбачыў гэтае дзіця».

6

Сказаўшы гэта, ён узвіўся, як малады салоўка, на кусты мірту і, перебіраючыся з галінкі на галінку, дабраўся праз лісце на вяршыню. Я заўважыў крыльцы ў яго за плячыма і між крыллем і плячыма невялікі лук і стрэлы і больш не ўбачыў ні іх, ні яго самога.

«Калі я нездарма дажыў да сівых валасоў і мой розум не здзяцінеў ад старасці, то вы, дзеткі, прысвечаны Эрасу і Эрас дбае пра вас».

7

З вялікаю асалодаю, нібы казку, а не праўдзівае апавяданне,слухалі яны гэта і спыталіся ў яго, што ж такое Эрас, хлопчык ці птушка, і ў чым яго сіла. І Філет на гэта сказаў: «Эрас, дзеткі, бог малады, прыгожы, крылаты; таму яго цешыць маладосць, таму за красою ганяецца і душы ўскрыляе. А сіла яго такая, якой і Дзеўс не мае. Ён пануе над стыхіямі, пануе над зоркамі, пануе над такімі, як сам, багамі; такой улады вы не маеце над сваімі козамі і авечкамі. Усе кветкі — работа Эраса; гэтыя расліны — яго стварэнне. З яго волі рэкі цякуць, вятры дзьмуць. Бачыў я быка, распаленага жадобаю, як аваднём уджалены, роў ён; бачыў і казла, поўнага імпэту да казы, за ёю ўсюды ён бегаў следам. І сам я быў малады і кахаў Амарыліс; і мне яда не была ў галаве, і я піць не піў і сон забыў. Душа мая балела, сэрца білася, цела трымцела; то я крычаў, нібы мяне білі, то я маўчаў, нібы мяне ўжо забілі, то я ў рэкі кідаўся, нібы мяне агнём палілі; я клікаў Пана на дапамогу, ён жа і сам быў у Пітыс закаханы; я праслаўляў Эхо, бо яна за мною імя Амарыліс паўтарала; я свае сірынгі разбіў, бо яны хоць кароў чаруюць, але Амарыліс не вабяць. І няма ад Эраса аніякіх лекаў — ні ў ядзенні, ні ў піценні, ні ў замоваў гаварэнні,— хіба толькі пацалункі, ды абдымкі, ды голымі адно з адным ляжаць».

## 8

Пасля гэтых павучанняў Філет пакідае іх, абдораны некалькімі сырамі і казляняткам, у якога пракінуліся ўжо рожкі. Астаўшыся на адзіноце і пачуўшы ўпершыню тады імя Эраса, яны адчулі ў душы нястрымнае каханне, і, вярнуўшыся ўночы ў свае падвор'і, пачалі яны параўноўваць тое, што пачулі, з тым, што самі адчулі: «Закаханыя пакутуюць, і мы таксама. Яны ні на што не зважаюць, і мы даўно таксама. Яны не спяць, і нам цяпер так цярпець даводзіцца. Ім здаецца, што іх паліць агнём, і ў нас агонь палае. Яны хацелі б заўсёды адно аднаго бачыць, і мы таксама молім, каб хутчэй вярнуўся дзень. Мабыць, гэта каханне, і мы кахаем адно аднаго, не ведаючы, ці гэта каханне і ці кахаюць мяне. Бо чаму ж мы тады пакутуем, чаму шукаем адно аднаго? Філет усю праўду сказаў. Гэты хлопчык у садзе прысніўся некалі нашым бацькам і наказаў, каб мы пасвілі статкі. А як яго злавіць? Ён малы і ўцячэ. А як ад яго ўцячы? Ён мае крылле і схопіць. У німфаў нам трэба шукаць заступніцтва і дапамогі. Але і Філету, калі ён закахаўся ў Амарыліс, Пан не дапамог. Дык, значыць, нам патрэбна звярнуцца да лекаў, якім ён вучыў нас,— пацалункі, і абдымкі, і голымі класціся на зямлі. Хоць ужо і холадна, але выцерпім, цярпеў жа і Філет».

## 9

Такою навукаю была для абаіх гэтая ноч. І калі на другі дзень, выгнаўшы статкі на пашу, яны ўбачылі адно аднаго, то пацалаваліся, чаго ніколі раней не рабілі, і абняліся, абвіўшы адно аднаго рукамі; а на трэція лекі — раздзеўшыся легчы — было заадважна не толькі для дзяўчыны, але і для маладога казапаса.

І зноў прыйшла ноч без сну з думкамі пра тое, што зрабілі, і з папрокамі за тое, што ўпусцілі. «Цалаваліся мы, а карысці ніякай; абдымаліся мы, а, бадай што, не лепш. І вось легчы разам — адзіныя лекі ад кахання; паспрабуйма і іх; пэўна ў гэтым будзе нешта мацнейшае за пацалунак».

## 10

Пры такіх думках, як гэта бывае, сніліся ім і каханне, і пацалункі, і абдымкі; і што яны ўдзень не рабілі, тое рабілі

ўночы: голыя ляжалі адно каля аднаго. І яшчэ больш натхнёныя падымаліся яны з надыходам дня і са свістам гналі свае статкі, спяшаючыся да пацалункаў: і, убачыўшы адно аднаго, беглі, усміхаючыся, насустрач. І, вядома, былі пацалункі, ■ тады і абдымкі, толькі з трэцімі лекамі яны марудзілі, ні Дафніс не адважваўся сказаць, ні Хлоя не рашалася пачаць, але выпадак і гэта зрабіў.

11

Седзячы адно пры адным каля дубовага пня, ужываючы слодыч пацалункаў, яны прагна аддаваліся раскошы. Абвівалі адно аднаго рукамі, мацней прыціскаючыся вуснамі да вуснаў. І калі Дафніс у такім абдымку больш парывіста прыцягнуў да сябе сваю Хлою, яна падалася на бок,і ён схіляецца ўслед за ёю, не хочучы згубіць яе пацалунка. І пазнаўшы ў гэтым тое, што бачылі ў сне, яны доўгі час пакоіліся доле, нібы звязаныя. Але не ведаючы, што рабіць далей, і ўважаючы гэта за вяршыню раскошы кахання, дарэмна правёўшы большую частку дня ў абдымках, яна расталіся і пагналі назад свае статкі, злуючыся на ноч. Можа, з часам яны і зрабілі б што трэба, калі б вось які рэзрух не ахапіў усе тыя мясціны.

12

Маладыя багатыя метымнейцы, якія хацелі падчас збору вінаграду павесяліцца за горадам, падрыхтавалі маленькі карабель, слуг пасадзілі на вёслы і паплылі ўздоўж мітыленскіх палёў, што падыходзілі блізка да мора. Бо гэтае ўзбярэжжа багатае на добрыя прыстані, раскошна ўпрыгожанае будынкамі; скрозь купальні, паркі, гаі: адно стварыла прырода, другое — людское ўмельства; усё цудоўнае для весялосці. Плывучы ўздоўж берага і прыстаючы то тут, то там, яны весяліліся, нікому не чын  чы ні найменшага ліха, то лавілі з надморскай скалы на кручкі, прывязаныя тонкаю лескаю да доўгіх чароцін, рыбу, што вадзілася між камянёў; то з сабакамі і сеткамі лавілі зайцоў, якія ўцякалі ад гаманы ў вінаградніках. Выпраўляліся яшчэ і на птушак, лавілі ў сіло дзікіх гусей, кача  і дроф, так што апроч забавы яны мелі сеё-тое і на стол. Калі ж яшчэ ў чым была патрэба, бралі ў сялян, плоцячы ім большыя грошы, чым таго цана вымагала. Але трэба было ім толькі

хлеб, віно ды начлег, бо яны ўважалі неасцярожным з прыходам восені аставацца на ноч у адкрытым моры; таму, баючыся буры ўначы, яны выцягвалі карабель на бераг.

## 13

Аднаму селяніну трэба была вяроўка, каб падняць угору камень, якім прыціскаюць патаптаны вінаград, бо старая вяроўка перацерлася, і ён употай прабраўся да мора, падышоў да карабля, якога ніхто не ахоўваў, адвязаў канат, панёс дадому і ўжыў на патрэбу. Назаўтра раніцаю метымнейскія дзецюкі пачалі шукаць канат, але ніхто ў крадзяжы не прызнаўся, і яны паплылі далей, палаяўшы трохі гаспадароў; адплыўшы на трыццаць стадый, яны прысталі ў тых мясцінах, дзе жылі Дафніс і Хлоя, бо раўніна выдалася ім прыдатнаю да лову зайцоў. Вяроўкі ў іх цяпер не было, каб ужыць яе як прычальны канат; яны скруцілі пярэвітку з доўгіх зялёных лазін і прывязалі ёю карму карабля да берага. Пасля гэтага, выпусціўшы сабак высочваць дзічыну, расставілі на найбольш прыдатных сцежках сеткі. Сабакі, разбегшыся з моцным гаўканнем, напалохалі коз, і тыя, пакінуўшы горныя схілы, прабеглі ладна-такі да мора; не знайшоўшы на марскім пяску нічога пагрызці, адважнейшыя з іх падышлі да карабля і згрызлі зялёную пярэвітку, якою быў прывязаны карабель.

## 14

А на моры ўзнялося лёгкае хваляванне, з гор падзьмуў вецер. Хваля, адплываючы, вельмі хутка падхапіла адвязаны карабель і панесла ў адкрытае мора. Як толькі заўважылі гэта метымнейцы, адны з іх пабеглі да мора, другія сабралі сабак; усе яны ўзнялі такі лямант, што, пачуўшы яго, збегліся ўсе людзі з наваколля. Але гэта ані не дапамагло, бо вецер падзьмуў з усяе моцы і карабель хутка і нястрымна адносіла плынню. Метымнейцы, страціўшы нямала дабра, шукалі, хто ж пасвіў коз; і, знайшоўшы Дафніса, пачалі яго біць і зрываць з яго адзетак. Адзін з іх, узяўшы сабачы павадок, загнуў Дафнісу рукі назад, каб яго звязаць. Але Дафніс крычаў, як яго білі, і маліў сялян аб паратунку, клічучы найперш Ламана і Дрыяса на дапамогу. І тыя, два дужыя дзяды з моцнымі ад сялянскай работы кулакамі, далі адпор і запатрабавалі справядліва разабрацца ў тым, што адбылося.

## 15

А таму, што на гэтым настойвалі і іншыя, то за суддзю прызначаюць Філета, валапаса: ён быў найстарэйшы з усіх тут і славіўся сярод вяскоўцаў надзвычайнаю справядлівасцю. Напачатку метымнейцы выклалі сваю скаргу, ясна і сцісла, бо за суддзю ж у іх быў валапас: «Мы прыехалі ў гэтыя мясціны папаляваць на зайцоў. Прывязаўшы карабель зялёнаю лазою, мы пакінулі яго на беразе, а самі пусцілі сабак шукаць дзічыну. Тым часам козы гэтага пастуха, прыйшоўшы да мора, зжыраюць лазу і адпускаюць карабель. Ты ж бачыў, як яго адносіла ў мора, і як ты думаеш, колькі на ім было дабра. Колькі адзення загінула, і колькі сабачай аздобы, а колькі грошай! Калі б хто меў гэтулькі, мог бы купіць тутэйшыя палі. У абмен за гэта мы настойваем забраць яго — паганага пастуха, які сваіх коз пасе каля мора, нібы марак».

## 16

Так выклалі метымнейцы сваю скаргу.

Пасля кухталёў Дафніс адчуваў сябе пагана, але як убачыў, што Хлоя тут, на ўсё забыўся і так сказаў: «Я сваіх коз пасу добра. Ніколі яшчэ ніводзін з вяскоўцаў не абвінаваціў мяне, што мая каза ў яго садзе ласавалася або вінаградны парастак паламала. А вось гэтыя — сапраўды паганыя лоўчыя, і сабакі іх кепска навучаныя: носячыся шалёна і злосна гаўкаючы, яны маіх коз з гор і пашаў да мора, як ваўкі, сагналі. А козы мае лазу ад'елі? Бо на пяску не было ні травы, ні сунічніку, ні чабору. А карабель знішчылі вецер і мора. Гэта — віна буры, а не коз. А там былі ўборы, грошы? Хто, маючы розум, дасць веры, што карабель з такім дабром быў прывязаны пярэвіткаю?»

## 17

Пры гэтым Дафніс заплакаў і моцна расчуліў сялян, так што Філет, суддзя, пакляўся Панам і німфамі, што Дафніс ані не вінаваты, гэтак жа як і яго козы, а вінаватыя мора і вецер, якія, аднак, падлягаюць іншым суддзям. Але не пераканаў Філет метымнейцаў гэтымі словамі, і яны,

раззлаваўшыся, пацягнулі Дафніса, стараючыся яго звязаць.

Тут сяляне, узбунтаваўшыся, самі накінуліся на іх, як шпакі ці галкі; і хутка адбіваюць Дафніса, які і сам ужо біўся; яны лупяць палкамі метымнейцаў, і неўзабаве тыя кідаюцца ўцякаць. Яны не адставалі ад іх, аж пакуль не прагналі са сваіх на чужыя землі.

## 18

Пакуль тыя гналі метымнейцаў, Хлоя ціхенька адводзіць Дафніса да німфаў і асцярожна яму абмывае твар, што ўвесь быў заліты крывёю з расквашанага кухталём носа, і дае з'есці з пастухоўскай торбы лусту хлеба і кавалак сыру. Тады — што найбольш павінна было яго падмацаваць — яна абдорвае яго сваіх пяшчотных вуснаў падарункам — мядова-салодкім пацалункам.

## 19

Вось з якой бяды выбавіўся тады Дафніс.

Але ўсё тым не скончылася, бо, калі метымнейцы з цяжкасцю дабраліся да сваіх — пешкі замест прыплысці на караблі, параненыя замест веселуноў,— яны склікалі грамадзян на сход і паклалі аліўную галінку, молячы абароны і просячы адплаты; яны не сказалі ні слова праўды, каб з іх не смяяліся з-за таго, якое ганьбы зазналі яны ад пастухоў, а мітыленцаў абвінавацілі, што тыя іх карабель забралі і іх дабро, як на полі бітвы, абрабавалі.

Метымнейцы, убачыўшы раны, далі ім веры і палічылі справядлівым папомсціцца за гэтых маладых людзей з самых знатных іх дамоў, і таму пастанавілі, не аб'яўляючы вайны, напасці на мітыленцаў; і загадалі свайму ваяводзе выправіць дзесяць караблёў, каб спустошыць іх узбярэжжа; блізка была зіма, і давяраць мору большы флот было ненадзейна.

## 20

Адразу ж на другі дзень ваявода з воінамі, якія заадно былі і веслярамі, выйшаў у адкрытае мора і напаў на прыбярэжныя палі мітыленцаў. І нарабаваў шмат жывёлы, збож-

жа, віна (бо якраз толькі што закончыўся збор вінаграду); а да таго і нямала людзей, што там працавалі. Падплыў ён і ў мясціны, дзе былі Хлоя і Дафніс; хутка высадзіўшыся, цягаў здабычу, якая там толькі траплялася.

Дафніс якраз не пасвіў коз, ■ ў лесе зразаў зялёныя галінкі, каб узімку карміць казлянят; убачыўшы згары напад, ён схаваўся ў дупле сухога бука; Хлоя ж была каля статкаў; ратуючыся ад пагоні, яна, шукаючы прытулку, бяжыць да німфаў, молячы імем багіняў пашкадаваць яе і тых, каго яна пасе. Але гэта было дарэмна; метымнейцы, удосталь паздзекаваўшыся са статуй, занялі статкі і пацягнулі яе, б'ючы, як казу ці авечку, лазіною.

## 21

Напоўніўшы караблі нарабаванаю рознаю здабычаю, яны пастанавілі далей не плыць, а вярнуцца дадому, баючыся зімы і ворагаў. І вось паплылі яны, цяжка налягаючы на вёслы, бо не было ветру; Дафніс жа, калі ўсё суцішылася, спусціўся ў даліну, дзе яны заўсёды пасвілі, і ні коз не ўбачыў, ні на авечак не натрапіў, ні Хлоі не знайшоў, а толькі поўнае разбурэнне ды кінутую сірынгу, якою звычайна Хлоя цешылася; з моцным крыкам і жаласным енкам пачаў ён бегаць то да бука, дзе яны звычайна сядзелі, то да мора, спадзеючыся яе ўбачыць, то да німфаў, да якіх яна бегла, калі за ёю гналіся. Там ён кінуўся на зямлю, вінавацячы німфаў, што здрадзілі ёй:

## 22

«У вас забралі Хлою, і вы маглі спакойна глядзець на гэта? Тую, якая вянкі вам пляла, першага малака ўзлівала, якая вам сірынгу ў дар ахвяравала? Ніводнай казы ў мяне воўк не сцягнуў, а ворагі ўсю чараду пагналі і тую, што пасвіла са мною. З коз яны шкуру здзіраюць, авечак у ахвяру прыносяць; Хлоя ж з гэтага часу будзе ў горадзе жыць. Як мне вярнуцца да бацькі і мацеры без коз, без Хлоі, чым мне тады заняцца? Мне ж няма ўжо чаго пасвіць. Тут хачу ляжаць і чакаць смерці або новага нападу. Ці ж і ты, Хлоя, гэтак тужыш? Ці ж успамінаеш гэтую раўніну, гэтых німфаў і мяне? А ці суцяшаюць цябе авечкі і козы, узятыя ў палон разам з табою?»

## 23

Пакуль ён бедаваў так, ад слёз і болю яго агарнуў глыбокі сон; і з'явіліся яму тры німфы, высокія і прыгожыя жанчыны, напаўадзетыя, босыя, з распушчанымі валасамі, якраз як на статуях. Напачатку, як яму здалося, яны спагадліва паглядзелі на Дафніса; пасля старэйшая з іх, падбадзёрваючы, кажа: «Не наракай на нас, Дафніс; мы больш, чым ты, рупімся пра Хлою. Мы зжаліліся над ёю, калі яна яшчэ дзіцём была, тут у пячоры ляжала, кармілі яе. Яна не мае нічога супольнага ні з гэтымі лугамі, ні Ламанавымі авечкамі. І цяпер мы пра яе паклапаціліся, так што не будзе яна адвезена ў Метымну на рабскую долю і не будзе яна часткаю ваеннай здабычы. Вось таго Пана, што пад хвойкаю стаіць, якога вы ніколі, ні разу вянком не ўшаноўвалі, мы ўпрасілі дапамагчы Хлоі; ён звык больш, чым мы, да ваенных паходаў і ўжо нямала паваяваў, пакідаючы гэтыя палі; і ён вырушыць, як люты вораг, на метымнейцаў. Не тужы ні па чым, а ўставай і пакажыся на вочы Ламану і Міртале; яны ж таксама ляжаць доле, думаючы, што і ты зрабіўся часткаю здабычы; Хлоя ж заўтра вернецца да цябе з козамі, з авечкамі, і будзеце вы разам пасвіць і разам іграць на сірынзе; а далей Эрас пра вас паклапоціцца».

## 24

Убачыўшы і пачуўшы гэта, Дафніс ускочыў са сну і, плачучы з радасці і з гора, укленчыў перад статуямі німфаў і паабяцаў, калі Хлоя ўратуецца, прынесці ў ахвяру найлепшую з коз. Пасля пабег пад хвойку, дзе стаяла статуя Пана, казланогага і рагатага, у адной руцэ ён трымаў сірынгу, другою рукою стрымліваў уздыбленага казла; упаў і перад Панам на калені, молячы яго за Хлою і абяцаючы ахвяраваць казла. І толькі на захадзе сонца ён ледзь прыпыніў свае слёзы і малітвы і, сабраўшы галінкі, што нарэзаў, вярнуўся дадому, разагнаўшы смутак Ламана і яго блізкіх, напоўніўшы іх радасцю, трохі падсілкаваўся і забыўся сном, хоць і ў сне плакаў, то жадаючы яшчэ раз убачыць у сне німфаў, то каб хутчэй настаў дзень, у які яму вярнуць Хлою было паабяцана. З усіх начэй гэтая падалася яму найдаўжэйшаю. А тае начы вось што здарылася.

## 25

Ваявода метымнейцаў, адплыўшы стадыяў з дзесятак, захацеў даць адпачыць сваім воінам, якія стаміліся ад нападу. І вось, дасягнуўшы мыса, што выступаў у мора, выгінаючыся паўмесяцам, за якім мора ўтварала бухту, zацішнейшую за ўсе іншыя, ваявода пакінуў караблі на якары ў адкрытым моры, каб з сушы ні на адзін з іх не маглі напасці сяляне, і дазволіў метымнейцам мірныя ўцехі. І тыя, нарабаваўшы ўсяго ўдосталь, пілі, забаўляліся, нібы святкавалі перамогу. Але толькі скончыўся дзень і весялосць з надыходам ночы сунялася, як раптам уся зямля нібы агнём занялася, і пачуліся шумныя ўсплёскі вёслаў, нібы падплываў вялікі флот, і адзін закрычаў: «Да зброі!», а другі клікаў ваяводу, трэцяму падалося, што ён паранены, і ляжаў там як забіты. Здавалася, што гэта начны бой, толькі ворагаў не было відаць.

## 26

Так прамінула для іх ноч, і надышоў дзень, яшчэ страшнейшы, чым ноч. Дафнісавы казлы і козы на рагах мелі плюшч з гронкамі ягад, а Хлоіны бараны і авечкі завылі, як ваўкі. Саму ж яе ўбачылі ў вянку з хваёвых галінак. І на моры самім дзеелася шмат незвычайнага. Калі яны паспрабавалі выцягнуць якары, тыя заселі ў глыбіні; калі метымнейцы браліся за вёслы, тыя ламаліся; дэльфіны, выскокваючы ўгару з мора, білі хвастамі караблі і расслаблялі іх змацаванні. Са стромай скалы на мысе быў чуваць голас сірынгі, але ён не цешыў, як звычайна голас дуды, а кожнага, хто слухаў, палохаў, як ваенная труба. Устрывожаныя, кінуліся яны па зброю і крычалі: «Ворагі», хоць іх не бачылі, так што малілі яны, каб хутчэй зноў ноч прыйшла, нібы з ёю будуць мець перамір'е. Кожны, хто разумна разважае, зразумеў, што гэтыя прывіды і гукі — ад Пана, які за нешта гневаецца на мараплаўцаў. Але яны не маглі разгадаць прычыны — яны ж не абрабавалі ніводнага Панавага свяцілішча,— пакуль апоўдні ваяводу не агарнуў, не без волі багоў, сон, і, з'явіўшыся яму ў сне, Пан вось што сказаў:

## 27

«О самыя злачынныя і самыя бязбожныя з людзей, як маглі вы, звар'яцелыя, адважыцца на гэта? Напоўнілі вай-

ною ваколіцы, што любыя мне, пагналі статкі кароў, коз, авечак, што пад маёю апекаю, адарвалі ад алтароў дзяўчыну, з якое Эрас хоча стварыць міф кахання; і не пасаромеліся вы німфаў, што глядзелі на вас, ні Пана, мяне. Таму не ўбачыце вы Метымны, пакуль плывяце з такою здабычаю, і не ўцячы вам ад гэтай сірынгі, якая наганяе на вас жах; я патаплю вас, аддам на корм рыбам, калі вы як мага хутчэй не аддадзіце Хлою німфам і Хлоіны чароды, яе коз і авечак. Устань жа і высадзі дзяўчыну з усім тым, што я табе сказаў. І я сам цябе ў плаванні правяду, а ёй дарогу дадому пакажу».

28

Вельмі ўстрывожаны Брыаксіс (так звалі ваяводу) ускочыў з ложа і, склікаўшы начальнікаў караблёў, загадаў як мага хутчэй знайсці сярод палонных Хлою. Яны хутка яе знайшлі і яму на вочы прывялі: яна ж сядзела ў вянку з хваёвых галінак.

Убачыўшы яе якраз такой, як яна выглядала ў сне, ён сам адвозіць яе на сваім галоўным караблі да берага. І як толькі яна ступіла на зямлю, зноў са скалы пачуўся голас сірынгі, але ўжо не ваенны, не грозны, а пастухоўскі, нібы на пашу авечак гоняць. І авечкі зараз жа збеглі з караблёў па сходцах, не коўзаючыся на сваіх раздвоеных капытках, а яшчэ адважней збеглі козы, бо ім у звычку лазіць па скалах.

29

Яны сталі ў кола, акружыўшы Хлою, нібы хор, скакалі і бляялі, як быццам яны радаваліся; а козы, авечкі, каровы іншых пастухоў заставаліся на сваіх месцах усярэдзіне карабля, як бы голас сірынгі і не клікаў іх. Пакуль усе ў здзіўленні ўслаўлялі Пана, на сушы і на моры адбыліся яшчэ дзіўнейшыя праявы. Караблі раней, чым метымнейцы паднялі якары, паплылі, карабель жа ваяводы вёў дэльфін, які ўсё выскокваў з вады. А коз і авечак вёў найсаладзейшы голас сірынгі, але таго, хто іграў, нідзе не было відаць; так што авечкі і козы, ідучы ўперад, заадно пасвіліся, радуючыся песні.

## 30

Быў, бадай, час другой пашы, калі Дафніс з высокай вартоўні ўбачыў статкі і Хлою; моцна ўскрыкнуўшы: «О німфы і Пан!», пабег ён уніз на раўніну і абняў Хлою; і тут жа асунуўся, страціўшы прытомнасць. Ледзь ачуняў ён ад Хлоіных пацалункаў і абдымкаў, якімі яна яго саграваала, тады падышоў да знаёмага бука і, сеўшы пад ім, пачаў распытвацца ў Хлоі, як яна змагла ўцячы ад гэтулькіх ворагаў. Яна яму ўсё расказала: пра плюшч на козах, пра выццё авечак, пра хваёвыя галінкі, што паявіліся ў яе на галаве, пра агонь на сушы, шум на моры, пра дваякія галасы сірынгі — ваенны і мірны, пра жахлівую ноч і пра тое, як ёй музыка паказала дарогу, якое яна не ведала. Тут Дафніс зразумеў і сон, спасланы на яго німфамі, і Панаву дапамогу, і сам расказаў усё, што бачыў, усё, што чуў, і як яму німфы, калі ён ужо збіраўся памерці, жыццё ўратавалі. Пасля ён паслаў, каб яна прывяла Дрыяса, Ламана і іх сямейнікаў і прынесла ўсё, што трэба пры ахвяраванні; а тым часам злавіў найлепшую з коз, прыбраў яе вянком з плюшчу, так, як яны паўсталі перад вачыма ворагаў, узліў малака між яе рагоў і зарэзаў яе ў ахвяру німфам, пасля, падвесіўшы, абадраў і прысвяціў ім шкуру.

## 31

Як толькі прыйшла ўжо Хлоя са сваімі, ён распаліў агонь і, частку мяса зварыўшы, а другую — спёкшы, першыя кавалачкі прынёс у ахвяру німфам, узліў ім кубак маладога віна, а пасля, зрабіўшы з зялёнага лісця ложа, зазнаў слодычы ў пітве і гульнях, заадно паглядваючы на статкі, каб і воўк не напаў і не зрабіў таго, што меліся зрабіць ворагі. Спявалі ў гонар німфаў нямала песняў, складзеных даўнейшымі пастухамі.

Калі ж надышла ноч, яны ляглі спаць там жа, на полі, а на другі дзень згадалі Пана і, прыбраўшы вянкамі з хваёвых галінак важака казінай чарады, павялі яго да хвойкі; тут, узліўшы віна, уславіўшы бога, зарэзалі таго казла, падвесілі і знялі шкуру. Мяса, спёкшы і зварыўшы, яны паклалі непадалёк на лузе на лісці; шкуру ж разам з рагамі прымацавалі да хвойкі каля статуі — пастушыны дар пастушынаму богу. Яшчэ прынеслі яму ў ахвяру мяса і ўзлілі з большага кубка віна. Хлоя спявала, а Дафніс іграў на сірынзе.

32

Пасля яны ляглі і пачалі баляваць; выпадкова падышоў да іх валапас Філет, які якраз прынёс Пану некалькі вянкоў і вінаградных гронак яшчэ на лазе з лісцем. З ім ішоў яго найменшы сын Тытыр, хлопчык з залацістымі валасамі, сінявокі, беленькі і жвавенькі: ідучы, ён лёгка падскокваў, як казлянятка. Усе падняліся, дапамаглі прыбраць вянкамі Пана і павесілі гронкі на голле хвойкі; тады запрасілі Філета прылегчы побач з сабою для балявання.

І як гэта водзіцца ў старых людзей, калі яны трошкі падпілі, пачалі доўга расказваць адзін аднаму: як яны пасвілі, калі маладыя былі, як ім удавалася ўратавацца ад шмат якіх разбойніцкіх нападаў. Адзін хваліўся, што забіў ваўка, другі, што ігрою на сірынзе толькі Пану ўступае,— то быў Філет, які пахваляўся гэтым.

33

І вось Дафніс і Хлоя пачалі яго настойліва прасіць, каб ён і з імі падзяліўся сваім умельствам і пайграў на сірынзе на свяце бога, які і сам вяселіцца сірынгаю. Філет паабяцаў, хоць паскардзіўся на старасць,— не той ужо дых, і ўзяў Дафнісаву сірынгу. Але яна была замалою для яго вялікага майстэрства, бо зроблена была на вусны хлопчыка. Тады ён паслаў Тытыра па сваю сірынгу, бо яго падвор'е было адсюль толькі стадыяў за дзесяць. І вось хлопчык, скінуўшы плашч, голы пусціўся бегчы, як алянятка; а Ламан паабяцаў ім расказаць пра сірынгу паданне, якое прапяяў яму адзін сіцылійскі казапас, атрымаўшы ва ўзнагароду казла і сірынгу.

34

«Сірынга, гэтая дудка, колісь не дудкаю была, а дзяўчынаю, прыгожаю, з пяшчотным голасам. Яна пасвіла коз, гуляла з німфамі, а пяяла, як і цяпер. Калі яна так пасвіла, гуляла, пяяла, падышоў Пан і пачаў яе схіляць на тое, чаго яму хацелася, і абяцаць ёй за гэта, што ўсе яе козы будуць прыводзіць двайнятак. Яна пасмяялася з яго кахання і сказала, што не хоча такога каханка, які не казёл і не цалкам мужчына.

Пан кінуўся ў пагоню за ёю, каб узяць яе сілаю. Сірынга ўцякла ад Пана і яго гвалту; уцякаючы, яна, зняможаная, хаваецца ў чароце, знікае ў балоце. Пан у злосці вырэзвае чарот, але дзяўчыны не знаходзіць і, зразумеўшы бяду, гэтую дудку вынаходзіць, злучае воскам няроўныя трубкі, бо ў іх каханне было няроўнае; і былая прыгожая дзяўчына цяпер пяшчотная сірынга».

35

Толькі што скончыў Ламан сваё апавяданне і Філет пахваліў, што расказаная казка саладзейшая за песню, як ужо стаіць зноў Тытыр, падаючы бацьку сірынгу, вялікую, з доўгімі трубкамі; і там, дзе яны звычайна змацоўваюцца воскам, яна аздоблена меддзю. Можна было б падумаць, што гэта была тая сірынга, якую Пан першую зрабіў. Філет падняўся, сеў на сядзенні прама і напачатку праверыў трубкі, ці праходзіць паветра; і пасля, перakанаўшыся, што нічога не замінае подыху, ён моцна, па-маладому падзьмуў. Можна было падумаць, што чуваць некалькі дудак разам, такая магутная была яго ігра. Патрошку зменшваючы сілу, ён перайшоў да больш пяшчотных напеваў, а каб паказаць усё майстэрства добрай пастухоўскай музыкі, ён зайграў, як належыць для статка кароў, як трэба для коз і якія напевы любяць авечкі. Пяшчотна для авечак, моцна для кароў, высока для коз.

Цалкам усе сірынгі гэтыя адна (сірынга) пераймала.

36

Усе ляжалі ў маўклівай насалодзе, Дрыяс жа ўстаў і папрасіў, каб яму сыгралі Дыянісаў напеў, і пачаў танцаваць танец вінаградараў. Ён то паказваў таго, хто збірае вінаград, то таго, хто нясе поўныя кашы, пасля таго, хто топча гронкі, потым таго, хто напаўняе бочкі, далей таго, хто п'е сусла. Усё вытанцоўваў Дрыяс так зграбна і выразна, што, здавалася, відаць былі і вінаградныя лозы, і націсі, і бочкі, і што Дрыяс сапраўды піў.

37

Гэты трэці стары, заслужыўшы пахвалу за танец, цалуе Хлою і Дафніса. Тыя, хутка ўсхапіўшыся, станцавалі

Ламанаву казку. Дафніс паказваў Пана, Хлоя — Сірынгу. Ён умольваў яе, пераконваючы, яна безуважна пасміхалася. Ён пагнаўся за ёю і бег пры гэтым на кончыках пальцаў, удаючы капыты, яна ж паказвала зняможаную пагоняй. Пасля Хлоя ў лесе, нібы ў балоце, хаваецца; Дафніс жа, узяўшы Філетаву вялікую сірынгу, зайграў сумную песню, як закаханы, пасля пяшчотную, нібы ўгаворваючы, потым прываблівую, нібы шукаючы яе, так што Філет, ускочыўшы, пацалаваў яго, і падараваў яму пасля пацалунка сваю сірынгу, і пажадаў, каб і Дафніс пакінуў яе некалі такому ж годнаму пераемніку.

## 38

Дафніс жа прынёс у дар Пану сваю ўласную малую сірынгу і, пацалаваўшы Хлою, як бы ён сапраўды пасля ўцёкаў знайшоў яе, пагнаў статак, іграючы на новай сірынзе.

Ужо надыходзіла ноч, і Хлоя пагнала сваю чараду, збіраючы яе напевам сірынгі; і козы беглі побач з авечкамі, і Дафніс ішоў поруч з Хлояю, так што да самай ночы яны цешыліся адно адным і ўмовіліся назаўтра яшчэ раней выгнаць статкі; так і зрабілі. Толькі што бралася на дзень, і яны прыйшлі ўжо на пашу. Напачатку звярнуліся з прывітаннем да німфаў, пасля — да Пана, а потым, усеўшыся пад дубам,ігралі на сірынзе, далей цалаваліся, абдымаліся і ляжалі адно каля аднаго; і, нічога не зрабіўшы больш, падняліся. Не забыліся і паесці, выпілі і віна, змяшаўшы яго з малаком.

## 39

Ад усяго гэтага яшчэ больш разгарачыўшыся і паадважнеўшы, яны паспрачаліся адно з адным, хто з іх мацней любіць, і памаленьку дайшлі да клятваў у вернасці. Дафніс Панам пакляўся, падышоўшы да яго хвойкі, што ён не будзе жыць адзін, без Хлоі, ні адзінага дня; а Хлоя паклялася Дафнісу німфамі, увайшоўшы ў іх пячору, што хоча з Дафнісам жыць і памерці. Дзявочая прастадушнасць Хлоі даходзіла да таго, што, выйшаўшы з пячоры, яна вымагала ад яго і другой клятвы. «Дафніс! — казала яна.— Пан — гэта бог, які часта ўлюбляецца і часта

здраждвае; кахаў ён Пітыс, кахаў Сірынгу; ніколі не ўпусціць ён, каб не зачапіць дрыяд, не дае праходу німфам, заступніцам жывёлы. Ён безуважна ставіцца да клятваў і цябе не пакарае, хоць бы ты пакахаў больш жанчын, чым мае чароцін твая сірынга; ты ж пакляніся гэтым статкам і тою казою, што цябе ўзгадавала, не пакінуць Хлоі, пакуль яна табе будзе верная; калі ж яна саграшыць супроць цябе і супроць німфаў, уцякай ад яе, ненавідзь і забі яе, як ваўка».

Дафніс узрадаваўся яе недаверу і, стаўшы сярод чарады коз і ўзяўшы адною рукою казу, другою — казла, пакляўся Хлоі любіць яе датуль, пакуль яна яго любіць будзе; калі ж яна каго іншага замест Дафніса выбера, тады ён не яе — сябе заб'е.

Яна ўзрадавалася і паверыла яму, як дзяўчына і як пастушка, што лічыць коз і авечак уласнымі багамі аўчароў і казапасаў.

# КНІГА ТРЭЦЯЯ

## 1

Калі мітыленцы дачуліся пра напад дзесяці караблёў, а людзі, што прыйшлі з вёсак, расказалі ім пра разбой, яны, палічыўшы, што такога ад метымнейцаў нельга стрываць, пастанавілі як найхутчэй узяцца за зброю; адабраўшы тры тысячы шчытаносцаў і пяцьсот коннікаў, яны паслалі свайго ваяводу Гіпаса па сушы, баючыся мора ў зімовую пару.

## 2

Ён вырушыў у паход, але ані не дратаваў метымнейскіх палёў, не рабаваў ні статкаў, ні набытку сялян і пастухоў, бо ўважаў, што так рабіць больш падыходзіць разбойніку, чым ваяводзе; шпарка павёў ён войска на сам горад, каб напасці на брамы, пакуль яны без аховы.

І калі ён быў яшчэ стадыяў за сто да горада, яго перастрэў пасланец, просячы аб замірэнні. Бо калі метымнейцы вызналі ў палонных, што мітыленцы ані не ведалі, з-за

чаго ўсё ўсчалося, і што сяляне і пастухі проста асадзілі нахрапістых дзецюкоў, то тады ў Метымне людзе раскаяліся, бо рашыліся выступіць супроць суседняга горада больш з асляплення, чым з розуму; а таму яны спяшаліся аддаць усё нарабаванае, каб спакойна зноў сустракацца і на зямлі, і на моры.

Гэтага пасланца Гіпас, хоць і быў выбраны паўнамоцным ваяводаю, паслаў да мітыленцаў, а сам за стадыяў дзесяць да Метымны стаў лагерам і чакаў загадаў са свайго горада. Мінула два дні, прыйшоў ганец з наказам прыняць назад нарабаванае і, не чынячы шкоды, вярнуцца дадому; маючы на выбар вайну і мір, яны прызналі больш карысным мір.

## 3

І вось вайна між метымнейцамі і мітыленцамі як неспадзявана пачалася, так і закончылася.

Надышла зіма, і была яна для Дафніса і Хлоі больш гаротлівая, чым вайна; бо раптоўна выпаў глыбокі снег, усе дарогі адцяў, [illegible] ўсіх сялян у хаты загнаў. Бурна спадалі з гор патокі і скоўваліся ў даліне лёдам; дрэвы, пацяжэўшы, паніклі; уся зямля схавалася пад снегам, выступаючы дзе-небудзь ля крыніц і рэчак. Ніхто не гнаў статка на пашу, ні сам не выходзіў за дзверы, а як запявалі пеўні, раскладалі вялікі агонь, і адны пачыналі прасці лён, другія — круціць казіную воўну, трэція — рабіць сілы на птушак. Тады ўжо была турбота быдлу ў яслі мякіны падкінуць, козам і авечкам у стойлы — галінак з лісцем, свінням у свінушнікі — жалудоў ды букавых арэшкаў.

## 4

Пры гэтым вымушаным сядзенні ў хаце ўсе іншыя земляробы і пастухі былі рады, што хоць на кароткі час ім не трэба нічога рабіць і яны могуць спакойна паснедаць і доўга паспаць; так што зіма ім здавалася мілейшаю, чым лета і восень і нават чым вясна. А Хлоя і Дафніс, успамінаючы мінулыя ўцехі: як яны цалаваліся, як абдымаліся, як разам спажывалі сваю яду — сумавалі і не спалі начамі і чакалі вясновай пары як новага нараджэння пасля смерці. Іх сум агортваў, калі ім траплялася ў рукі

пастухова торба, з якой яны елі, або калі яны бачылі даёнку, з якой яны разам пілі, або нядбала кінутую сірынгу, якая была дарункам кахання.

Таму яны малілі німфаў і Пана збавіць іх ад гэтых пакут і нарэшце зноў паказаць ім і іх статкам сонца; молячыся, яны шукалі рады, як ім адно з адным убачыцца. Хлоя ж зусім нічога не магла тут ні зрабіць, ні прыдумаць: з ёю ўвесь час была яе названая маці, вучыла яе часаць воўну, круціць верацёны ды ўсё нагадвала пра вяселле; а Дафніс быў вольны і больш здатны на выдумкі, чым дзяўчына, таму і знайшоў спосаб, як убачыць Хлою.

## 5

Перад Дрыясавай хатаю, пры ўваходзе на панадворак, раслі два вялікія мірты і плюшч. Мірты стаялі побач, а пасярод іх — плюшч, так што ён раскідваў, як вінаградная лаза, свае парасткі на абодва бакі і сваім пераплеценым лісцем нібы ўтвараў пячору; і шмат буйных ягад, як вінаградныя гронкі, звісала з галінак. Там збіралася шмат зімовага птаства, якому не ставала ў полі спажывы: шмат чорных і шэрых драздоў, туркавак, шпакоў і розных іншых птушак, ласых на плюшчовыя ягады. Удаючы, што збіраецца паляваць на гэтых птушак, і падаўся з хаты Дафніс, напоўніўшы сваю пастуховую торбу мядовымі коржыкамі, а каб больш далі веры, узяў з сабою птушыны клей, сілкі. Дарогі было ад сілы стадыяў дзесяць; але снег яшчэ не растаў і шмат даў яму клопату; але для кахання сапраўды ўсё не бяда — ні агонь, ні вада, ні нават скіфскі снег.

## 6

Дабегшы пад Дрыясаву хату і абтросшы ногі ад снегу, ён расставіў сілкі і намазаў доўгія галінкі клеем: тады прысеў, чакаючы птушак і Хлою. Птушкі зляцеліся вялікімі чародамі, і шмат іх злавілася, так што нямала яму было работы, іх збіраючы, забіваючы і аскубаючы пер'е. Але з жылля ніхто не выходзіў, ні гаспадар, ні жонка, ні свойская птушка — усе заставаліся пры агні ўсярэдзіне замкнуўшыся; так што Дафніс зусім разгубіўся, быццам злавесныя птушкі яго сюды прывялі; і надумаўся ён прывесці якую прычапку, каб адчыніць дзверы, і пачаў перабі-

раць, што ж такое сказаць, каб больш верагодным здалося.«Я прыйшоў агню ўзяць».—«А хіба няма суседзяў за стадый ад цябе?» — «Я прыйшоў хлеба пазычыць».— «Але ж у цябе торба поўная яды». —«Мне трэба віна».— «Але толькі ўчора ці заўчора збіраў вінаград».— «За мною гнаўся воўк».— «А дзе ж воўчыя сляды?»— «Прыйшоў я птушак палавіць».— «Чаго ж дадому не ідзеш, калі нешта ўпаляваў».— «Я хачу Хлою ўбачыць».— «Але ж хто прызнаецца ў гэтым бацьку і мацеры дзяўчыны?» Усюды непярэліўкі. Што ні сказаў бы, выдавала б падазроным. Лепш ж памаўчу. Хлою я зноў увесну ўбачу, бо, як мне здаецца, не суджана ўбачыць яе ўзімку».

Так паразважаўшы, сабраў ён паціху сваю здабычу і хацеў ужо ісці; але злітаваўся над ім Эрас, і вось што адбылося.

## 7

Дрыясава сям'я сядзела за сталом; мяса было падзелена, хлеб пададзены, віно разбаўлена ў кратэры. Адзін з аўчароў, улучыўшы хвіліну, калі яго ніхто не бачыў, ухапіў кавалак мяса і ўцёк з ім праз дзверы. Разгневаны Дрыяс (а гэта была якраз яго доля) схапіў кія і сам, як сабака, пагнаўся ўслед. Гонячыся за ім, ён апынуўся каля плюшча і ўбачыў Дафніса, які, узваліўшы сваю здабычу на плечы, якраз збіраўся ўцячы. Тут жа забыўшыся пра мяса і пра сабаку, стары голасна ўсклікнуў: «Здароў, сынок!», абняў, пацалаваў яго і, узяўшы за руку, павёў у хату.

Убачыўшы адно аднаго, Дафніс і Хлоя ледзь не асунуліся долу; але авалодалі сабою і ўтрымаліся на нагах, прывіталіся, пацалаваліся; і ў гэтым як быццам бы апору сабе знайшлі, каб не ўпасці.

## 8

Атрымаўшы насуперак спадзяванню і пацалунак, і спатканне з Хлояю, Дафніс падсеў бліжэй да агню; зняўшы з плячэй, паклаў на стол туркавак і драздоў і расказаў, як ён, калі яму надакучыла сядзець у хаце, пайшоў на паляванне і як ён налавіў птушак — адных сілкамі, другіх клеем, калі яны ласаваліся ягадамі міртаў і плюшча.

Усе пахвалілі яго руплівасць і запрасілі адведаць з таго, што не паспеў ухапіць сабака. А Хлоі сказалі наліць віна. І яна радасна падала ўсім, а Дафнісу пасля ўсіх; яна ўдавала, што гневаецца на яго, чаму ён, прыйшоўшы, хацеў уцячы, не пабачыўшы яе. Але ўсё ж яна прыгубіла, перш чым яму паднесці, і толькі ўжо тады падала. А ён, хоць яго і даймала смага, піў паволі, каб праз гэтую павольнасць падоўжыць асалоду.

## 9

Хутка стол апусцеў ад хлеба і мяса. Але яны аставаліся яшчэ сядзець, распытваючы пра Мірталу і Ламана, называлі іх шчаслівымі, бо доля паслала ім такую падпору на старасць. І ён быў рад пахвалам, іх жа чула Хлоя; калі ж яго папрасілі астацца, бо назаўтра яны хочуць прынесці ахвяру Дыянісу, ён з радасці ледзь не схіліўся ў паклоне перад імі замест Дыяніса. Тут жа выняў з пастуховай торбы шмат мядовых коржыкаў і злоўленых птушак, якіх і прыгатавалі на вячэру. Другі раз паставілі кратэр з віном і другі раз агонь распалілі. Хутка надышла ноч, зноў пайшло другое банкетаванне, пасля якога расказвалі розныя паданні, спявалі песні, пакуль нарэшце не разышліся спаць — Хлоя са сваёю маці, Дрыяс з Дафнісам. Хлоя не мела іншае радасці, апроч тае, што заўтра зноў убачыць Дафніса, а Дафніс радаваўся сціплай уцесе: уважаў за радасць тое, што ляжаў з Хлоіным бацькам; так што ён абдымаў таго і не раз цалаваў, мроячы ў дрымоце, што робіць усё гэта з Хлояй.

## 10

Надышоў дзень — мароз быў страшэнны, паўночны вецер усё ледзяніў. Яны ўсталі, прынеслі ў ахвяру Дыянісу гадавалага барана, развялі вялікі агонь і падрыхтавалі яду. Пакуль Напэ хлеб пякла, а Дрыяс смажыў барана, Дафніс і Хлоя, улучыўшы вольную часіну, выбеглі з хаты туды, дзе рос плюшч: зноў паставіўшы сілкі і намазаўшы галінкі птушыным клеем, налавілі нямала птушак. А заадно тут была асалода пацалункаў і радасная гаворка. «Дзеля цябе прыйшоў я, Хлоя».— «Ведаю, Дафніс».— «Дзеля цябе пазбаўляю жыцця гэтых няшчасных драздоў».— «Што ж

я павінна зрабіць для цябе?» — «Помні пра мяне».— «Помню, клянуся німфамі, якімі некалі паклялася ў той пячоры, куды мы зноў пойдзем, як толькі растане снег».— «Але ж так шмат снегу, Хлоя, баюся, што я сам раней растану».— «Мацуйся, Дафніс, сонца ўжо грэе».— «О Хлоя, каб жа яно было такое гарачае, як агонь, што паліць мне сэрца».— «Жартуеш, дурыш мяне».— «Не, клянуся тымі козамі, якімі ты мне загадала клясціся».

## 11

Калі Хлоя Дафнісу так адклікалася, як Эхó, Напэ з дамашнімі паклікала іх, і яны прыбеглі, несучы яшчэ багацейшую за ўчарашнюю здабычу; тады ўзлілі яны Дыянісу першыя кроплі з кратэра і пачалі банкетаваць, усклаўшы на галаву вянкі з плюшчу. А калі надышоў час і адгучалі іх усклікі «Іакх!» і «Эвоэ!», яны правялі Дафніса, папоўніўшы мясам і хлебам яго пастухову торбу. Далі і туркавак і драздоў аднесці Ламану і Міртале, бо сабе ж яны могуць яшчэ налавіць, пакуль трывае зіма і не скончыліся ягады на плюшчы. І ён пайшоў, пацалаваўшы ўсіх іншых раней за Хлою, каб яе пацалунак чыстым астаўся на яго губах.

І ён не раз яшчэ хадзіў гэтаю дарогаю пад рознымі прычапкамі, так што не ўся зіма прамінула для іх без кахання.

## 12

А ўжо калі надышла вясна, сышоў снег, выступіла зямля, адскочыла трава, пастухі пагналі статкі на пашы, а раней за ўсіх Хлоя і Дафніс, бо служылі яны вышэйшаму пастуху. Тут жа пабеглі яны да німфаў у пячору, адтуль да Пана пад хвойку і нарэшце да дуба, пад якім яны і ўселіся, статкі пасвілі і адно аднаго цалавалі. Пачалі яны шукаць кветак, каб прыбраць вянкамі статуі багоў; а тых толькі што выманілі з зямлі зефір, песцячы, ды сонца, грэючы; але ўсё ж знайшлі фіялкі, нарцысы, кураслеп і ўсіх іншых узгадаванцаў вясны. Хлоя і Дафніс надаілі з-пад некалькіх коз і авечак свежага малака, зрабілі ўзліванне, пасля чаго ўпрыгожылі вянкамі статуі багоў. І на сірынзе яны пачалі зноў іграць, як бы хацелі з салаўямі

ў спевах паспрачацца; і тыя адклікаліся з гушчарніку і пакрысе ўдасканальвалі свае жальбы пра Ітыса, нібы прыпаміналі сваю песню пасля доўгага маўчання.

## 13

Тут і там бляялі авечкі, тут і там падскоквалі ягняты і, залазячы пад маткі, ссалі вымя; за някотнымі авечкамі ганяліся бараны і, уздымаючыся на заднія ногі, пакрывалі іх — адзін адну, другі другую. Гэтак жа ганяліся казлы за козамі, скакалі ў нясцерпе вакол іх і змагаліся за коз; кожны меў сваіх і ахоўваў іх, каб ніякі іншы крадком не ўжыў з яго права.

Нават старых такое відовішча пацягнула б да любоўных уцех, а Дафніс і Хлоя — маладыя, поўныя здароўя і сіл, і ўжо доўгі час прагнулі кахання; палымнелі яны, чуючы ўсё гэта, знемагалі, бачачы ўсё гэта, і самі шукалі чагосьці большага, чым пацалункі ды абдымкі, а найбольш Дафніс. Бо, вядома, прасядзеўшы зіму ў хаце, нічога не робячы, ён узмужнеў, і рваўся да пацалункаў, і ўспыхваў ад абдымкаў, і ва ўсім зрабіўся больш гарачым і адважным.

## 14

Вось і пачаў ён прасіць Хлою, каб дазволіла яму ўсё, чаго ён хоча; голая з голым ім паляжала даўжэй, чым яны дагэтуль рабілі; бо толькі гэта ўпушчана з Філетавых павучанняў, так што гэта якраз тыя адзіныя лекі, што іх каханне суцішаюць.

Калі ж яна спыталася, што яшчэ ёсць больш, чым цалаванне, абдыманне і само ляжанне, і што ён будзе рабіць, калі будзе голы пры ёй голай ляжаць, ён сказаў: «Тое самае, што бараны робяць з авечкамі, а казлы з козамі. Хіба ты не бачыш, што пасля гэтага авечкі ад бараноў не ўцякаюць, а тыя не ганяюцца за імі да стомы, а, ужыўшы супольнай асалоды, разам пасуцца; салодкая, як відаць, гэтая работа, і яна адольвае горыч кахання».— «Але хіба не бачыш ты, Дафніс, што козы і казлы, а бараны і авечкі робяць гэта стоячы, як козы і авечкі таксама стоячы іх прымаюць, тыя ж на іх скачуць, яны ж носяць іх на спіне? А ты хочаш, каб я з табою ляжала ды яшчэ і голая? Да таго ж наколькі шчыльней шэрсць іх пакрывае,

чым мяне мая вопратка». Паслухаўся Дафніс, лёг пры ёй і ляжаў так доўгі час, але, не ўмеючы зрабіць тое, да чаго ён палка імкнуўся, падняў яе і, абняўшы ззаду, прыціснуўся да яе, пераймаючы казлоў. Але яшчэ больш збянтэжаны прысеў і заплакаў з таго, што ў каханні ён яшчэ менш разбіраецца, чым бараны.

15

Меў ён суседа, што абрабляў уласную зямлю, на імя Хроміс, лепшыя гады якога ўжо адышлі. Той узяў сабе жонку з горада, маладую, у самым росквіце, куды больш прывабную за вясковых; Лікэніён было ёй імя. Бачачы, як штодня Дафніс праганяў сваіх коз на пашу, а пад ноч з пашы, Лікэніён захацелася, прынадзіўшы яго падарункамі, зрабіць сваім каханкам. І вось неяк, падпільнаваўшы яго аднаго, яна падарыла яму сірынгу, мёду ў сотах і пастухову торбу з аленевай шкуры. Але прызнацца яму пабаялася, бо заўважыла яго каханне да Хлоі: добра ж бачыла, як ён хінецца да дзяўчыны. Спачатку яна здагадалася з іх кіўкоў галавою і з усмешак, а неяк аднаго ранку, сказаўшы Хромісу, што нібыта ідзе адведаць парадзіху суседку, пайшла за імі назіркам, схавалася ў гушчарніку, каб яе не ўбачылі, і ўчула ўсё, што яны казалі, і пабачыла ўсё, што яны рабілі; не прайшло паўз яе і што плакаў Дафніс. Спачуваючы няшчасным і рашыўшы, што гэта двойчы зручны момант — іх ад мук уратаваць, а заадно і сваю пажадлівасць утаймаваць — прыдумала яна такую хітрасць.

16

На другі дзень, нібыта яна зноў выпраўляецца адведаць тую парадзіху, адкрыта ідзе да дуба, дзе сядзелі Дафніс і Хлоя, і, спрытна ўдаючы перапалоханую, кажа: «Уратуй мяне, Дафніс, няшчасную, бо з маіх дваццаці гусей арол украў найлепшага гусака, але ноша яго была надта цяжкая, не змог ён занесці на звычайнае месца — на высокую скалу, а мусіў апусціцца там, у нізкім ляску. Дык хадзі — заклінаю німфамі і тым Панам! — са мною ў лес (адна я ж баюся), выратуй мне гусака, не дапусці ўбытку ў чарадзе. Можа, і самога арла зможаш забіць,

і ён не будзе ўжо без канца цягаць у вас ягнят і казлянят. А тым часам статак паглядзіць Хлоя; козы ж добра ведаюць яе, яна ж заўсёды з табою пасе іх».

17

Зусім не здагадваючыся, што яго чакае, Дафніс адразу ж падняўся, узяў пастуховы кій і пайшоў за Лікэніён. Яна ж вяла яго як мага далей ад Хлоі; і, калі яны апынуліся ў найбольшым гушчары, яна сказала яму прысесці паблізу ручаіны і прамовіла: «Ты, Дафніс, кахаеш Хлою; гэта я ўведала ўночы ад німфаў. У сне яны расказалі мне і пра твае ўчарашнія слёзы і загадалі дапамагчы табе і навучыць цябе, што трэба рабіць. Але ж гэта не пацалункі, не абдымкі і не тое, што робяць бараны і казлы; іншыя гэта скачкі і нашмат саладзейшыя, чым у іх, і даўжэйшы час трывае асалода. Дык калі хочаш пазбавіцца свае бяды і зазнаць тыя ўцехі, якіх ты шукаеш, то хадзі, аддайся мне, будзь мілым вучнем; я ж, каб дагадзіць тым німфам, навучу цябе гэтаму».

18

Дафніс не мог утрымацца ад радасці, праставаты казапас, да таго ж закаханы і малады, упаў ён да ног Лікэніён, молячы як мага хутчэй навучыць яго ўмельству зрабіць з Хлояю тое, што ён так хоча; і як бы яна мела навучыць яго нечаму вялікаму і сапраўды ад бога спасланаму, ён абяцае ёй маладзенькае казляня, далікатнага сыру з аднае смятанкі і нават казу. Знайшоўшы ў ім такую пастушыную шчодрасць, якой яна ані не чакала, Лікэніён пачала навучаць такім спосабам: яна сказала, каб падсеў бліжэй да яе і цалаваў яе так часта і палка, як ён гэта звычайна робіць, і, цалуючы, заадно абняў яе і лёг долу. Калі ж ён прысеў, пацалаваў, прылёг да яе і яна адчула, што ён поўны сілы для работы і гарыць жаданнем, яна прыпадняла яго, бо ён ляжаў на баку, спрытна падставілася пад яго і навяла яго на дарогу, якую ён так доўга расшукваў; а там не спатрэбілася мудраваць, сама прырода навучыла, што рабіць далей.

## 19

Як толькі Дафніс закончыў навуку кахання, ён, усё яшчэ па-пастухоўску прастадушны, хацеў бегчы да Хлоі, каб тут жа зрабіць з ёю тое, чаму навучыўся, як быццам баяўся забыцца, калі прамарудзіць; але Лікэніён, затрымаўшы яго, сказала так: «Яшчэ вось што павінен ты давучыць, Дафніс. Я ж жанчына і ніякага болю цяпер не адчувала, бо даўно ўжо навучыў мяне гэтаму іншы мужчына, узяўшы ва ўзнагароду маё дзявоцтва. Хлоя ж, змагаючыся з табою ў гэтай сутычцы, будзе крычаць і плакаць і будзе ляжаць у крыві, нібы забітая. Але ты не бойся крыві, а, угаварыўшы яе аддацца табе, прывядзі яе на гэтае месца, дзе, калі яна і закрычыць, ніхто не пачуе і дзе, калі яна і заплача, ніхто не ўбачыць, а калі давядзецца ёй у кроў абрабіцца, то зможа ў гэтай ручаіне памыцца. І помні, што я раней за Хлою мужчынам цябе зрабіла».

## 20

Пасля такіх павучанняў Лікэніён падалася ў другі бок лесу, нібы ўсё яшчэ шукаючы гусака; а Дафніс, абдумваючы яе словы, стрымаў сваё першае парыванне, баючыся вымагаць ад Хлоі нечага большага, чым пацалункі ды абдымкі, бо ён не хацеў, каб яна ад яго крычала, нібы ад ворага, плакала ад болю і сплывала крывёю, нібы яе забіваюць. Толькі ледзь падвучыўшыся, ён баяўся крыві і думаў, што толькі з раны кроў можа ліцца. І рашыўшы з ёю цешыцца звычайным спосабам, Дафніс выйшаў з лесу; прыйшоўшы туды, дзе сядзела Хлоя, плетучы з фіялак вянок, ён схлусіў ёй, што вырваў гусака з арліных кіпцюроў, і, абняўшы яе, пачаў цалаваць, як ён, цешачыся, рабіў з Лікэніён, бо гэта ж была дазволеная і бяспечная ўцеха. А яна надзела яму вянок на галаву і цалавала яго валасы, якія здаліся ёй прыгажэйшымі за фіялкі. І дастаўшы са свае пастуховай торбы пляйстар сушанай садавіны і некалькі скібак хлеба, дала яму падсілкавацца; і калі ён еў, яна выхоплівала ў яго з рота кавалачкі і глытала, як маленькае птушаня.

## 21

Калі яны так елі, а яшчэ больш цалаваліся, чым елі, то ўбачылі рыбацкі човен, што праплываў паўз іх. Ветру не

было, мора было спакойнае, і даводзілася веславаць. І рыбакі з усіх сіл працавалі вёсламі, бо спяшаліся прывезці ў горад аднаму багацею толькі што злоўленую рыбу. І як гэта заўсёды робяць маракі, каб забыць пра стому, так рабілі, вяслуючы, тыя. Адзін з іх, задаючы тэмп, запяваў марскія песні, а рэшта, як хор, усе разам і ў лад падхоплівала іх.

Пакуль яны так рабілі ў адкрытым моры, песня замірала, бо тоны яе губляліся ў далёкай прасторы; але калі яны, аб'ехаўшы мыс, увайшлі ў глыбокую выгнутую паўмесяцам бухту, іх усклікі чуліся мацней і бадзёрая песня выразней далятала да берага. Бо глыбокая цясніна прылягала да раўніны і, нібы поласць флейты, прымаючы ў сябе гук, на кожны голас адгукалася рэхам — выразна чуліся і плёскат вёслаў, і галасы весляроў. Люба слухаць было гэта. Бо спярша далятаў гук з мора, і доўга, пасля таго, як ён заміраў, гучаў толькі водгалас з сушы, спыняючыся нагэтулькі пазней, наколькі ён і пазней пачынаўся.

## 22

Дафніс, ведаючы ўсё гэта, сачыў толькі за морам і любаваўся, гледзячы, як карабель хутчэй за птушку пралятае паўз раўніну, і стараўся нешта запомніць з песень, каб сыграць пасля на сірынзе. А Хлоя, якая тады ўпершыню пачула тое, што рэхам завецца, то глядзела на мора, дзе маракі ў такт вёслам спявалі, то, павярнуўшыся да лесу, шукала, хто ж ім адгукаецца. І калі тыя праплылі паўз яе і ў цясніне запанавала ціша, яна спыталася ў Дафніса, ці ёсць за мысам яшчэ мора, і ці праплыў там другі карабель, і ці не спявалі другія маракі тую самую песню і ўсе ў адзін час замоўклі. Усміхнуўся пяшчотна Дафніс, яшчэ пяшчотней пацалаваў Хлою і, усклаўшы на яе вянок з фіялак, пачаў расказваць ёй легенду пра Эхо, наперад выпрасіўшы ў яе яшчэ дзесяць пацалункаў у плату за аповяд.

## 23

«Род німфаў, мая любая, вялікі: мэліі, дрыяды, гэлеі, усе красуні, усе пявунні. Адна з іх мела дачку Эхо, смертную, бо ад смертнага бацькі, прыгожую, бо ад прыгожае маткі. Німфы яе ўзгадавалі, музы яе на сірынзе, на дудцы іграць

навучылі, пад ліру, пад кіфару ўсялякія песні спяваць, так што, увабраўшыся ў дзявочую красу, з німфамі яна танцавала, з музамі спявала. Але ад усіх мужчын уцякала — і людзей, і багоў, любячы сваё дзявоцтва. Зазлаваў на дзяўчыну Пан, зайздросцячы яе спевам, намарна прагнучы яе красы, спаслаў вар'яцтва на пастухоў авечак і коз. І гэтыя, як сабакі ці ваўкі, разрываюць і па ўсёй зямлі раскідаюць яе часткі, якія яшчэ ўсё спяваюць. Зямля з ласкі да німфаў пахавала ўсе гэтыя часткі. А ўмельства гучання зберагла і з волі муз падае голас і ўсё пераймае, як некалі дзяўчына: багоў, людзей, музычныя інструменты, звяроў; нават ігру на сірынзе самога Пана пераймае. А ён, пачуўшы гэта, ускоквае і ганяецца па гарах, не так хочучы злавіць, як даведацца, хто ж гэта за таямнічы вучань».

Калі Дафніс расказаў гэтую легенду, Хлоя не дзесяць, а безліч разоў пацалавала яго, бо амаль тое ж за ім паўтарала Эхо, нібы сведчачы, што ён ані не салгаў.

## 24

З кожным днём сонца больш прыгравала, бо вясна канчалася, пачыналася лета, і зноў прыйшлі да іх новыя летнія радасці. Ён плаваў у рэках, Хлоя купалася ў ручаінах; ён іграў на сірынзе наўзахапкі з пошумам хвойкі, яна ж спявала навыперадкі з салаўямі. Яны ганяліся за стракатлівымі цвыркунамі, лавілі звонкіх цыкад, збіралі кветкі, абтрасалі дрэвы, елі плады. Урэшце клаліся разам голыя, накрыўшыся адною казлінаю шкураю. І Хлоя лёгка стала б жанчынаю, калі б Дафніса не бянтэжыла кроў. Праўда, баючыся, каб не страціць калі-небудзь улады над сабою, ён не дазваляў Хлоі раздзявацца дагала; Хлою ж гэта дзівіла, але яна саромелася спытацца чаму.

## 25

У гэтае лета да Хлоі заляцалася шмат хлопцаў, і з розных месцаў прыходзіла шмат народу да Дрыяса сватаць яе; адны прыносілі падарункі, другія — вялікія абяцанкі. Напэ, падахвочаная спадзеўкамі, раіла яму выдаць Хлою і не трымаць далей дома такую дарослую дзяўчыну, якая, пасучы, можа не сёння-заўтра страціць сваё дзявоцтва, узяўшы сабе мужам якога з пастухоў за некалькі яблыкаў ці ру-

жаў; лепей жа зрабіць яе сапраўднаю гаспадыняю дома, а вялікія падарункі самім узяць і зберагчы для свайго ўлюбёнага роднага сына (якраз незадоўга перад тым у іх нарадзіўся хлопчык). Часам Дрыяс пагаджаўся з гэтымі гаворкамі, бо кожны залётнік абяцаў большыя падарункі, чым можна было ўзяць за дачку пастуха; а часам ён зноў пачынаў думаць, што дзяўчына вартая лепшага мужа, чым сялянскія хлопцы, і што калі б яна некалі знайшла сваіх сапраўдных бацькоў, то абагаціла б і ашчаслівіла і яго і жонку; і марудзіў з адказам, адкладаючы яго з дня на дзень, тым часам збіраючы ніштавата падарункаў.

Хлоя, даведаўшыся пра гэта, цяжка зажурылася, але доўгі час не казала Дафнісу, не хочучы яго засмучаць; калі ж ён пачаў прыставаць і распытваць, што здарылася, і яшчэ больш засмуціўся ад няведання, чым бы ад ведання, яна яму ўсё расказала: што шмат залётнікаў сватаецца да яе і якія яны багатыя, пра ўгаворы Напэ, якая прыспешвае вяселле, пра Дрыяса, які не адмовіў нікому, але адклаў усё да збору вінаграду.

26

Сам не свой зрабіўся Дафніс ад гэтага, і, сеўшы, заплакаў, і казаў, што памрэ, калі Хлоя не будзе з ім больш пасвіць; і не толькі ён адзін, але разам з ім і авечкі без такое пастушкі. Пасля, сабраўшыся з духам, ён трохі суцешыўся і надумаў угаварыць яе бацьку, палічыўшы і сябе сярод залётнікаў і спадзеючыся, што возьме верх над імі. Толькі адно турбавала — Ламан не быў багаты, і гэта адно аслабляла яго надзею. Але ён наважыў сватацца, і Хлоя згадзілася з гэтым. Ламану ён не адважыўся сказаць, Міртале ж даверыўся адкрыць сваё каханне і пра шлюб слоўца ўкінуў; а яна ўночы расказала пра гэта Ламану. Той сурова сустрэў прапанову і пачаў папракаць, што яна хоча з дачкою простых пастухоў звесці хлопца, якому прыкметныя знакі абяцаюць багатую долю; бо, калі ён сваіх сапраўдных бацькоў знойдзе, зробіць іх вольнымі і дасць ім куды большыя надзелы зямлі. Міртала ж, баючыся, каб Дафніс, зусім страціўшы надзею на шлюб, з-за кахання не рашыўся зрабіць чаго над сабою, падала яму зусім іншыя прычыны адмовы. «Мы, дзіцятка, бедныя людзі, і нам трэба нявестку, якая сама прынясла б чым болей у хату; яны ж багатыя і хочуць багатых зяцёў. Ідзі ж,

угавары Хлою, хай яна пераканае свайго бацьку, каб ён не вымагаў шмат і выдаў яе за цябе. Бо напэўна яна цябе кахае і ёй хочацца лепш спаць з прыгожым, хоць бедным, хлопцам, чым з багатаю малпаю».

## 27

Міртала, якая ніколі не спадзявалася, што Дрыяс дасць згоду — меў жа ён багацейшых залётнікаў,— думала, што знайшла найлепшую адгаворку, каб унікнуць шлюбу; Дафніс не мог адкінуць яе словы. Бачачы, як далёка ён ад сваіх спадзяванняў, рабіў тое, што звычайна робяць няшчасныя закаханыя: плакаў і зноў клікаў німфаў на дапамогу. І ўночы, калі ён спаў, яны з'явіліся ў сне ў тым самым абліччы, як і мінулы раз, і зноў загаварыла старэйшая: «Пра Хлоін шлюб дбае іншы бог; мы ж дамо табе падарункі, якімі задобрыш Дрыяса. Карабель маладых метымнейцаў, лазовую вітку якога некалі з'елі твае козы, у той дзень ветрам адагнала далёка ад зямлі; але ўночы, калі з адкрытага мора наляцела бура і яно ўсхадзілася, карабель выкінула на скалы гэтага мыса. Сам карабель і шмат чаго ў ім загінула; але гаманец з трыма тысячамі драхмаў, выкінуты хваляю на бераг, ляжыць там і цяпер, прыкрыты марскою травою побач з мёртвым дэльфінам, і ніхто з падарожных не падыходзіць да таго месца, унікаючы смуроду гнілізны. Але ты падыдзі, і, падышоўшы, вазьмі, і, узяўшы, дай. Гэтага на разе табе досыць, каб не здацца бедным; а з часам ты станеш і сапраўды багатым».

## 28

Гэта сказаўшы, яны зніклі разам з ноччу. Калі ж заняўся дзень, Дафніс, узрадаваны, ускочыў і, голасна насвістваючы, пагнаў сваіх коз на пашу; пацалаваў Хлою і, ушанаваўшы німфаў, пабег да мора, нібы хочучы абмыцца; і там на пяску, побліз прыбою, хадзіў ён, шукаючы тыя тры тысячы. Не шмат давялося прыкласці клопату, бо неўзабаве дайшоў да яго нядобры пах дэльфіна, які ляжаў там і гніў; гэты смурод падлы і паказаў яму дарогу, ён пабег проста туды і, разгробшы водарасці, знайшоў гаманец, набіты серабром. Падняўшы яго і паклаўшы ў сваю пастухову торбу, не адышоў, аднак, пакуль удзячна

не памаліўся німфам і мору; бо хоць і быў пастух, але мора ўжо здавалася яму мілейшым, чым зямля, бо яно спрыяла яму ў шлюбе з Хлояй.

29

З трыма тысячамі драхмаў ён больш не марудзіў, лічачы сябе найбагацейшым чалавекам на свеце, а не толькі сярод тамтэйшых сялян,— тут жа прыбягае да Хлоі і расказвае ёй сон, паказвае гаманец, просіць яе папільнаваць статак, пакуль ён не вернецца, і як мага імчыцца да Дрыяса. Знайшоўшы яго на таку, дзе той з Напэ малаціў пшаніцу, ён з усёй адвагаю кідаецца ў гаворку пра шлюб: «Дай мне Хлою за жонку. Я ўмею на сірынзе прыгожа іграць, і вінаградныя лозы падразаць, і дрэвы саджаць. Умею зямлю араць і веяць збожжа на ветры. А як статак пасу — Хлоя сведкаю. Узяўшы пяцьдзесят коз, я падвоіў лік іх; я выгадаваў вялікіх і прыгожых казлоў; а раней мы чужымі казламі сваіх коз пакрывалі. Да таго ж я малады і сусед вам што трэба: а выкарміла мяне каза, як і Хлою — авечка. Пераважаючы ва ўсім гэтым над іншымі, я не ўступлю і ў падарунках. Даюць яны коз і авечак, пару шалудзівых валоў, збожжа, што і курэй не выстачыць пракарміць; а ад мяне — вось вам тры тысячы драхмаў. Толькі няхай ніхто не ведае, нават Ламан, мой бацька». З гэтымі словамі ён даў грошы, абняўшы, пацалаваў яго.

30

Яны ж, убачыўшы неспадзявана гэтулькі грошай, тут жа паабяцалі выдаць за яго Хлою і ўгаварыць Ламана. Напэ асталася з Дафнісам ганяць валоў наўкол току і выбіваць малацільнымі дошкамі калоссе; а Дрыяс, схаваўшы гаманец туды ж, дзе ляжалі Хлоіны прыкметныя знакі, хутка пабег да Ламана і Мірталы, каб — яшчэ такога не бывала — сватаць іх сына. Знайшоў ён іх, калі тыя мералі толькі што правеяны ячмень і былі вельмі зажураныя, бо ўраджай быў ці не меншы, чым пасеяна; на гэта ён іх суцешыў, што скрозь чуваць тыя самыя скаргі; а пасля пачаў прасіць выдаць Дафніса за Хлою і сказаў, што хоць шмат даюць другія, але ён ад іх нічога не возьме, а хацеў бы яшчэ і са сваіх прыпасаў ім дадаць; яны адно

з адным гадаваліся і, разам пасучы, павязаны такою дружбаю, якую нялёгка разарваць, і тыя гады, каб ім адно з адным спаць. Гэта і яшчэ шмат чаго казаў ён, бо ўзнагародаю, каб угаварыў іх, меў тры тысячы. А Ламан, які не мог ужо выставіць за прычыну ні сваю беднасць, бо тыя ж перад імі не задаваліся, ні Дафнісавы гады — ён ужо ж дзяцюк, а сапраўднай прычыны, што Дафнісу суджаны лепшы, чым гэты, шлюб, не выказаў; памаўчаўшы трошкі, ён так адказаў:

31

«Вы справядліва робіце, аддаючы перавагу суседзям перад чужымі і не ставячы багацце вышэй за сумленную беднасць. Хай будуць за гэта спагадлівыя да вас Пан і німфы! Я і сам спяшаюся з гэтым вяселлем; бо быў бы вар'ятам, калі б я, стары чалавек, якому ўжо неўзабаве для работы трэба будуць больш спрытныя рукі, не палічыў бы за вялікае дабро парадніцца з вашым домам; кожны б Хлою хацеў, прыгожая, мілая дзяўчына, спрытная ва ўсім. Але я раб і ні над чым, што маю, не гаспадар; трэба, каб мой пан уведаў пра гэта і даў згоду. Давайма адкладзём вяселле на восень. Тады і сам ён тут будзе, як кажуць людзі, што з горада прыходзяць да нас. Тады яны стануць мужам і жонкаю. Цяпер жа хай любяць адно аднаго, як брат і сястра. Толькі ведай, Дрыяс, вось што: дамагаешся ты хлопца, які стаіць вышэй, чым мы». Сказаўшы гэта, пацалаваў яго і даў яму папіць, бо быў полудзень — самая спёка, і, усяляк ушаноўваючы, правёў яго ў дарогу.

32

Але Дрыяс не пусціў паўз вушы апошніх Ламанавых слоў і, ідучы дадому, даўся ў думкі, хто ж такі Дафніс. «Яго выкарміла каза, значыць, багі дбаюць пра яго; ён прыгожы і ані не падобны ні да гэтага кірпатага старога, ні да яго лысай жонкі. А мае ж ён тры тысячы, гэтулькі і грушак-дзічак у казапаса звычайна не бывае. Можа, і яго падкінулі, як Хлою? Можа, і яго знайшоў Ламан, як я яе? Можа, і пры ім ляжалі прыкметныя знакі, падобныя да тых, што знойдзены мною? Калі гэта было так, о ўладны Пане, і вы, любыя німфы, тады, можа, калі ён знойдзе

сваіх, што-небудзь выйдзе на свет з Хлоінай таямніцы?» Так ён думаў і мроіў сам сабе, аж пакуль не дайшоў да току; прыйшоўшы туды і ўбачыўшы Дафніса, які напружана чакаў, што ж давядзецца пачуць, падбадзёрыў яго, назваўшы яго зяцем і паабяцаўшы ўвосень справіць вяселле, і падаў яму правую руку ў знак таго, што Хлоя не будзе належаць нікому, апроч Дафніса.

33

Хутчэй чым думка, не піўшы, не еўшы, пабег да Хлоі; знайшоўшы яе — яна якраз даіла і рабіла сыры, сказаў ёй радасную вестку пра вяселле і як бы жонку ўжо, не таячыся, пацалаваў і разам рабіў усю работу. Даіў малако ў даёнкі, укладаў сыры ў пляцёнкі, каб сушыліся; падводзіў ягнят і казлянят пад маткі. Калі ўсё як мае быць было падроблена, яны памыліся, паелі, папілі і пайшлі шукаць спелых пладоў. Іх было мноства ў гэтую ўсёдайную пару года: шмат грушак, дзікіх і садовых, шмат яблык, адны пападалі долу ўжо, другія былі яшчэ на дрэвах; тыя, што на зямлі, больш духмяныя, тыя, што на голлі, больш румяныя; адны пахлі, як віно, а другія блішчалі, як золата. Адна яблыня была абабраная: ні пладоў на ёй, ні лісця — усе галінкі голыя. Толькі ў самым версе гайдаўся адзінюткі яблык — вялікі, прыгожы, сваёй духмянасцю ўсе іншыя перабіваў. Збіраючы, нехта пабаяўся лезці высока і не парупіўся яго зняць, а можа, збярог для закаханага пастуха.

34

Як толькі Дафніс убачыў гэты яблык, тут жа падышоў, узлез, каб зняць яго, не зважаючы, што Хлоя пярэчыла яму. Зазлаваўшы, што ён яе не слухае, яна пабегла да статкаў; Дафніс жа хутка ўзлез, каб дастаць яблык, прынёс дарунак Хлоі і прамовіў такія словы да гняўлівай: «Дзяўчынка! Гэты яблык прыгожыя Горы ўзрадзілі, прыгожае дрэва яго жывіла, сонца спяліла, а Доля яго ацаліла. Я не мог, маючы вочы, пакінуць яго, каб ён долу ўпаў і каб статак, пасучыся, яго растаптаў, ці паўзун-гад атруціў, ці час там яго зглуміў; яго, якім толькі любавацца ды захапляцца. Такі яблык Афрадыта ва ўзнагароду за

красу атрымала, гэты — я табе даю ў знак тваё перамогі. І суддзі вашы падобныя: той жа быў пастух авечак, а я казапас».

Гэта сказаўшы, паклаў ён яблык у складкі адзення на грудзях; і калі ён падышоў блізка, яна пацалавала яго, так што Дафніс ані не каяўся, што так адважна лез на гэтую вышыню: бо атрымаў ён даражэйшае, чым нават залаты яблык,— пацалунак.

# КНІГА ЧАЦВЁРТАЯ

## 1

З Мітылены прыйшоў раб, які належаў таму гаспадару, што і Ламан, і прынёс вестку, што незадоўга да збору вінаграду прыедзе іх гаспадар, каб паглядзець, ці не прынёс шкоды яго палям напад метымнейцаў.

Лета ўжо канчалася, набліжалася восень, і Ламан рыхтаваўся да прыезду гаспадара, каб тут усё яму цешыла вока. Ён пачысціў крыніцы, каб вада была чыстая; вывез гной з двара, каб цяжкі дух не дакучаў; дагледзеў сад, каб ён меў прывабны выгляд.

## 2

А сад быў надзіва прыгожы, нібы царскі. Цягнуўся на цэлы стадый, а ляжаў на высокім месцы, маючы чатыры плетры ўшыркі. Можна падумаць, шырокае поле. Дрэвы ўсялякіх парод былі тут: яблыні, мірты, грушы і гранаты, а таксама фігі і алівы; а ў другім месцы высокія вінаградныя лозы абвівалі яблыні і грушы, чарнеючы гронкамі, нібы спрачаючыся з пладамі; гэта былі садовыя дрэвы. Але і былі кіпарысы і лаўры, платаны і хвойкі. Усе іх замест вінаграднай лазы абвіваў плюшч, і яго вялікія чорныя пучкі нагадвалі вінаградныя гронкі. Пладовыя дрэвы стаялі ўсярэдзіне, нібы пад аховаю: іх абступалі непладовыя, нібы агароджа, зробленая рукамі людзей; а ўсё разам аточваў нізенькі мур. Усё было акуратна падзелена і размерана, і дрэвы раслі роўна адно ад аднаго. А ўгары голле перапляталася, змешваючы лісце; так што

створанае прыродаю, здавалася, было зробленае мастаком. Былі і градкі кветак; адны ўзрасціла самасеем зямля, другія — умельства; кусты руж, гіяцынты і лілеі — з працы рук, фіялкі, нарцысы, гусіныя лапкі зрадзіла зямля. Улетку тут быў цень, увесну — кветкі, увосень — плады, і на ўсякую пару свая раскоша.

### 3

Адсюль адсланяўся шырокі від на раўніну і можна было згледзець пастухоў, якія пасвілі жывёлу; адсюль адсланяўся і прыгожы від на мора і можна было ўбачыць, як праплывалі караблі; так што і гэта прыдавала прывабнасць саду. А ў самай сярэдзіне па даўжыні і шырыні яго стаяла капліца Дыяніса і ахвярнік; ён абвіваўся плюшчом, капліца — вінаграднай лазою. Усярэдзіне капліцы былі намаляваны карціны з жыцця Дыяніса: роды Семелы, сон Арыядны, Лікург скаваны, Пентэй разарваны. Былі і пераможаныя індыйцы і тырэнцы, перакінутыя ў дэльфінаў; усюды сатыры вінаград таптaлі, усюды вакханкі танцавалі. Не абмінулі і Пана: сядзеў на скале, іграючы на сірынзе як бы агульную песню і для тых, што вінаград таптaлі, і для тых, што танцавалі.

### 4

Гэты сад старанна даглядаў Ламан, сухое голле падразаў, вінаградныя лозы падвязваў. Дыяніса ён упрыгожыў вянкамі; да кветак правёў ваду. Была там крыніца, якую знайшоў для кветак Дафніс. Гэтая крыніца хоць служыла кветкам, усё ж называлі яе Дафнісавай крыніцаю. Ламан загадаў Дафнісу, каб ён як мага лепш адкарміў коз, бо гаспадар, сказаў ён, абавязкова захоча пабачыць іх, прыехаўшы пасля доўгай адлучкі. Але Дафніс быў упэўнены, што і так яго пахваляць за коз, бо лік іх, як ён іх узяў, падвоіўся; і воўк ніводнае не ўхапіў, і былі яны тлусцейшыя за авечак; але каб гаспадар ахвотней згадзіўся на яго шлюб, усё старанне і руплівасць скіраваў на статак, выганяючы яго, ледзь на золак займала, і прыганяючы позна ўвечары. Два разы вадзіў на вадапой, расшукваў найлепшыя пашы ў тутэйшых мясцінах. Парупіўся і пра місы, каб былі новыя, і каб даёнак было шмат, і большыя

пляцёнкі для сушэння сыроў. Яго дбайнасць да таго дайшла, што і рогі алеем намазваў і воўну расчэсваў. Можна было падумаць, што бачыш святы Панаў статак. Ва ўсёй гэтай рабоце яму дапамагала і Хлоя; занядбаўшы сваю ўласную атару, яна праводзіла больш часу каля яго коз, так што Дафніс думаў, што толькі з-за яе яны так цудоўна выглядаюць.

5

Калі яны былі так занятыя, з горада прыйшоў другі пасланец з наказам як найхутчэй збіраць вінаград; і сам, казаў ён, тут астанецца, пакуль з вінаградных гронак не наробяць сусла, а пасля ён вернецца ў горад, каб прывезці з сабою гаспадара ўжо на заканчэнне збору вінаграду. Гэтага Эўдрама — так называлі яго, бо бегаць і была яго работа,— прынялі як толькі маглі і зараз жа пачалі збіраць вінаград, насіць гронкі ў націсі, сусла зліваць у бочкі, а найлепшыя з вінаградных гронак зразалі разам з лазою, каб тыя, што прыедуць з горада, мелі ўяву пра ўраджай і ад яго асалоду.

6

Калі Эўдрам ужо збіраўся вярнуцца ў горад, даў яму Дафніс нямала; а даў яму гасцінцаў, на што і стаць было казапасу: добра адціснутыя сыры, маладзенькае казляня, казлінуюшкуру з белаю густою воўнаю, каб узімку, бегучы, на сябе накінуць. Эўдрам узрадаваўся, пацалаваў Дафніса і паабяцаў, што скажа гаспадару толькі добрае пра яго. Так ён адышоў у прыязным настроі; а Дафніс у неспакоі пасвіў далей разам з Хлояю чароды. Ды і яна мела шмат страху: падлетак, які дагэтуль звык бачыць толькі коз, горы, сялян, Хлою, павінен быў упершыню ўбачыць гаспадара, толькі імя якога ён чуў раней. Таму яна і турбавалася за Дафніса, як ён сустрэнецца з гаспадаром, і пра шлюб душа яе непакоілася, ці не дарэмна мрояць яны аб ім. І ўвесь час яны цалаваліся і абдымаліся так цесна, нібы зрасліся; але пацалункі ў іх былі баязлівыя і абдымкі сумныя, нібы ўжо гаспадар быў тут, і яны са страху павінны былі ад яго хавацца. А да гэтага надарылася ім яшчэ і такая бяда.

7

Быў там Лампіс, грубы валапас. Ён таксама сватаў Хлою ў Дрыяса і ўжо шмат падарункаў прынёс, каб прыспешыць вяселле. Але даведаўшыся, што Дафніс ажэніцца з ёю, калі ўладар дазволіць, ён пачаў шукаць спосабу, каб разгневаць супроць іх гаспадара; ведаючы, што таго вельмі радуе сад, надумаў ён як мага яго знішчыць і знявечыць. Калі ссекчы дрэвы, то выдасць стук і яго зловяць; таму надумаўся ён спляжыць кветкі. Ён дачакаўся ночы, пералез цераз агароджу і адны з іх вырваў, другія — паламаў, а рэшту растаптаў, як свіння. І непрыкметна ўцёк.

Назаўтра раніцаю прыйшоў Ламан у сад, каб паліць кветкі вадою з крыніцы. Убачыўшы такое спусташэнне ўсяе мясціны — работа не грабежніка, а толькі ворага! — ён тут жа разарваў свой кароценькі хітон і моцным крыкам пачаў клікаць багоў; так што Міртала, кінуўшы тое, што мела ў руках, выбегла з хаты, і Дафніс, які толькі што выгнаў коз, прыбег; убачыўшы, яны закрычалі, а закрычаўшы, заплакалі.

8

Хоць жальбою кветкам не паможаш, але яны плакалі са страху перад гаспадаром; і чужы б хто, трапіўшы сюды, заплакаў, бо гэтая мясціна была збэшчаная, а ўся зямля збітая ў гразь. А тыя з кветак, што ўцалелі ад руйнавання, і далей цвілі і зіхацелі і былі ўсё яшчэ прыгожыя, нават палеглыя на зямлю. І ўсё яшчэ садзіліся на іх пчолы і няспынна гулі, як бы яны аплаквалі іх. А Ламан у роспачы ўсклікаў: «Бяда гэтым кустам ружаў! Як іх паламалі! Бяра градкам фіялак! Як іх здраталалі! Бяра гіяцынтам і нарцысам! Што за нягодны чалавек вырваў іх! Вернецца вясна, а яны не распусцяцца; будзе лета, а яны красавацца не будуць; увосень нікога яны вянком не прыбяруць. І ты ж, уладару Дыянісе, не злітаваўся над няшчаснымі кветкамі, сярод якіх ты жывеш, на якія ты глядзіш, з якіх часта я табе вянкі плёў і цешыўся імі? Як, як пакажу цяпер гэты сад гаспадару? Што ён скажа, калі гэта ўбачыць? Загадае павесіць мяне, старога чалавека, на першай хвойцы, як Марсія; а можа, і Дафніса, думаючы, нібыта яго козы гэта зрабілі».

## 9

Яшчэ гарачэйшыя слёзы пры гэтым паліліся, і не кветкі аплаквалі яны, а саміх сябе. І Хлоя аплаквала Дафніса, як бы яго ўжо меліся павесіць, і малілася, каб уладар не прыязджаў, і перажывала цяжкія дні, нібы ўжо бачыла, як лупцуюць Дафніса. І калі ўжо ноч надышла, Эўдрам прынёс вестку, што старэйшы гаспадар прыедзе праз тры дні, а яго сын будзе заўтра. Яны зноў пачалі разважаць над тым, што адбылося, і, падзяліўшыся сваімі страхамі з Эўдрамам, папрасілі ў яго рады; ён, спагадаючы Дафнісу, параіў расказаць усё маладому гаспадару і абяцаў ім сваю дапамогу пры гэтым, бо як малочны брат быў у яго ў пашане. І калі надышоў дзень, яны так і зрабілі.

## 10

Астыл прыехаў конна, і з ім яго парасіт, таксама конна. У Астыла быў першы пушок на падбародку, а Гнатан — так звалі нахлебніка — даўно ўжо галіў бараду. Ламан з Мірталаю і Дафнісам, прыпаўшы да ног маладога гаспадара, прасілі паспагадаць няшчаснаму старому і адвесці ад яго, ні ў чым не вінаватага, гнеў свайго бацькі; і Ламан тут жа расказаў яму ўсё. Паспагадаў просьбе Астыл, пайшоў у сад і, убачыўшы панішчаныя кветкі, паабяцаў ім, што сам папросіць бацьку даравацъ і зверне віну на коней: нібыта яны, прывязаныя там, разгуляўшыся, сарваліся з прывязі, адны кветкі паламалі, другія — здраталі, трэція — збілі. За гэта Ламан і Міртала пажадалі яму ўсялякага дабра, а Дафніс прынёс гасцінцы: казлянят, сыры, птушак з птушанятамі, гронкі вінаграду на лозах, яблыкі на галінках. Сярод гэтых гасцінцаў было і духмянае лесбаскае віно, з усіх мацункаў найлепшае.

## 11

Астыл пахваліў гасцінцы і пайшоў палявацъ на зайцоў, бо дзяцюк ён быў багаты, жыў заўсёды ў раскошы і прыехаў у вёску, каб зазнаць адменнай уцехі. Гнатан жа, чалавек, які ўмеў толькі есці ды піць, абы набрацца, а набраўшыся, распуснічаць, і ў якога толькі і было ўсяго што губа, чэрава ды тое, што пад чэравам, старанна раз-

гледзеў Дафніса, калі той прынёс свае гасцінцы, і, схільны ад прыроды да хлопцаў, знайшоўшы красу, якой і ў горадзе не знайсці, надумаў узяцца за Дафніса, спадзеючыся лёгка ўгаварыць гэтага казапаса.

Наважыўшыся так, ён пайшоў не з Астылам на паляванне, а туды, дзе пасвіў Дафніс, кажучы, што хоча коз паглядзець, а напраўду — Дафнісам палюбавацца. І, каб расчуліць, ён хваліў яго коз, папрасіў яго сыграць на сірынзе пастушыную песню і сказаў, што ён хутка даб'ецца для Дафніса волі, бо ўсё можа зрабіць.

12

Гнатан, убачыўшы, што прыручыў хлопца, падпільнаваў яго ўночы, калі ён гнаў з пашы коз, і, падбегшы, спярша пацалаваў, а потым папрасіў, каб той дазволіў яму ззаду тое, што козы дазваляюць сваім казлам. Доўга не мог уцяміць Дафніс і нарэшце адказаў, што ён добра ведае, як казлы скачуць на коз, але ніхто ніколі не бачыў, каб казёл ускокваў на казла, а баран замест авечкі — на барана, ні пеўні замест курэй на пеўняў, тады Гнатан, пусціўшы ў ход рукі, хацеў узяць яго гвалтам. Але Дафніс штурхнуў п'янага, які ледзь трымаўся на нагах, паваліў на зямлю і ўцёк, як алянятка, пакінуўшы там ляжаць таго, каго весці дадому пад руку мог мужчына, а не хлопчык.

Больш Дафніс увогуле з ім не вадзіўся і пасвіў сваіх коз то тут, то там, унікаў Гнатана, ахоўваючы сваю Хлою. Ды і Гнатан больш не лез да яго, ведаючы, што той не толькі прыгожы, але і дужы. Чакаў толькі зручнага моманту, каб пагаварыць пра яго с Астылам, і спадзяваўся атрымаць яго ў падарунак ад дзецюка, які любіў адорваць часта і шчодра.

13

Але тады нічога не выпадала зрабіць, бо прыехаў Дыянісафан разам з Клеарыстаю, і скрозь чуўся вялікі галас цягла, службы, мужчын, жанок. Аднак пасля ўсяго склаў доўгую любоўную прамову.

Дыянісафан хоць ужо і быў напалову сівы, але быў высокі і прыгожы і мог бы яшчэ пазмагацца з маладымі, да таго ж багаты, як мала хто, і сумленны, як ніхто. Прыехаў-

шы, ён у першы ж дзень прынёс ахвяры багам, апекунам палёў — Дэметры, Дыянісу, Пану, німфам, а ўсім, хто быў там, паставіў кратэр віна. У наступныя дні ён аглядваў Ламанаву гаспадарку. Убачыўшы палі ў барознах, гронкі на лозах, сад у цэлай красе — за кветкі Астыл узяў віну на сябе,— ён вельмі ўсцешыўся, пахваліў Ламана і паабяцаў адпусціць яго на волю. Пасля гэтага пайшоў на казіную пашу, каб паглядзець і коз, і таго, хто іх пасвіў.

## 14

Хлоя, засаромеўшыся і спалохаўшыся такога гурту людзей, уцякла ў лес, а Дафніс стаяў там, апяразаны калматаю казлінаю шкураю, з толькі што пашытаю пастуховаю торбаю цераз плячо, у руцэ адной трымаў свежы сыр, другою прытрымліваў малочных казлянятак; калі Апалон некалі, служачы Лаамеданту, пасвіў быкоў, ён быў такі самы, як тады выглядаў Дафніс. Ён нічога не казаў, а толькі, пачырванеўшы, апусціў вочы, перадаючы гасцінцы; а Ламан сказаў: «Гэта, уладару, пастух тваіх коз. Ты мне перадаў пасвіць пяцьдзесят коз і двух казлоў, а гэты выхадзіў табе сто коз і дзесяць казлоў. Бачыш, якія тлустыя, з густою воўнаю, і рогі ў іх не зламаныя. Ён прывучаў іх да музыкі; пачуўшы сірынгу, яны робяць усё, што трэба».

## 15

Клеарыста, якая была пры гэтай гаворцы, захацела ўбачыць тое, што ён казаў, і загадала Дафнісу, каб зайграў сваім козам, як гэта ён звычайна робіць, і паабяцала за ігру хітон, хламіду і сандалі. Ён пасадзіў іх, як у тэатры, стаў пад букам, выняў з торбы сірынгу і найперш злёгку дзьмухнуў: козы пасталі і паднялі галавы. Пасля ён зайграў «на пашу»: і козы пасвіліся, апусціўшы ўніз галовы; далей ён выдаў мяккія тоны: козы, сабраўшыся, паляглі. І вось зайграў пранізлівы напеў: козы, нібы да іх набліжаўся воўк, уцяклі ў лес. Праз хвіліну ён выдаў поклічны напеў: выбраўшыся з лесу, яны збегліся каля яго ног. Ніколі не ўбачыш рабоў, каб яны так слухаліся гаспадара. Усе дзіву даліся, а больш за ўсіх Клеарыста, яна паклялася аддаць тыя падарункі пастуху — прыгажуну і да таго ж музыку. Вяр-

нуўшыся ў двор, селі снедаць і Дафнісу таксама са свае яды паслалі.

Ён еў разам з Хлояй, смакуючы гарадскія стравы, і быў у добрай надзеі выпрасіць у гаспадара дазвол на шлюб.

## 16

А Гнатан, пабачыўшы праяву з козамі, толькі яшчэ больш распаліўся пажадлівасцю, уважаючы, што яго жыццё не жыццё, калі не даможацца Дафніса. Прыпільнаваўшы, калі Астыл праходжваўся ў садзе, завёў яго ў капліцу Дыяніса і пачаў цалаваць яму ногі і рукі. Калі Астыл запытаўся, навошта ён гэта робіць, і загадаў яму расказаць, пакляўшыся дапамагчы, той сказаў: «Гіне твой Гнатан, о ўладару! Ён, які дагэтуль толькі твой стол любіў; ён, які некалі кляўся, што няма нічога лепшага за старое віно, ён, хто цаніў тваіх кухараў вышэй за ўсіх мітыленскіх дзецюкоў, цяпер толькі Дафніса ўважае прыгожым. Я не адведаю ніводнай дарагой стравы, хоць бы колькі ні рыхтавалі кожнага дня мяса, ці рыбы, ці мядовых коржыкаў, ■ ахвотна зрабіўшыся казою, еў бы траву, лісце, слухаючы Дафнісаву сірынгу, пасучыся пад яго наглядам. Уратуй свайго Гнатана і адолей неадольнага Эраса. Калі ж не, то, клянуся табе маім богам, узяўшы нож і напоўніўшы ўдосталь сваё чэрава ядою, я заб'ю сябе самога перад Дафнісавымі дзвярыма: ты ніколі больш не назавеш мяне сваім Гнатонікам, як ты заўсёды меў звычку жартам называць».

## 17

Тут ён так заплакаў і зноў пачаў цалаваць ногі дзецюку, які быў і велікадушны і не быў ужо недасведчаны ў муках кахання, а таму і не мог адмовіць і паабяцаў у свайго бацькі выпрасіць Дафніса і ўзяць яго ў горад слугою сабе, а каханкам Гнатану. І каб вярнуць вясёлы настрой таму, ён, пасміхаючыся, спытаўся ў яго, ці не саромеецца ён кахаць Ламанавага сына і так хацець легчы з хлопцам, што пасе козы; і пры гэтым зрабіў міну, што яго гідзіць казліны смурод. Але Гнатан, які ў застоллях распуснікаў вывучыўся ўсялякаму любоўнаму пустаслоўю, не без трапнасці сказаў пра сябе і пра Дафніса: «Ніводнага

закаханага, мой уладару, гэта не абыходзіць: у якой бы постаці ён ні знайшоў красу, ён у яе палоне. Праз гэта не адзін кахае расліну, раку, дзікага звера. А, між іншым, хто не паспагадае закаханаму, які мае баяцца каханага? Я люблю цела раба, але красу — вольнага. Ці бачыш, як гіяцынты, яго кудзеры, з-пад броваў вочы бліпчаць, як дарагі камень у залатой аправе? Твар яго поўніцца румянцам, рот — зубамі бялюткімі, як слановая косць: які закаханы не хацеў бы сарваць адтуль чыстыя пацалункі? Калі я закахаўся ў пастуха, то гэтым пераймаю багоў. Валапасам быў Анхіс, а яго мела Афрадыта; козы пасвіў Бранх, а яго любіў Апалон; аўчаром быў Ганімед, а яго выкраў Дзеўс. Не грэбуйма хлопцам, якога і козы, як закаханыя, слухаюцца, што мы і бачым; падзякуйма Дзеўсавым арлам, што даюць аставацца яшчэ на зямлі такой красе».

18

Весела пасмяяўся Астыл, асабліва з гэтых слоў, і, сказаўшы, што Эрас з кожнага робіць вялікага сафіста, стаў чакаць зручнага моманту, каб пагаварыць з бацькам пра Дафніса.

Усю гэтую размову ўпотай чуў Эўдрам, які, любячы Дафніса як добрага дзецюка, мучыўся, што такая краса будзе згнюшана Гнатанам, і адразу ўсё расказаў Дафнісу і Ламану. Дафніс, уражаны, вырашыў або адважыцца ўцякаць разам з Хлояй, або памерці, узяўшы і яе сваёй хаўрусніцаю. А Ламан, выклікаўшы Мірталу з хаты, сказаў: «Мы прапалі, жонка. Якраз час раскрыць нашу таямніцу. Прапалі нашы козы і ўсё астатняе; але, клянуся Панам і німфамі, нават калі б меў астацца, як кажуць, валом у стайні, не змаўчу пра Дафнісаву долю, а як знайшоў яго падкінутага, раскажу, як яго гадавалі, адкрыю, што я знайшоў пры ім, пакажу. Хай ведае гэты нягоднік Гнатан, хто такі ён і каго адважваецца кахаць. Дастань мне толькі гэтыя прыкметныя знакі — каб былі пад рукою».

19

Умовіўшыся так, яны вярнуліся ў хату; а Астыл, зайшоўшы да бацькі, калі той быў вольны, папрасіў дазволу ўзяць з сабою Дафніса ў горад, бо ён прыгожы і зашкода

яго для работы ў вёсцы, а Гнатан хутка мог бы навучыць яго гарадскім манерам. Бацька ахвотна згаджаецца і пасылае па Ламана і Мірталу, каб абвясціць ім добрую навіну, што Дафніс будзе надалей замест козам і казлам слугаваць Астылу; паабяцаў замест яго даць двух казапасаў. І тут Ламан, калі ўжо збегліся ўсе рабы, усцешаныя, што будуць мець такога прыгожага таварыша, папрасіў слова і пачаў казаць: «Выслухай, о ўладару, ад старога чалавека праўдзівае слова: клянуся Панам і німфамі, што ані не схлушу. Я Дафнісу не бацька, і Міртала не мела шчасця быць яго мацераю. Іншыя бацькі падкінулі дзіцятка, відаць, маючы ўжо даволі большых дзяцей; я ж знайшоў пакінутага і гадаванага маёю казою; калі яна памерла, я пахаваў яе ў садзе, бо любіў яе за мацярынскі клопат. Знайшоў пры ім і прыкладзеныя прыкметныя знакі; прызнаюся, уладару, што іх хаваю; яны сведкі лепшай долі, чым наша. Каб ён быў рабом Астылу, я не супроць, прыгожы слуга прыгожага і добрага ўладара. Але каб з яго згнюшаўся п'яны Гнатан, не магу сцярпець; ён стараецца адвесці яго ў Мітылену, каб зрабіць жанчынаю».

20

Ламан, сказаўшы гэта, замоўк і заліўся слязамі. Калі ж Гнатан, нахабна паводзячы сябе, пачаў пагражаць бойкаю, Дыянісафан, уражаны аповядам, загадаў Гнатану замоўкнуць, кінуўшы на яго суровы нахмураны позірк, і пачаў зноў выпытваць у Ламана, загадаўшы казаць праўду і не выдумваць ніякіх баек, абы затрымаць пры сабе сына. Але Ламан стаяў на сваім, кляўся ўсімі багамі і аддаваў сябе на ўсялякую муку, калі ён хлусіць; і Дыянісафан з Клеарыстаю, якая сядзела побач, пачаў узважваць яго словы: «Навошта Ламану хлусіць, калі ён мог за аднаго двух казапасаў атрымаць? Ды і як бы селянін выдумаў такое? І хіба адразу не было відаць, што ад такога старога і ад непагляднай жанчыны такі прыгожы сын не мог нарадзіцца?»

21

І надумаўся ён больш не гадаць, а зараз жа паглядзець прыкметныя знакі, ці сапраўды яны паказваюць на больш слаўную долю. Міртала пайшла, каб іх прынесці: яны збера-

галіся ў старой пастуховай торбе. Калі яна ўнясла іх, Дыянісафан першы паглядзеў і, убачыўшы пурпуровую кашульку, золатакаваную засцежку і кінжальчык з тронкам са слановай косці, голасна ўскрыкнуў: «О ўладару Дзеўсе!» І кліча жонку, каб тая паглядзела. Калі яна зірнула, таксама голасна ўскрыкнула: «Любыя мойры! Ці ж не пакінулі мы гэтага з нашым дзіцем і ці не ў гэтыя мясціны казалі мы Сафрасіні аднесці яго? Гэта ж не якія-небудзь іншыя, а якраз тыя. Любы муж, наша гэтае дзіця, твой сын Дафніс, і бацькоўскіх коз ён пасвіў!»

22

Пакуль яна яшчэ гаварыла, а Дыянісафан цалаваў прыкметныя знакі і плакаў з празмернай радасці, Астыл, уразумеўшы, што Дафніс яго брат, скінуў плашч і пусціўся бегчы ў сад, каб першым пацалаваць Дафніса. А Дафніс, убачыўшы, што да яго бяжыць Астыл, а за ім цэлая грамада, гукаючы: «Дафнісе!», падумаў, што ён хоча яго злавіць, кінуў сваю торбу і сірынгу і панёсся да берага, каб кінуцца ў мора з высокай скалы. І было б амаль нечуванае — зноў страціць Дафніса, ледзь толькі яго адшукаўшы, калі б Астыл не зразумеў гэтага і зноў не закрычаў: «Стой, Дафнісе, нічога не бойся: брат я табе, а бацькі — тыя, што да гэтага дня былі ўладарамі тваімі. Ламан толькі што нам пра казу расказаў і прыкметныя знакі паказаў; абярніся і паглядзі, як усе радуюцца і смяюцца. Але мяне першага пацалуй; клянуся ж німфамі, што не хлушу».

23

Толькі пасля гэтай клятвы прыпыніўся Дафніс і пачакаў, пакуль падбег Астыл, і тады пацалаваў яго. А калі цалаваў, надбегла рэшта слуг і служанак, сам бацька, а з ім і маці. Усе яго абдымалі, цалавалі, радуючыся і плачучы. Але ён бацьку і маці перш чым іншых ласкава прывітаў: як бы ён ужо даўно іх знаў, прыціскаў да сваіх грудзей і не хацеў выпускаць з абдымкаў: так хутка дае веры прырода. Нават Хлою на хвілю забыў. І, вярнуўшыся дадому, надзеў дарагія шаты, прысеў пры родным бацьку і слухаў яго аповяд:

## 24

«Ажаніўся я, дзеці, зусім маладым і ў хуткім часе зрабіўся, як мне здавалася, шчаслівым бацькам, бо нарадзіўся ў мяне першым сын, другою была дачка і трэцім Астыл. Мне здавалася, што сям'я даволі вялікая, і калі нарэшце яшчэ гэты сын нарадзіўся, я выкінуў яго, а гэтыя рэчы прыдаў яму не як прыкметныя знакі, а як пахавальныя ахвяры. Але доля судзіла інакш. Большы мой сын і дачка загінулі ад аднае хваробы ў адзін і той самы дзень; цябе зберагла мне вышэйшая воля багоў, каб быць яшчэ адною апораю ў старасці. Не папракай мяне, што я ўчыніў, бо не з добрае волі рашыўся на гэта, і ты, Астыле, не журыся, што цяпер толькі частку ты замест усяго багацця дастанеш, але для разумных людзей няма лепшага за брата скарбу, любіце адзін аднаго, а што да багацця,— з царамі пазмагаецеся. Шмат я вам зямлі пакіну, шмат спраўных слуг, золата, серабра і ўсялякага дабра, што бывае ў багацеяў. Толькі асобна Дафнісу даю гэты маёнтак разам з Ламанам і Мірталаю ды козамі, якіх ён пасвіў».

## 25

Калі ён яшчэ так казаў, Дафніс ускочыў і прамовіў: «Акурат у час ты мне напомніў, бацька. Пайду паганю маіх коз на вадапой. Цяпер пэўна чакаюць яны, сасмяглыя, маёй сірынгі, а я тут сяджу». Усе ад душы засмяяліся, што ён, стаўшы ўладаром, яшчэ хоча быць казапасам. І паслалі некага іншага падбаць пра коз, самі ж, прынёсшы ахвяру Дзеўсу-збаўцу, наладзілі ўсім банкет. Толькі Гнатана не было на банкеце, поўны страху, ён цалюткія дзень і ноч хаваўся ў капліцы Дыяніса як чалавек, што просіць літасці.

Хутка дайшла да ўсіх вестка, што Дыянісафан знайшоў сына і што Дафніс-казапас — уладальнік гэтых мясцін, і з самага ранку з усіх бакоў пачалі збягацца людзі, каб разам парадавацца з дзецюком ды прынесці дарункі бацьку; сярод іх першы быў Дрыяс, Хлоін апякун.

## 26

Дыянісафан папрасіў усіх іх астацца, каб яны, выказаўшы радасць, узялі ўдзел у свяце з гэтай нагоды. Было

падрыхтавана шмат віна, горы пшанічнага хлеба, балотнай птушкі, малочных парасят, рознага печыва на мёдзе; зарэзана шмат ахвярнай жывёлы мясцовым багам.

Тут і Дафніс сабраў увесь свой пастухоўскі скарб і падзяліў у ахвяру багам. Дыянісу ахвяраваў пастуховую торбу і шкуру, Пану — сірынгу і папярочную флейту; пастуховы кій — німфам, і яшчэ даёнкі, што сам змайстраваў. Але звычнае да таго мілейшае, чым неспадзяванае шчасце, што Дафніс аплакваў кожную з гэтых рэчаў, з якою развітваўся; і не прысвяціў даёнкі, перш чым не падаіў яшчэ раз коз, і шкуры — перш чым не адзеў яе, і сірынгі — перш чым не пайграў на ёй; і кожную рэч асобна ён пацалаваў і пагаварыў з козамі і кожнага казла на імя назваў; і напіўся з крыніцы, як гэта не раз рабіў разам з Хлояй. Але ў каханні сваім яшчэ не прызнаўся, чакаючы лепшага часу.

## 27

Калі Дафніс быў заняты ахвярамі, вось што адбылося з Хлояй. Яна сядзела, плачучы, сваю чараду пасучы, і натуральна, як водзіцца, казала: «Забыў мяне Дафніс. Ён марыць пра багатых нарачоных. Навошта я загадала яму паклясціся замест німфаў козамі? Ён пакінуў іх гэтак жа, як і Хлою. Нават калі ён прыносіў ахвяры німфам і Пану, не захацеў убачыць Хлоі. Відаць, знайшоў у свае мацеры прыгажэйшых служанак, чым я. Будзь шчаслівы! Але я жыць не буду».

## 28

Калі яна так казала, так раздумвала, валапас Лампіс з кучкаю сялян напаў на яе і выкраў, упэўнены, што Дафніс ужо не ажэніцца з ёю, а Дрыяс будзе рады яму. Яны цягнулі яе, а яна жаласна крычала; хтось, хто бачыў гэта, даў знаць Напэ, а тая Дрыясу, а Дрыяс Дафнісу. Той быў сам не свой, не адважваючыся сказаць пра гэта бацьку і не могучы вынесці болю, пабег у сад і там енчыў і казаў: «О бяда, што мяне пазналі! Як добра было б мне пасвіць чараду! Які шчаслівейшы я быў рабом! Тады бачыў я Хлою, тады...[1], а цяпер Лампіс выкраў яе і ўцякае, а надыдзе ноч — ён з ёю спаць будзе. Я ж п'ю і раскашуюся і дарэмна кляўся Панам, козамі і німфамі».

[1] Тэкст у рукапісе папсаваны.

## 29

Гэтыя Дафнісавы словы пачуў Гнатан, які хаваўся ў садзе; і ён, зразумеўшы, што гэта найлепшая часіна памірыцца з ім, узяў з сабою некалькі маладых хлопцаў Астыла і кінуўся да Дрыяса. Ён загадаў яму паказаць дарогу да Лампісавага двара і бягом ірвануўся туды; ён заспеў яго якраз тады, калі той цягнуў Хлою ў свой дом, вырваў яе з яго рук і добра аддубасіў яго памагатых — сялян. Ён хацеў звязаць яшчэ Лампіса і адвезці яго як палоннага, але той паспеў раней уцячы. Зрабіўшы гэта, Гнатан з надыходам ночы вярнуўся. Дыянісафан ужо спаў, а Дафніс без сну ўсё яшчэ плакаў у садзе. Ён прыводзіць да яго Хлою, аддае яе і расказвае ўсё; і просіць яго не помніць ліха, і прыняць яго як карыснага раба, і не пазбаўляць стала, без якога ён памрэ з голаду. Дафніс, убачыўшы Хлою і трымаючы яе ў сваіх руках, прымірыўся з ім як з новым сваім дабрачынцам, а Хлою папрасіў дараваць яму, што ён так доўга не парупіўся пра яе.

## 30

Параіўшыся між сабою, яны вырашылі пра вяселле пакуль што ўтаіць, а Хлою схаваць і адкрыць сваё каханне толькі мацеры. Але Дрыяс не згадзіўся, ён настойваў, каб сказаць бацьку, і абацаў, што яго ўгаворыць.

І як настаў дзень, ён, узяўшы ў пастуховую торбу прыкметныя знакі, пайшоў да Дыянісафана і Клеарысты, якія сядзелі ў садзе,— каля іх былі Астыл і Дафніс — і калі ўсе замоўклі, ён пачаў казаць: «Такая самая неабходнасць, што і Ламана, вымушае мяне гаварыць пра тое, што дасюль было таямніцаю. Гэтую Хлою не я на свет пусціў, не я карміў, а іншыя яе нарадзілі, і калі яна ў пячоры німфаў ляжала, яе авечка карміла. Гэта я сам убачыў, а ўбачыўшы, здзівіўся, а здзівіўшыся, выгадаваў. Пра гэта сведчыць і яе краса, бо яна ані да нас не падобная; пра гэта сведчаць і прыкметныя знакі, занадта дарагія для пастухоў. Паглядзіце, крэўных дзяўчыны знайдзіце і тады ўбачыце, ці яна годная Дафніса».

## 31

І Дрыяс не сказаў гэтыя словы на вецер, і Дыянісафан не без увагі іх выслухаў; а, паглядзеўшы на Дафніса і

ўбачыўшы, як той збялеў і крадком плакаў, адразу ж распазнаў: гэта каханне; і баючыся больш за ўласнага сына, чым за чужую дзяўчыну, з усёй стараннасцю пачаў перабіраць Дрыясавы словы. Калі ж убачыў прынесеныя прыкметныя знакі: золатам гафтаваныя чаравічкі, бранзалеты, галаўную павязку,— ён, паклікаўшы Хлою, казаў ёй не баяцца, бо мужа яна ўжо мае, а неўзабаве адшукаюцца бацька і маці. І Клеарыста ўзяла яе да сябе і прыбрала яе ўжо як сынаву жонку, а Дыянісафан, адклікаўшы Дафніса аднаго, спытаўся, ці Хлоя яшчэ дзяўчына; і калі Дафніс пакляўся, што між імі нічога больш не было, апроч пацалункаў і клятваў у вернасці, Дыянісафан усцешыўся гэтай змове і запрасіў абаіх да стала.

## 32

Цяпер можна было пабачыць, якою бывае краса, калі да яе дадаць аздобы. Бо калі Хлоя была апранута, а валасы прычэсаны, [redacted] твар умыты, яна ўсім здалася да таго прыгожаю, што і Дафніс яе ледзь пазнаў. Цяпер кожны і без прыкметных знакаў пакляўся б, што бацькам такой дзяўчыны не мог быць Дрыяс. А ён таксама тут быў і разам з Напэ браў удзел у банкеце, лежачы на асобным ложы за адным сталом з Ламанам і Мірталаю.

У наступныя дні зноў прыносілі жывёлу ў ахвяру, ставілі кратэры з віном; і Хлоя таксама прысвяціла багам свае скарбы: сірынгу, пастухову торбу, шкуру, даёнкі. Узліла віна крыніцы ў пячоры, бо пры ёй гадавалася і часта ў ёй купалася. Прыбрала таксама вянкамі магілу авечкі, што паказаў Дрыяс, і яшчэ раз сыграла на сірынзе сваім авечкам, а сыграўшы, памалілася багіням, каб знайсці ёй тых, што яе падкінулі, і каб яны былі годныя яе шлюбу з Дафнісам.

## 33

А калі досыць насвяткаваліся на вёсцы, уздумалі вярнуцца ў горад, расшукаць Хлоіных бацькоў і не адкладаць надалей вяселля. На золку, падрыхтаваўшыся ў дарогу, яны далі Дрыясу яшчэ тры тысячы драхмаў, а Ламану палавіну ўраджаю з палёў і вінаграднікаў, коз разам з іх казапасамі, чатыры пары валоў, адзення на зіму і волю яго

жонцы. Пасля гэтага вырушылі конна і вазамі ў Мітылену, з вялікаю пышнасцю.

Гарадчукі іх тады не заўважылі, бо прыехалі яны ўночы; але назаўтра каля іх дзвярэй сабралася грамада мужчын і жанчын. Мужчыны выказвалі радасць Дыянісафану, што знайшоўся сын, і яшчэ больш, калі пабачылі красу Дафніса; жанкі ж разам з Клеарыстаю радаваліся, што з сынам заадно і сынавую яна прывязла. Яны дзіву даліся з Хлоі, з яе непараўнанай красы. Увесь горад усхадзіўся з-за хлопца і дзяўчыны, хвалілі ўжо гэты шлюб і жадалі, каб яе род знайшоўся годным яе красы; і шмат вельмі багатых жанок маліла багоў, каб быць прызнанымі за маці такой прыгожай дзяўчыны.

34

А Дыянісафану, які пасля доўгіх роздумаў моцна заснуў, прысніўся такі сон. Здаецца, німфы просяць Эраса, каб ён нарэшце згадзіўся на гэты шлюб; ён аслабіў маленькі лук, паклаў яго разам з сагайдаком і загадаў Дыянісафану наладзіць банкет для ўсіх найвяльможных мітыленцаў і, калі ён напоўніць апошні кратэр, паказаць тады кожнаму Хлоіны прыкметныя знакі; а пасля праспяваць вясельны гімн.

Пабачыўшы і пачуўшы гэта ў сне, Дыянісафан устаў на золку і распарадзіўся падрыхтаваць раскошны банкет з усяго, што дае зямля і мора, што ёсць у азёрах і рэках; і запрашае ўсіх найвяльможных мітыленцаў на баль. Калі ўжо надышла ноч і быў напоўнены кратэр, з якога ўзліваюць Гермесу, адзін са слуг унёс на сярэбраным прыборы прыкметныя знакі і, абыходзячы па чарзе направа, усім іх паказваў.

35

Ніхто не апазнаваў іх; а Мегакл, які з-за старасці ляжаў на вышэйшым месцы за сталом, ледзь глянуў і моцна, з яшчэ маладою сілаю ў голасе, усклікнуў: «Што гэта бачу? Што з табою сталася, дочухна? Ці жывая ты, ці, можа, які пастух толькі гэта знайшоў і падняў? Прашу, Дыянісафане, скажы мне: адкуль маеш прыкметныя знакі майго дзіцяці? Адшукаўшы свайго Дафніса, не адмоў знайсці і мне».

Але Дыянісафан папрасіў яго спачатку расказаць, як пакінулі Хлою, і Мегакл, не аслабляючы сілы голасу, расказаў: «Да нядаўняга быў я бедны, бо ўсё, што меў, патраціў на харэгіі і трыерархіі. Якраз тады нарадзілася ў мяне дачка. Не хочучы гадаваць яе ў беднасці, я ўпрыгожыў яе гэтымі прыкметнымі знакамі і пакінуў, бо ведаў, што многія праз такі спосаб хочуць зрабіцца бацькамі. Вось і пакінуў дзіця ў пячоры німфаў, даручыўшы яго багіням. І да мяне з той пары штодня плыло багацце, але я ўжо нашчадка не меў. Бо не пашчасціла мне зрабіцца бацькам хоць бы дачкі другой. А багі, як бы смеючыся з мяне, спасылаюць уночы сны, паведамляючы, што авечка зробіць мяне бацькам».

36

Яшчэ мацней, чым Мегакл, ускрыкнуў Дыянісафан і прывёў Хлою, вельмі прыгожа ўбраную, і сказаў: «Вось гэтае дзіця ты пакінуў. Гэтую дзяўчыну з волі багоў выкарміла табе авечка, як каза мне Дафніса. Вазьмі ж гэтыя прыкметныя знакі і дачку; а ўзяўшы, аддай яе Дафнісу за жонку. Абаіх пакінулі, абаіх знайшлі, абаімі апекаваліся Пан, німфы і Эрас».

Мегакл пахваліў яго словы, паслаў па сваю жонку Раду, і Хлою прытуліў да грудзей. І асталіся яны там начаваць: Дафніс пакляўся, што больш нікому не аддасць Хлою, нават роднаму бацьку.

37

Калі надышоў дзень, яны ўмовіліся назад у вёску разам вяртацца: Дафніс і Хлоя прасілі аб гэтым, бо не маглі вынесці жыцця ў горадзе. Ды і бацькам было даспадобы зрабіць ім вяселле паводле пастухоўскага звычаю. Прыйшоўшы да Ламана, яны прывялі Дрыяса да Мегакла, пазнаёмілі Раду з Напэ і пачалі рыхтавацца да шыкоўнага святкавання. Бацька перад німфамі заручыў Хлою з Дафнісам і разам з многімі іншымі ахвяраваннямі павесіў і прыкметныя знакі, а Дрыясу дадаў, чаго яму яшчэ не ставала да дзесяці тысяч драхмаў.

38

Стаяў цудоўны дзень, і Дыянісафан загадаў тут жа перад пячораю падрыхтаваць ложа з зялёнага лісця і, запрасіўшы ўсіх людзей з вёскі, раскошна пачаставаць. Тут былі Ламан і Міртала, Дрыяс і Напэ, Дорканавы родзічы, Філет са сваімі дзецьмі, Хроміс і Лікэніён; не абышлося і без Лампіса, якому даравалі. Усё было так, як водзіцца ў гэтакіх гасцях, па-вясковаму: адзін спяваў жніўныя песні, другі сыпаў жартамі, як гэта бывае пры выцісканні сусла. Філет іграў на сірынзе, Ламліс на флейце, Дрыяс і Ламан танцавалі, Хлоя і Дафніс цалаваліся; а поблізу пасвіліся козы, як бы і яны разам святкавалі.

Гасцям з горада гэта не вельмі спадабалася; а Дафніс падклікаў, называючы імя то адной, то другой казы, даваў ім галінак з зялёным лісцем і, схапіўшы за рогі, цалаваў.

39

І гэтак не толькі той дзень, але і большую частку жыцця правялі яны па-пастухоўску, шанавалі багоў — німфаў, Пана, Эраса, нажылі вялікія чароды авечак і коз і ўважалі за найлепшую яду плады і малако. А калі нарадзіўся ў іх сын, яны далі выкарміць казе, а дачушцы, якая нарадзілася другою, дазволілі ссаць вымя авечкі; і сына назвалі Філапеменам, а дачку Агелаю. Так яны і пражылі пастухамі аж да самае старасці. І пячоры аздобілі, паставілі там карціны і ўзвялі ахвярнік Эрасу-Пастуху; і Пану яны замест яго хвойкі зладзілі пад жыллё капліцу і назвалі яе капліцаю Пана-Ваяўніка.

40

Але ўсё гэта назвалі і зрабілі яны пазней; а тады з надыходам начы ўсе правялі іх да шлюбнага пакоя, адны на сірынгах, другія на флейтах іграючы, трэція ўзняўшы ўгару вялікія паходні. А калі яны былі перад дзвярыма, завялі рэзкім голасам, нібы зямлю трохзубцамі дралі, а не вясельную песню спявалі. А Дафніс і Хлоя ляглі голымі, абнялі адно аднаго і цалаваліся, правёўшы ноч без сну, як совы; і Дафніс рабіў тое, што навучыла яго Лікэніён, а Хлоя толькі цяпер даведалася, што ўсё, што рабілася ў лесе, было толькі пастушынымі гульнямі.

# КАМЕНТАРЫІ



Стар. 16. *Лесбас* — вялікі востраў у Эгейскім моры каля заходняга ўзбярэжжа Малой Азіі. Дзеянне гэтага рамана аб каханні, на думку даследчыкаў, невыпадкова разгортваецца на гэтым востраве, які здаўна славіўся цудоўным кліматам, урадлівымі землямі, а таксама як асяродак старажытнагрэцкай лірыкі кахання: тут нарадзілася шмат паэтаў, у тым ліку славутая Сафо (VII — VI ст. да н. э.).

*Німфы* — Дзеўсавы дочкі, багіні, якія ўвасаблялі розныя сілы прыроды; заступніцы і апякункі лясоў (дрыяды), палёў (ліманіяды), далін (напэі), мораў (нерэіды), рэк (наяды), гор (арэады) і г. д. Антычнае мастацтва паказвала іх у выглядзе прыгожых дзяўчат, голых ці напаўадзетых.

*...змог вытлумачыць абраз...* — У шмат якіх гарадах старажытнай Грэцыі на ўтрыманні мясцовых улад была афіцыйная пасада праваднікa, які паказваў і тлумачыў выдатныя помнікі гэтай мясцовасці.

*Эрас* — сын Афрадыты, бог кахання. Мастакі паказвалі яго ў выглядзе крылатага хлопчыка з лукамі і стрэламі, якімі ён раніць сэрца. Імя гэтае азначае «каханне». Калі ўлічыць, што ў антычныя часы ўласныя імёны нічым не адрозніваліся ад агульных назваў, то амаль заўсёды гэтае слова можна разумець дваяка: у агульным значэнні і як імя бога.

*Пан* — сын Гермеса і Пенелопы, бог лясоў і пашаў, апякун паляўнічых і пастухоў; меў казліныя рогі, вушы і ногі. Ён вынайшаў дудку. Час паўдзённай сонечнай спёкі лічыўся «гадзінаю Пана». І калі яго трывожылі моцным крыкам і спевамі, Пан палохаў людзей і звяроў сваімі гукамі, якія наводзілі «панічны жах».

*...хворага вылечыць...* — Старажытнагрэцкая медыцына лічыла, што ў хворага праз успрыманне прыгожых формаў і чытанне прыемных (у тым ліку эратычных) твораў абуджаюцца жыццёвыя сілы.

Стар. 17. *Мітылена* (цяперашняя назва Мітыліні) — галоўны горад на ўсходнім узбярэжжы вострава Лесбаса, у часы Рымскай імперыі меў важнае значэнне.

*...прыблізна за стадыяў дзвесце...*— гэта значыць каля 3,8 кіламетра (стадый — мера даўжыні, прыкладна роўная 192 м).

Стар. 18. *Дафніс* — паводле позняй грэцкай міфалогіі — сын Гермеса і німфы; абагоўлены пасля сваё смерці; апякун сіцылійскіх пастухоў, заснавальнік старажытнагрэцкай пастушынай ідылічнай паэзіі.

*...ахвярныя дары даўнейшых пастухоў.*— Пакідаючы сваё пастухоўства, казапасы, аўчары, валапасы прысвячалі німфам і Пану свае даёнкі, пастуховыя кіі, торбы, сірынгі. У ахвяру багам клалі таксама і рэчы памерлых пастухоў.

Стар. 19. *Хлоя* — у антычнай міфалогіі эпітэт багіні пладароднай зямлі Дэметры. Пастушыным імя лічылася, відаць, таму, што па-грэцку «хлоэ» значыць «маладая зяляніна, зялёныя пасынкі, маладыя атожылкі».

Стар. 20. *...яго імя было ім невядомае...*— сведчанне, што гэта былі простыя, не вельмі адукаваныя людзі.

Стар. 23. *Вакханкі* — удзельніцы містэрый бога віна і весялосці Дыяніса-Вакха. Культ Дыяніса быў звязаны з п'янымі гульбішчамі (вакханаліямі) і экстатычнымі оргіямі. У мастацтве вакханак паказвалі паўраздзетымі, з накінутаю на плечы ці на паясніцу звярынаю шкураю з тырсам (жазлом), увітым вінаградам, у руках.

Стар. 24. *...а ён казапас...*— Свойская жывёла падзялялася на тры групы, адсюль і адпаведны чын пастухоўства. Першае месца займалі тыя, што пасвілі кароў і быкоў — валапасы, другое — тыя, што пасвілі авечак, трэцяе — казапасы.

*Дзеўс* — вярхоўнае боства старажытных грэкаў; цар багоў і людзей, бог неба, грому і маланкі. Быў сынам тытана Кронаса, які з'ядаў сваіх дзяцей. Паводле міфа, Дзеўсава маці Рэя ўратавала сына, схаваўшы яго на востраве Крыт, на гары Ідзе,— там німфы выкармілі яго малаком казы Алматэі.

*Безбароды я, але такі і Дыяніс...*— Антычнае мастацтва паказвала Дыяніса звычайна ў выглядзе безбародага, жанчынападобнага дзецюка.

*Сатыры* — лясныя казланогія боствы, з вострымі вушамі і конскімі хвастамі. Вясёлыя, памаўзлівыя, яны суправаджалі Дыяніса.

Стар. 28. *...яны кідалі адно ў аднаго яблыкі...*— яблык быў сімвалам кахання. Кідаць яблык на грудзі — значыла прызнавацца ў каханні.

Стар. 29. *...спявала пра Пана і Пітыс...*— Пан закахаўся ў німфу Пітыс. Але суровы Барэй, бог паўночнага ветру, бачачы, што дзяўчына аддае перавагу Пану, скінуў яе са скалы. Яна памерла, але з яе цела вырасла першая хвойка — дрэва, прысвечанае Пану («пітыс» — па-грэцку і значыць «хвойка»).

*Тырыйскія піраты* — марскія разбойнікі з горада Тыра ў Фінікіі; яшчэ з часоў Гамеравай «Адысеі» наводзілі жах на мараходаў у Эгейскім моры.

*...на лёгкім карыйскім судне...*— Жыхары Карыі — прыбярэжнай часткі на поўдні Малой Азіі — славіліся карабельным будаўніцтвам.

*...каб іх за варвараў не палічылі...*— Варварамі грэкі называлі ўсіх

негрэкаў, чужаземцаў, што не ўмеюць гаварыць па-грэцку. У іх гэта слова не мела адмоўнага значэння, як у наш час.

*...дзецюка, які здаўся ім больш вартаю здабычаю...*— Піраты былі адначасова і гандлярамі рабоў.

Стар. 30. Лускаватыя паўпанцыры — падпанцыры з металічнай лускі.

Накаленнікі — часцей за ўсё металічныя, закрывалі пярэдні бок нагі.

Стар. 31. *...многія мясціны на моры, якія маюць назву «валовага броду».*— Вядомымі «Басфорамі» («валовымі брадамі») былі, напрыклад, пралівы між Чорным морам і Мармуровым і між Чорным і Азоўскім.

*...Хлоя купае Дафніса...*— Удзельнікі пахавання абавязкова пасля мыліся, каб ачысціцца ад дакранання да нябожчыка.

Стар. 32. *Націсь* — прылада для выціскання соку, звычайна каменная (або драўляная) з адтокам. Некалькі чалавек, трымаючыся за адпаведны шост або прыробленыя да яго петлі ці кольцы пад музыку і спевы — каб спарней працавалася — тапталі нагамі прынесены ў кашах спелы вінаград. Сок пасля пералівалі, як апісваецца тут у Лонга, у драўляныя бочкі, якія ўкопвалі ў зямлю (апроч бочак ужывалі і вялікія гліняныя збаны або мяхі). Бочкі в сярэдзіны і звонку былі пакрытыя смалою. Прастаяўшы з восені да вясны, пры частым памешванні, ачышчэнні ад шумавіння, віно, як усякае натуральнае, мела прыкладна 13 градусаў. П'ючы, грэкі яго разводзілі вадою ў прапорцыі дзве часткі віна на тры часткі вады, але часам і не прытрымліваліся гэтага ў залежнасці ад гатунку віна і трываласці бяседнікаў. Рабам прызначалася віно паўторна выціснутае — з вінаградных жамерынаў.

У антычныя часы віно шырока ўжывалася як пітво для лепшай страўнасці, а таксама ў культавых і лячэбных мэтах.

Стар. 33. *...вылівалі ў ахвяру малака...*— каб улесціць багоў, грэкі лічылі, што павінны дзяліцца з імі часткаю свайго набытку, а таму рабілі ахвяраванні багам і ўзліванні — з віна, ці малака, ці вады з малаком, ці алею.

Пры кожным банкеце напачатку ў гонар бога ўзлівалі неразведзенага віна. Пасля з кожнага кубка ўзлівалася таксама некалькі кропляў у гонар таго ці іншага бога. Рабілі ўзліванне таксама пры адыходзе, звычайна ў гонар Гермеса, бога дарог,— нешта на ўзор беларускага развітальнага тоста — «на рукавіцы».

*Філет* — ад грэцкага слова «філео» — «люблю, кахаю».

Стар. 34. *...ні лебедзь, калі ён стары, як я...*— Старажытныя грэкі лічылі, што лебедзь пяе адзін раз у жыцці: прадчуваючы смерць, ён узнімаецца ўгору і пяе найпрыгажэйшую з песень. Адсюль і выраз «лебядзіная песня» — апошні найбольш значны твор.

*Кронас* — паводле старажытнагрэцкай міфалогіі, сын Урана (Неба) і Геі (Зямлі), які, скінуўшы бацьку, запанаваў над светам; бацька і папярэднік Дзеўса (гл. заўвагу да стар. 24).

*Амарыліс* — у перакладзе значыць «чырвоная лілея».

Стар. 35. *Эхо* — у старажытнагрэцкай міфалогіі чорная німфа, увасабленне рэха, што чуваць у гарах і цяснінах.

Паводле аднае версіі, самааддана і без узаемнасці закахалася

ў Нарцыса, сына рачнога бога, уся высахла і зрабілася нявіднаю, ад яе астаўся адзін голас.

Паводле другое версіі, раўнівая Гера, расшукваючы сярод німфаў свайго памаўзлівага мужа, была затрымана доўгімі размовамі Эхо і, раззлаваўшыся, жорстка пакарала яе за гэта — тая перастала гаварыць і магла толькі паўтараць канчаткі сказаных у яе прысутнасці слоў. Яшчэ адну версію міфа пра Эхо гл. кн. III, раздзел 23.

Стар. 37. *Метымнейцы* — жыхары Метымны, найбольшага пасля Мітылены горада на востраве Лесбасе.

Стар. 44. *...карабель жа ваяводы вёў дэльфін...*— У старажытных грэкаў былі пашыраны павер'і пра дэльфінаў як разумных істот, што спагадаюць людзям на моры, засцерагаюць іх перад бураю, паказваюць ім дарогу і г. д.

Стар. 45. *...зрабіўшы з зялёнага лісця ложа...*— Старажытныя грэкі банкетавалі не седзячы, а лежачы на баку.

Стар. 46. *...прапяяў яму адзін сіцылійскі казапас...* — Згадка пра сіцылійскага пастуха невыпадковая: старажытнагрэцкая ідылічная паэзія якраз і ўзнікла ў Сіцыліі.

Стар. 51. *...ні нават скіфскі снег...* — Землі на поўнач ад Чорнага мора, якія насялялі скіфы, у антычнай літаратуры служылі за прыклад марозных і снежных краёў.

*...злавесныя птушкі...*— старажытны грэк жыў увесь час сярод вешчых знакаў. Конь захроп па дарозе ў горад, скрыпнуў адметна воз ці мацней падзьмуў вецер і г. д.— усё нешта наперад казала яму пра тое, што мела адбыцца.

Было больш за дзесятак розных відаў варажбы: алектрыямантыя (як паводзяць куры пры ядзе), іхтыямантыя (як плаваюць у вадзе рыбы), пірамантыя (як гарыць агонь), гідрамантыя (як цячэ вада), кледанамантыя (якія міжвольныя рухі ў чалавека, у якім вуху зазвінела, як ён чхнуў), хірамантыя і г. д. Сярод іх ці не першае месца займала арнітамантыя — варажба па палёце птушак.

Ужо з'яўленне тых ці іншых птушак было для старажытнага грэка добрым або ліхім знакам, бо птушкі, асабліва драпежныя, неслі людзям волю багоў. Арол — Дзеўсаву, ястраб, крумкач — Апалонаву, варона, сава, чайка, чапля — Афініну, дзяцел — Арэсаву. Разабрацца ў прарочых складанасцях мог толькі спецыяльны варажбіт. Стаўшы тварам на поўнач, ён сачыў, з якога боку надляталі птушкі. З правага боку — вяшчалі спагаду багоў, з левага — іх непрыхільнасць. Мелі значэнне не толькі кірунак, але вышыня, хуткасць лёту, уклад ног, крык (умелы варажбіт мог адрозніць шэсцьдзесят чатыры адценні крыку крумкача), і з усяго гэтага выводзілася канчатковае меркаванне.

Таямніцы варажбы перадаваліся вусным спосабам — ад бацькі да сына.

Стар. 54. *Іакх* — боства нявысветленага паходжання; часта атаясамлівалася з Дыянісам.

*«Эвоэ!»* — культавы ўсклік на святкаваннях Дыяніса.

Стар. 55. *Ітыс* — паводле старажытнагрэцкага міфа, сын фракійскага цара Тэрэя і афінскай царэўны Прокны.

Тэрэй, здрадзіўшы з жончынай сястрою Філаменаю, выразаў ёй язык, упэўнены, што цяпер яго Прокна ніколі не даведаецца пра здраду.

І тады Філамена выткала дыван, на якім паказвала, што з ёю ўчыніў Тэрэй. Сёстры ў помсту цару забілі Ітыса. А пасля, баючыся кары, упрасілі вярхоўнага Дзеўса абярнуць іх у птушак. І цяпер штовясны яны, ужо салавей і ластаўка, пяючы, аплакваюць няшчасную Ітысаву долю. Тэрэй жа быў абернуты ў ястраба ці ва ўдода (розныя варыянты міфа).

Стар. 59. *Мэліі* — німфы, якія нарадзіліся з зямлі, акропленай крывёю Урана.

*Дрыяды* — драўляныя, г. зн. лясныя німфы.

*Гэлеі* — балотныя німфы.

Стар. 62. *...дбае іншы бог...*— гэта значыць Эрас.

*Драхма* — «жменя», старажытнагрэцкая мера вагі (4,366 г) і сярэбраная манета. Такія грошы — тры тысячы драхмаў — рабілі адразу Дрыяса заможным.

Стар. 63. *...выбіваць малацільнымі дошкамі калоссе...*— Згаданы тут спосаб малацьбы палягаў на тым, што валы цягнулі па калоссі (грэкі зжыналі толькі каласы, салома аставалася на полі і ішла на ўгнаенне — яе спальвалі) драўляныя дошкі даўжынёю два з палавінай метры з замацаванымі знізу жалезнымі зубамі ці вострым каменнем. Часам паганяты сам станавіўся на дошкі, каб абцяжарыць іх. Пустое калоссе адкідвалася віламі з трыма зубамі, пасля чаго збожжа веялі на ветры драўлянымі шуфлікамі накшталт вясла (сіты ўжываліся рэдка).

Стар. 65. *Горы* — багіні пораў года, яснага надвор'я, ураджаю, юнацтва і красы; спадарожніцы багоў, пераважна Афрадыты.

*Афрадыта* — багіня кахання і красы, маці бога кахання Эраса. Паводле адной версіі міфа, дачка Дзеўса і Дыёна, паводле другой — нарадзілася з марскіх хваль і зефірам пасля была перанесена на востраў Кіпр (адсюль яе эпітэт Кіпрыда). Платон адрозніваў Афрадыту Уранію (Нябесную) — увасабленне кахання і Афрадыту звычайную — увасабленне цялеснага, пажадлівага кахання. Мужам Афрадыты быў бог агню і кавальства кульгавы Гефест, якому яна здраджвала з Арэсам, богам вайны. Калі Гефест даведаўся пра гэта ад Геліяса, бога сонца, ён расставіў сеткі, якія і схапілі каханкаў у чуллівай паставе. Скліканыя Гефестам на месцы злаўчынку багі выказалі, аднак, замест абурэння захапленне цудоўнаю параю.

Тут, у аповесці, маецца на ўвазе спрэчка пра залаты яблык — «яблык разладу» — трох багінь — Афрадыты, Геры і Афіны.

Стар. 66. *...той жа быў пастух авечак...*— Парыс.

*Плетр* — адна шостая стадыя, г. зн. каля 31 м.

Стар. 67. *Ахвярнік* у антычныя часы знаходзіўся не ўсярэдзіне капліцы, а перад ёю.

*Семела.*— Міфы пра Дыяніса расказваюць, што ён нарадзіўся ад Дзеўса і яго каханкі Семелы. Дзеўсава жонка Гера, каб адпомсціць Семеле, прыняла выгляд яе карміліцы і ўзбудзіла ў яе жаданне пераканацца навочна, што яе каханы сапраўды бог, за якога ён сябе выдае, а таму папрасіла Дзеўса, каб ён з'явіўся перад ёю ва ўсёй боскай велічы з громам і маланкамі. Вымушаны клятваю, ён паўстаў перад ёю ў полымі перуноў, і смертная Семела не вытрымала нябеснага агню. Паміраючы, яна заўчасна нарадзіла Дыяніса, якога, аднак, ўратаваў Дзеўс, уклаўшы сабе ў сцягно, а калі надышла пара, пусціў яго на свет.

*Арыядна* — дачка крыцкага цара Мінаса, якая дапамагала Тэсею забіць страшыдла Мінатаўра; яму афіняне мусілі пасылаць штогод ганебную даніну — сем хлопцаў і сем дзяўчат. Яна дала каханаму клубочак нітак, які і вывеў Тэсея з лабірынта, дзе жыў Мінатаўр і адкуль ніхто дагэтуль з-за дзіўна заблытаных калідораў не мог знайсці выйсця (адсюль выраз «нітка Арыядны»). Тэсей пасля ўцёк з кахання на востраў Наксас, дзе пакінуў яе, калі яна спала. Там яе знайшоў Дыяніс і ажаніўся з ёю.

*Лікург* — фракійскі цар, які забараняў святкаванне вакханалій. Разгневаны Дыяніс зняволіў яго ў пячоры.

*Пентэй* — малады фіванскі цар, які таксама выступаў супраць вакханалій. Дыяніс за гэта пазбавіў розуму яго маці, і тая, прыняўшы свайго сына за дзікага звера, разам з яго сёстрамі і іншымі вакханкамі разарвала яго.

*...пераможаныя індыйцы і тырэнцы, перакінутыя ў дэльфінаў...* — Паводле міфаў, Дыяніс, ідучы на Усход, пакарыў Індыю. Маракоўпіратаў, якія хацелі схапіць і прадаць у няволю Дыяніса, што пад выглядам прыгожага дзецюка пераплываў з імі на караблі праз Эгейскае мора, ён абярнуў у дэльфінаў. Тырэнія, ці Этрурыя — вобласць у Італіі.

Стар. 68. *Эўдрам* — грэцкае імя, якое можна перакласці: «хуткі ў бегу».

Стар. 69. *Марсій* — сатыр, які, знайшоўшы кінутую Афінаю флейту, адважыўся спаборнічаць у ігры з Апалонам, але быў пераможаны. Абражаны Апалон садраў з яго скуру і павесіў у пячоры. Гэтая скура нібы трымцела з радасці, калі ігралі на флейце.

Стар. 70. *Парасіт* — прафесійны нахлебнік. Ці не каля кожнай багатай сям'і ўвіваўся такі дзяньгуб, які, забаўляючы гаспадара, жыў на яго кошт.

*...духмянае лесбаскае віно...* — Лесбаскае віно славілася сваім водарам і слодыччу.

Стар. 72. *Дэметра* — дачка Крона і Рэі, багіня-апякунка земляробаў; у мастацтве яе паказвалі са снапом у руках, ёй прысвячалася свята ўраджаю.

*Лаамедант* — цар Троі, Прыямаў бацька; Апалон у яго на працягу года пасвіў статак у пакаранне за забойства.

*Хітон* — у старажытных грэкаў вузкая кашуля без рукавоў, якая надзявалася на голае цела; *хламіда* — шырокі плашч, яго накідвалі паверх хітона.

Стар. 74. *Анхіс* — малаазійскі цар, у якога, калі ён аднаго разу пасвіў статак, закахалася Афрадыта. Багі, разгневаўшыся на Афрадыту за тое, што яна ўвесь час спасылае ім каханне да людзей, а сама ні разу не кахала смертнага, прымусілі яе закахацца ў Анхіса, ад яго і нарадзіўся ў яе Эней. Афрадыта забараніла Анхісу раскрываць таямніцу іх кахання, але Анхіс не ўтрываў і за гэта быў скалечаны маланкаю.

*Бранх* — прыгожы, малады пастух, улюбёнец (паводле іншых міфаў, сын) Апалона, які абдарыў яго ўменнем прадбачыць будучыню.

*Ганімед* — фрыгійскі (траянскі) царэвіч, сваёю красою так моцна ўразіў Дзеўса, што быў выкрадзены Дзеўсавым арлом (або самім Дзеўсам, які перакінуўся ў арла) і ўзнесены на Алімп; там цар багоў зрабіў яго сваім віначэрпам.

Стар. 76. *Мойры* — багіні лёсу; паводле міфа, іх тры: адна прадзе

нітку жыцця, другая вымае, не гледзячы, лёс, што выпаў чалавеку, трэцяя абцінае нітку жыцця.

Стар. 82. *Харэгія* — абавязак, які ўскладаўся на багатага грамадзяніна — на свой кошт наняць, адзець і навучыць хор да свята.

*Трыерархія* — выправа за свой кошт трыеры для дзяржавы; трыера — судна з трыма радамі весляроў.

Стар. 83. *Філапемен* — па-старажытнагрэцку значыць «той, хто любіць пастухоў», «пастухалюб», а Агела — «чарада», «атара».

## ПЕРЛЫ РАМАНА

# ЗМЕСТ

